**А. А. ДАНІЛЬЧЫК**

# ESSENTIA HOMINIS

КАНЦЭПЦЫЯ ЧАЛАВЕКА
Ў БЕЛАРУСКАЙ І ІТАЛЬЯНСКАЙ ПРОЗЕ ХХ СТАГОДДЗЯ
НА ТЭМУ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Манаграфія

Мінск
Нацыянальная бібліятэка Беларусі
2022

УДК 821.161.3.09 + 821.131.1.09
ББК 83.011(4Беи) + 83.011(4Ита)
Д18

Рэцэнзенты:
*доктар філалагічных навук С. У. Калядка*
*кандыдат філалагічных навук Г. М. Бутырчык*

*У афармленні вокладкі выкарыстаны фотаздымак А. Данільчык (скульптура «Рэха» Марка Дзіду ў Турыне, Італія).*

**Данільчык, А. А.**
Д18 ESSENTIA HOMINIS : канцэпцыя чалавека ў беларускай і італьянскай прозе XX стагоддзя на тэму Другой сусветнай вайны : манаграфія / А. А. Данільчык. – Мінск : Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2022. – 182 с.
ISBN 978-985-7293-10-0.

У манаграфіі разглядаецца канцэпцыя чалавека ў беларускай і італьянскай прозе XX стагоддзя на тэму Другой сусветнай вайны. На прыкладзе твораў А. Адамовіча, Я. Брыля, В. Быкава, К. Чорнага, І. Чыгрынава, Э. Вітарыні, М. Вентуры, П. Леві, А. Маравія, Б. Фенольё і іншых аўтараў вызначаюцца асноўныя тэндэнцыі ў рэпрэзентацыі ўнутранага свету асобы. На падставе аналізу дынамікі эвалюцыі канцэпцыі чалавека вызначаюцца стадыі яе фарміравання і эстэтычна-філасофскія характарыстыкі кожнай з іх. Адзначаецца сувязь развіцця ваеннай прозы з сацыяльна-гістарычным фонам у краіне, акцэнтуецца ўвага на паглыбленні гуманістычнага падыходу да асэнсавання асобы, інтэнцыі да ўскладнення ўнутранага свету героя, асуджэння любога гвалту над чалавекам, сцвярджэння жыцця як найвялікшай каштоўнасці.

Выданне адрасавана літаратуразнаўцам, спецыялістам у галіне філалогіі, культуралогіі і іншых гуманітарных дысцыплін, а таксама выкладчыкам і студэнтам ВНУ.

**УДК 821.161.3.09 + 821.131.1.09**
**ББК 83.011(4Беи) + 83.011(4Ита)**

**ISBN 978-985-7293-10-0**

# УВОДЗІНЫ

Чалавек, безумоўна, ёсць галоўны аб'ект даследавання не толькі філасофскай антрапалогіі, але і літаратуры, а трагічныя падзеі XX стагоддзя далі багаты матэрыял для вывучэння чалавечай прыроды. У выніку ў розных па жанры і стылі творах на тэму вайны надаецца вялікая ўвага праблеме чалавека ва ўмовах, не спрыяльных для нармальнага існавання, якая вырашаецца з філасофскіх, сацыяльных і псіхабіяфізічных пазіцый. У літаратурных творах адлюстраваліся пытанні ўзаемадзеяння чалавека і гісторыі, чалавека і знешніх абставін, жыццёвай філасофіі чалавека, свабоды і неабходнасці выбару, а таксама дэтэрмінаванасці выбару канкрэтнай асобы ў канкрэтны час і ў канкрэтным месцы. Акрамя таго, застаецца актуальнай патрэба вяртання да падзей Другой сусветнай вайны і чалавека ў яе варунках, звязаная з адкрыццём новых дакументаў і падрабязнасцей самай трагічнай старонкі гісторыі XX стагоддзя, з тым, што кожнае новае пакаленне мае неабходнасць ва ўласнай рэфлексіі над праблемай чалавека, і з тым, што ваенныя падзеі працягваюць адгукацца ў нашы дні.

Проза, прысвечаная Другой сусветнай вайне, і праблемы, якія яна актуалізуе, з'яўляюцца неад'емнай часткай сусветнай культуры другой паловы XX стагоддзя. Тэма вайны стала адной з галоўных тэм беларускай літаратуры дзякуючы шэрагу прычын у першую чаргу грамадска-палітычнага характару і актыўна даследавалася айчыннымі літаратуразнаўцамі. Тэксты дадзенай тэматыкі разглядаліся ў асобнай тэматычнай групе пачынаючы з канца 1950-х гадоў у кантэксце сучаснай беларускай літаратуры як самастойны аб'ект з уласнымі канцэпцыяй, вобразнай сістэмай, сімваламі і іншымі атрыбутамі. Такія навуковыя працы, як «Беларускі раман. Станаўленне жанру» (1961) А. Адамовіча, «Беларускі раман аб Вялікай Айчыннай вайне» (1964) П. Дзюбайлы, «На эпічным накірун-

ку. Подзвіг народа ў беларускім рамане» (1969) Н. Пашкевіча, «Пафас гераізму. Сучасная савецкая проза аб Вялікай Айчыннай вайне» (1979) Э. Гурэвіч, «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» (1982) А. Адамовіча і іншыя падкрэслівалі эвалюцыйны характар развіцця беларускай прозы на ваенную тэму, у іх аналізаваліся эстэтычныя вартасці і мастацкія недахопы твораў. Найбольшая колькасць даследаванняў дадзенага пласта айчыннай літаратуры з’явілася ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Беларускімі навукоўцамі была падрыхтавана і выдадзена серыя навуковых і навукова-папулярных кніг, у якія разглядаліся розныя аспекты ваеннай літаратуры: Э. Гурэвіч прысвяціла кнігу «Боль і трывога нашы» (1986) адлюстраванню ў літаратуры праблемы ваеннага дзяцінства, В. Каваленка ў даследаванні «Агульнасць лёсаў і сэрцаў» (1985) імкнуўся разглядаць беларускую ваенную прозу ў кантэксце сусветнай літаратуры, М. Тычына ў кнізе «Народ і вайна» (1985) засяроджваў увагу на нацыянальным характары як аб’екце адлюстравання ў ваеннай прозе, і нарэшце матэрыялы навуковай канферэнцыі «Літаратура аб вайне і праблемы стагоддзя» (1986) падсумоўвалі дасягненні ў распрацоўцы гэтай тэмы. Заслужаную цікавасць выклікала кніга В. Жыбулі «Беларуская проза аб вайне і класічная трагедыя» (1986), у якой літаратуразнаўца падкрэсліў: «“Ваенная”» плынь літаратуры – адна з самых магутных, і ад яе стану залежыць агульны клімат усёй літаратуры» [99, с. 4].

У далейшым інтэнсіўнасць даследаванняў дадзенай тэмы пайшла на спад, саступаючы месца іншай праблематыцы, аднак не спынілася і ў апошнія гады XX стагоддзя. Літаратура на ваенную тэматыку і далей не заставалася па-за ўвагай беларускага літаратуразнаўства. З’явіліся кнігі такіх даследчыкаў, як Т. Грамадчанка («Перад праўдай высокай і вечнай» (1991)), І. Афанасьеў («Хто ўзыходзіць на Галгофу? Антываенная ідэя ў творчасці Васіля Быкава» (1993)), П. Васючэнка («Пошукі стра-

чанага дзяцінства: Беларускія празаікі “сярэдняга пакалення” аб Вялікай Айчыннай вайне» (1995)), В. Локун («Маральна-філасофскія праблемы беларускай ваеннай і гістарычнай прозы: 1950–60-я гады» (1995)) і іншых; рэгулярна публікаваліся артыкулы В. Акудовіча, С. Дубаўца, У. Конана, Е. Лявонавай, А. Марціновіча, М. Тычыны і многіх іншых даследчыкаў у перыядычным друку. Асаблівасць навуковых прац апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя заключалася ў тым, што дзякуючы распаду Савецкага Саюза, аслабленню ідэалагічнага ціску і набыццю незалежнасці Рэспублікай Беларусь аналіз паступова змяшчаўся да беларусацэнтрычных пазіцый - такім чынам даследчыкі імкнуліся высветліць, якія наступствы мелі ваенныя падзеі непасрэдна для беларускага народа. Яшчэ адна тэндэнцыя, якая з часам усё больш паглыбляецца, палягае ў тым, што самі падзеі Другой сусветнай вайны разглядаюцца як непазбежны працяг працэсаў, звязаных з Першай сусветнай вайной і міжваенным перыядам. У пачатку XXI стагоддзя беларускія навукоўцы працягваюць звяртацца да праблемы чалавека на вайне. Сярод даследаванняў дадзенай тэматыкі адзначым артыкул У. Навумовіча «Канцэпцыя чалавека на вайне ў беларускай літаратуры: праблема інтэлектуалізацыі прозы» (2005), зборнік артыкулаў «Вытокі мужнасці спасцігаючы» (2006), дапоўненае і пашыранае перавыданне кнігі М. Тычыны «Народ і вайна» (2015) і інш. Аднак варта заўважыць, што, хоць ваенная проза аналізавалася плённа і рознабакова, канцэпцыя чалавека да пэўнага часу не вылучалася ў якасці самастойнага прадмета вывучэння, тым больш у галіне кампаратывістыкі.

Неабходна адзначыць, што адметнае і агульнае ў развіцці айчыннай літаратуры ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі літаратурамі выклікае ўсё большую ўвагу навукоўцаў, бо сучасны чалавек, адчуваючы сябе часткай сусветнага грамадства, імкнецца выявіцца ў двух напрамках: як прадстаўнік

пэўнай нацыянальнай еднасці і як носьбіт агульначалавечага вопыту. Вывучэнне беларускай літаратуры ў яе тыпалагічных сувязях дазваляе ўбачыць праз агульныя заканамернасці літаратурнага працэсу непаўторнасць гістарычнага і культурнага шляху, асаблівасці нацыянальнага менталітэту беларусаў. Актуальнасць такога параўнання ў наш час вызначаецца не толькі задачамі захавання нацыянальнай ідэнтычнасці ў часы глабалізацыі, але і патрэбамі дзяржаўнага будаўніцтва. Беларускае літаратуразнаўства мае патрэбу ў пашырэнні метадалагічных сістэм, няспынным знаёмстве з разнастайным па змесце і форме мастацкім і навуковым матэрыялам замежных краін.

Эвалюцыя нацыянальных літаратур у апошнія дзесяцігоддзі як ніколі ўзаемазвязана з агульнымі мастацкімі працэсамі сусветнай літаратуры. Развіццё сродкаў камунікацыі надало сацыяльна-палітычнаму і культурнаму жыццю чалавека інтэрнацыянальны характар, таму ў сучасных даследаваннях беларускай літаратуры на першы план выйшла праблема вывучэння тыпалогіі і ўзаемасувязей паміж нацыянальнай і сусветнай літаратурамі. «Параўнальнае літаратуразнаўства – гэта метадычная дзейнасць, накіраваная на супастаўленне літаратуры з іншымі выяўленчымі формамі і галінамі ведаў, а таксама… літаратурных з’яваў, у тым ліку… тэкстаў, як блізкіх у часе і прасторы, так і далёкіх. <…> Яно ажыццяўляецца шляхам пошуку сувязяў і аналогіяў, падобнасцяў і ўплываў» [41, с. 210], адзначаецца ў кнізе «Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?» французскіх аўтараў П. Брунэля, К. Пішуа і А.-М. Русо. На сённяшні дзень кампаратывістыка вылучана ў перспектыўную галіну беларускай філалагічнай навукі, у выніку даследчыцкая праца ў дадзеным кірунку набыла шматвектарны характар. У якасці прыкладу такіх даследаванняў адзначым манаграфію Г. Бутырчык «Архетып Бацькаўшчыны ў творчасці Джона Стэйнбека і Кузьмы Чорнага» (2003), курс

лекцый А. Мельнікавай «Беларуская літаратура XX стагоддзя ў еўрапейскім кантэксце» (2007), манаграфіі Т. Тарасавай «Духоўны досвед беларускай прозы XX ст. і еўрапейскі кантэкст» (2009), Е. Лявонавай «Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад» (2014), З. Траццяк «Паэтыка амерыканскай і беларускай прозы пра Першую сусветную вайну: (на прыкладзе творчасці Э. Хемінгуэя і М. Гарэцкага)» (2015) і «Беларуская і амерыканская проза пра Першую сусветную вайну: узроўні параўнальнага вывучэння» (2021) і іншыя выданні.

Беларускае літаратуразнаўства мае прыклады і тыпалагічнага вывучэння прозы, прысвечанай Другой сусветнай вайне ў кантэксце еўрапейскіх літаратур. У навуковых працах дадзенай тэматыкі асэнсоўваліся розныя ракурсы ўздзеяння вайны на асобу, адлюстраваныя ў розных па жанрах творах. Інтэнсіўнасць такіх даследаванняў дасягнула максімума ў сярэдзіне 1980-х гадоў, але рэдка закранала літаратуры па-за межамі сацыялістычнага лагера. Гэта працы В. Каваленкі «Общность судеб и сердец» (1985), Е. Лявонавай «Проза ГДР 50-х – 60-х годов о второй мировой войне: (вопросы жанра и стиля)» (1984), Т. Тарасавай «Проблема “человек и война” в творчестве Максима Горецкого и Анри Барбюса» (1986), Г. Тварановіч «Беларуская і югаслаўская ваенная проза: эвалюцыя псіхалагізму» (1983), У. Сакалоўскага «Пара станаўлення. Вопыт параўнальнага вывучэння беларускай і некаторых класічных зарубежных літаратур» (1986), І. Шаблоўскай «Самой высокой мерой: современная проза европейских социалистических стран о войне» (1984) і іншыя, якія тым не менш значна пашырылі межы беларускай гуманітарнай навукі. Аднак у навучальных установах Савецкай Беларусі ні італьянская мова ў якасці асноўнай спецыяльнасці, ні італьянская літаратура да канца 1990-х гадоў не выкладаліся, таму беларускія крытыкі хоць і аналізавалі некаторыя творы

італьянскіх аўтараў у кантэксце асэнсавання еўрапейскай літаратуры, аднак іх колькасць была вельмі нязначная. У межах былога Савецкага Саюза італьянская літаратура XX стагоддзя даследавалася больш актыўна, напрыклад, такімі навукоўцамі, як З. Патапава, Ц. Кін, Г. Брэйтбурд і іншымі, рэгулярна разглядалася таксама ў навуковых артыкулах у часопісах «Вопросы литературы» і «Иностранная литература», публікаваліся і пераклады мастацкіх твораў, хоць і з пэўнымі купюрамі, але тым не менш яны былі даступны і беларускім даследчыкам. У самой Італіі ваенная проза таксама прыцягвала ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў, ёй прысвяцілі свае артыкулы і навуковыя даследаванні І. Кальвіна [258], Дж. Фаласкі [266, 267, 268], С. Брыюзі [257], Р. Бігаці [253] і інш. Дадзеная манаграфія з'яўляецца першай у беларускім літаратуразнаўстве працай, у якой мы звяртаемся да італьянскай прозы XX стагоддзя з мэтай правесці параўнальна-тыпалагічны аналіз канцэпцыі чалавека ў беларускіх і італьянскіх творах на ваенную тэму.

Беларусь, а дакладней беларускія землі, і Італію звязваюць шматвекавыя культурныя і эканамічныя стасункі, аднак падзеі XX стагоддзя ўнеслі ў гісторыю дзяржаў не адну трагічную ноту. Так, Беларусь і Італія былі ўцягнуты ў Першую сусветную вайну, на тэрыторыі абедзвюх краін адбываліся ваенныя дзеянні. Трагедыя беларускага народа на акупіраванай нямецкай арміяй (якую ў Беларусі называлі «першыя немцы») тэрыторыі і такая з'ява, як бежанства, толькі цяпер паўстаюць аб'ектам увагі гісторыкаў, як і сам факт Вялікай вайны на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Ваенныя дзеянні адбываліся і на поўначы сучаснай тэрыторыі Італіі, якая ўступіла ў Першую сусветную вайну 24 мая 1915 года на адным баку з Расійскай імперыяй. Падрабязны разгляд такіх далёкіх гістарычных паралеляў не ёсць наша задача, аднак вядома, што Першая сусветная вайна пакі-

нула Еўропе шэраг нявырашаных праблем, якія ў выніку прывялі да Другой сусветнай вайны. Нельга пакідаць па-за ўвагай і развіццё літаратуры ў міжваенны перыяд, які мае таксама свае асаблівасці.

У 1922 годзе пасля вядомага «рымскага маршу» ў Італіі, якая была канстытуцыйнай манархіяй, усталявалася ўлада фашысцкай партыі на чале з Беніта Мусаліні, і гэта падзея мела пэўныя наступствы для італьянскай літаратуры, звязаныя ў першую чаргу з лаяльнасцю аўтараў да ўлад. Што датычыцца пазіцыі італьянскіх пісьменнікаў і стаўлення да фашызму ў гады праўлення Мусаліні, то вядомы італьянскі крытык Джуліяна Манакорда адзначае, што іх можна падзяліць на тры групы: тых, хто адкрыта заяўляў пра нязгоду з рэжымам і заплаціў за гэта ў лепшым выпадку выгнаннем: Дж. Амэндала (Giorgio Amendola, 1907–1980), П. Габеці (Piero Gobetti, 1901–1926), А. Грамшы (Antonio Gramsci, 1881–1937), І. Сілонэ (Ignazio Silone, 1900–1978) і іншыя; тых, хто падтрымліваў фашызм: У. Айеці (Ugo Ojetti, 1971–1946), Дж. Джэнціле (Giovanni Gentile, 1875–1974), А. Софічы (Ardengo Soffici, 1897–1964) і іншыя; і тых, хто з ім суіснаваў, магчыма, ідучы на пэўныя кампрамісы, аднак працягваў сваю літаратурную дзейнасць, «і гэта безумоўная, калі не сказаць абсалютная, большасць пісьменнікаў»[1] [278, p. 64]. Што датычыцца самых, бадай, значных аўтараў перадваеннага перыяду Габрыэле Д'Анунцыа (Gabriele D'Annunzio, 1863–1938) і лаўрэата Нобелеўскай прэміі за 1934 год Луіджы Пірандэла (Luigi Pirandello, 1867–1936), то Д'Анунцыа падтрымліваў Мусаліні ўсё жыццё пачынаючы яшчэ з 1919 года, а Пірандэла ў 1927 годзе выйшаў з фашысцкай партыі і аддаліўся ад актыўнай публічнай дзейнасці. Аднак не зважаючы на ціск прапагандысцкай рыторыкі, пры ўсіх цяжкасцях існавання ў таталітарным грамадстве,

[1] Тут і далей пераклад з італьянскай мовы на беларускую А.А. Данільчык, акрамя асобных выпадкаў згодна са спісам выкарыстанай літаратуры.

італьянскія пісьменнікі мелі значна большыя магчымасці для творчай рэалізацыі, чым беларускія.

У 1939 годзе Італія разам з нацысцкай Германіяй уступіла ў Другую сусветную вайну, у якой удзельнічала 330 тыс. італьянскіх салдат (руская і афрыканская кампаніі), з іх толькі 115 тыс. пашанцавала выратавацца. З верасня 1943 года, пасля пагадненняў з саюзнікамі аб выхадзе з вайны, па красавік 1945 года італьянская зямля зведала нямецкую акупацыю, а лёс шматлікіх беларускіх хатыняў напаткаў італьянскія вёскі Мардзабота і Бовес, спаленыя разам з жыхарамі. Пасля падзення фашысцкай дыктатуры і выгнання нямецкіх захопнікаў, сітуацыя ў краіне змянілася, культура пазбавілася ўціску ідэалогіі фашысцкага рэжыму. Вынікам гэтага вызвалення і стаў якасны і колькасны ўздым мастацкай актыўнасці ў літаратуры пасляваеннага перыяду, які выявіўся найперш у прозе неарэалізму.

З канца 1920-х – пачатку 1930-х гадоў у Савецкім Саюзе набірае сілу таталітарны рэжым Сталіна і многія з пісьменнікаў, чыя творчасць не адпавядала патрабаванням афіцыйнай культурнай праграмы, у прыватнасці абвешчанаму ў 1934 годзе метаду сацыялістычнага рэалізму, знішчаюцца фізічна або пазбаўляюцца магчымасці ўдзельнічаць у літаратурным працэсе. Што датычыцца Беларусі, то гэта ў той ці іншай ступені закранула большасць пісьменнікаў і ў далейшым мела трагічныя наступствы для развіцця нашай літаратуры.

Тым не менш як для беларускай, так і для італьянскай прозы ваенныя падзеі, непасрэдная барацьба супраць нацызму і фашызму сталі важнымі тэматычнымі кірункамі. Атмасфера маральнага ўздыму, створаная ў Італіі рухам Супраціўлення, асабісты ўдзел многіх пісьменнікаў у ваеннай кампаніі, цесныя кантакты інтэлектуалаў з народам стварылі перадумовы для нараджэння новай літаратурнай свядомасці, якая выявілася

ў плыні неарэалізму. Асноўнымі тэмамі італьянскіх неарэалістаў сталі штодзённае жыццё на акупіраванай тэрыторыі, аблавы, расстрэлы, партызанская барацьба, забастоўкі і лёс простых людзей пасля вайны. Гэта падкрэслівала разрыў з літаратурай 1930-х гадоў, якая часта засяроджвалася на фармалістычных пошуках і асноўную ўвагу надавала суб'ектыўным перажываням. Немалую ролю адыгрываў і моўны аспект: неарэалісты карысталіся мовай, максімальна набліжанай да народнай, часта – наўпрост да дыялектаў. Літаратура ў пэўным сэнсе набывала масавы характар.

У адпаведнасці са зменай тэматыкі змяніўся і пратаганіст літаратурных твораў, а таксама ракурс асвятлення: у цэнтр увагі трапіў чалавек з народа як герой гістарычных падзей і пераможца ў вайне. У шырокім сэнсе мэтай творчасці неарэалістаў было аб'ектыўнае адлюстраванне рэчаіснасці, сцвярджэнне новых дэмакратычных каштоўнасцей, часта афарбаваных камуністычнымі ідэаламі. Італа Кальвіна (Italo Calvino, 1923–1985) адзначаў: «Літаратурны выбух у Італіі тых гадоў быў больш як мастацкай, з'яваю філасофскаю, сутнаснаю, калектыўнаю» [258].

Безумоўна, палітычная сітуацыя ў Італіі і на Беларусі напярэдадні і пасля Другой сусветнай вайны была рознай, але для паглыблення псіхалагізму і аб'ектыўнасці італьянскім і беларускім пісьменнікам важна было пераадолець сацыялагізатарскія тэндэнцыі, якія навязваліся кіраўніцтвам абедзвюх краін літаратуры і мастацтву і ставілі ў цэнтр твора не чалавека, а ідэалогію.

Неабходна адзначыць, што замест тэрміна «ваенная проза (літаратура)» нам падаецца больш мэтазгодным выкарыстанне тэрміна «проза (літаратура) на тэму Другой сусветнай вайны», што дазваляе далучыць да аналізу тыя творы, дзе вайна не толькі хранатоп дзеянняў герояў, важную частку таксама складае проза, у якой ваенныя падзеі фігуруюць ускосна –

як рэха мінулага ці толькі як гістарычны кантэкст. Апошнія тэндэнцыі больш характэрны для твораў, напісаных пасля многіх гадоў пасляваеннага жыцця, у якіх падзеі мінулай вайны глыбока асэнсаваныя і не з'яўляюцца галоўным крытэрыем ацэнкі для асуджэння ці апраўдання героя (альбо антыгероя), гэта значыць аналіз яго дзеянняў адбываецца з пазіцый іншых катэгорый – аксіялагічных, эстэтычных, філасофскіх, духоўных: дабро – зло, Бог – д'ябал, чалавек – нечалавек. Аднак паколькі тэрмін «ваенная проза» ўжо стаў традыцыйным у беларускім літаратуразнаўстве, то і яго далейшае выкарыстанне ўяўляецца мэтазгодным. У прыватнасці, разглядаюцца раманы і аповесці такіх пісьменнікаў, як А. Адамовіч, Я. Брыль, В. Быкаў, І. Чыгрынаў, К. Чорны, Э. Вітарыні (Elio Vittorini, 1908–1966), М. Вентуры (Marcello Venturi, 1925–2008), К. Касола (Carlo Cassola, 1917–1987), І. Кальвіна, Б. Фенольё (Beppe Fenoglio, 1922–1963) і іншых аўтараў. Адбор і сістэматызацыя літаратурнага матэрыялу адбываецца не толькі зыходзячы са значнасці пэўнага твора для развіцця нацыянальнай літаратуры, але і з яго паказальнасці ў плане агульных тэндэнцый развіцця еўрапейскай і сусветнай літаратур. Гэта творы, у якіх прэзентуецца чалавек з пункту гледжання сукупнасці яго якасцей, у якіх уздымаюцца і вырашаюцца экзістэнцыяльныя пытанні чалавечага быцця. Не застаецца па-за ўвагай і гістарычна-сацыяльны фон, а таксама ўплывы гістарычных падзей на развіццё літаратурнага працэсу.

Неабходна адзначыць, што манаграфія не прэтэндуе на ўсеахопнасць і вычарпальнасць, бо поўны і падрабязны аналіз праблематыкі, звязанай з распрацоўкай канцэпцыі чалавека, тым больш з выкарыстаннем усяго літаратурнага матэрыялу, немагчымы ў межах аднаго даследавання. У дадзеным выпадку мае значэнне сама пастаноўка праблемы і комплексны аналіз магчымасцей яе вырашэння.

У другой палове XX стагоддзя многія сацыяльныя з’явы патрабавалі разгляду і асэнсавання з пазіцый звароту да чалавека, вызначэння самой сутнасці ў яго прыродзе. У гэтым кірунку працавалі ўсе гуманітарныя навукі і асабліва літаратура, якую нездарма называюць чалавеказнаўствам. Мадэлі рэчаіснасці, адлюстраваныя літаратурай, і адносіны паміж героямі мастацкіх твораў не толькі суадносіліся са светапоглядными каштоўнасцямі часу, але і актыўна ўзаемадзейнічалі з філасофскай думкай. В. Каваленка адзначаў: «“Паглыбленая” ўвага да трагічных станаў чалавека на вайне – характэрная асаблівасць усіх літаратур на сучасным этапе. Праўда, аднак, заключаецца ў тым, што трагедыйнае заўсёды прысутнічала ў літаратуры на тэму вайны не толькі ў якасці зместавага элемента, але і ў якасці важнейшай асновы канцэптуальнага разумення часу і падзей. Розніца – ва ўзроўні гэтага разумення» [130, с. 37].

У фарміраванні канцэпцыі чалавека ў беларускай і італьянскай ваеннай прозе другой паловы XX стагоддзя даволі выразна вылучаюцца тры перыяды, у адпаведнасці з якімі праводзіўся і аналіз твораў.

1940-я – сярэдзіна 1950-х гадоў – перыяд неарэалізму і з’яўлення вялікай колькасці твораў, прысвечаных ваенным падзеям у італьянскай літаратуры, і актуалізацыя беларускай прозы ваеннай тэматыкі. У італьянскай прозе асноўная ўвага надаецца паводзінам чалавека і яго антыфашысцкай барацьбе, а таксама ідэалагічнай аснове яго дзеянняў і ўчынкаў. Чалавек паўстае як удзельнік грандыёзнай падзеі, адзінка народнага руху. У сваю чаргу, беларуская літаратура не вызначаецца ні вялікай колькасцю твораў на ваенную тэму, ні, па вялікім рахунку, іх якасцю. Тым не менш і ў беларускай прозе гучыць матыў адзінкі «глыбокай плыні» (назва рамана І. Шамякіна).

Канец 1950–1970-х гг. – гэта перыяд інтэнсіўнага развіцця беларускай ваеннай прозы і паглыблення агульначалавечай

праблематыкі. Унутранаму свету чалавека надаецца асноўная ўвага ў літаратурным творы, ён робіцца цэнтрам падзей, пра якія распавядаецца ў творы. У той жа час італьянская літаратура адыходзіць ад ваеннай тэмы, у ёй пачынае дамінаваць праблематыка сучаснага жыцця і пасляваеннай трансфармацыі краіны. Гэта перыяд эканамічнага буму, і, натуральна, што іншыя праблемы выйшлі на першы план. Тым не менш ваенная літаратура ў Італіі працягвае існаваць і развівацца, часцей за ўсё гэтай тэме прысвячаюць творы тыя пісьменнікі, якія працавалі над ёй раней.

1980–1990-я гг. вызначаюцца новым падыходам да тэмы вайны і звязаных з ёй агульначалавечых праблем як у беларускай, так і ў італьянскай літаратурах. Але не толькі. Галоўная асаблівасць беларускай літаратуры дадзенага перыяду – асэнсаванне (часта пераасэнсаванне) ваенных падзей з пункту гледжання сучаснасці, а таксама ў рэчышчы ўсёй гісторыі XX стагоддзя. Вайна не ўзнікла сама па сабе, а стала вынікам папярэдняга развіцця гісторыі. Прыходзіць разуменне неабходнасці даваць ацэнку падзеям найперш з так званых беларусацэнтрычных пазіцый. На гэтым этапе адбываецца паварот да псіхалагічнага аналізу ўнутранага свету і матывацый тых, хто знаходзіўся на супрацьлеглым баку барацьбы, да пошукаў гармоніі і прымірэння чалавека і гісторыі. Уключэнне праблемы ў кантэкст усяго дваццатага стагоддзя дазваляе больш аб’ектыўна разгледзець і сам прадмет даследавання, і трансфармацыю падыходаў да ацэнкі ролі індывіда ў канкрэтных гістарычных умовах. У такім разе немагчыма аналізаваць літаратуру на тэму Другой сусветнай вайны, не прымаючы пад увагу літаратурную і сацыяльна-палітычную сітуацыю папярэдніх дзесяцігоддзяў – гэта аснова навуковага даследавання.

Неабходна таксама падкрэсліць, што працы многіх сусветна вядомых філосафаў і аналітыкаў, напрыклад, такіх як

Ханна Арэндт, якая, у прыватнасці, уздымала пытанне праблемы зла ў чалавеку непасрэдна ў часы Другой сусветнай вайны, сталі даступнымі для беларускіх інтэлектуалаў адносна нядаўна.

Нельга не пагадзіцца з С. А. Андраюком: «Літаратура любога перыяду – не толькі пэўны этап агульнага літаратурнага працэсу. Яна – істотны фактар, важны паказчык духоўнага жыцця грамадства і чалавека» [27, с. 3]. Канцэпцыя чалавека ў літаратуразнаўстве фармулюецца на аснове сукупных дасягненняў філасофскай, эстэтычнай і мастацкай думкі, вынікае і з таго часу, калі творы былі напісаны, і з таго гістарычнага моманту, пра які яны распавядаюць. Беларуская і італьянская проза на тэму Другой сусветнай вайны сведчыць, што галоўнае для чалавека – гэта духоўнасць, сумленнасць, высакароднасць, і што кожны чалавек мае патрэбу ў такіх умовах жыцця, якія б спрыялі выяўленню менавіта гэтых якасцей яго натуры, а не наадварот.

# 1. ЧАЛАВЕК ЯК АБ'ЕКТ ДАСЛЕДАВАННЯ

## 1.1. Праблема чалавека як праблема філасофская

Імкненне асэнсаваць у літаратуры падзеі XX стагоддзя, наступствы якіх адчуваюцца да сённяшняга дня як непасрэдна, так і ўскосна, непазбежна прыводзіць да аналізу праблемы існавання чалавека і чалавечай супольнасці – адной з цэнтральных у філасофіі і літаратуры. Праблема асобы ў філасофіі засяроджваецца на пытанні пра сутнасць чалавека, яго месца ў свеце, а таксама яго прызначэнне як суб'екта і аб'екта гісторыі. Акрамя таго, важнай характарыстыкай асобы з'яўляецца яго духоўная і маральная сутнасць.

Распрацоўка праблемы чалавека пачалася яшчэ ў антычнасці, адкуль паходзіць і тэрмін «антрапалогія», упершыню ўжыты Арыстоцелем (384–322 гг. да н. э.) для азначэння той галіны ведаў, якая вывучае пераважна духоўны бок чалавечай прыроды. У пачатку XX стагоддзя ўзнікае і спецыяльная філасофская дысцыпліна – «філасофская антрапалогія». Гісторыя XX стагоддзя і, у прыватнасці, Першая і Другая сусветныя войны, узнялі такія аспекты праблемы чалавека, як стаўленне да чалавечага жыцця, а таксама пытанні віны і адказнасці, у якасці дамінуючых праблем сучаснай антрапалогіі, якія разглядаліся як у філасофскіх працах, так і ў творах мастацкай літаратуры.

Калі зрабіць кароткі экскурс у гісторыю пытання, то Сакрат, якога лічаць заснавальнікам антрапацэнтрызму, першым з антычных аўтараў засяродзіў увагу на праблемах чалавечага быцця, пазнання чалавекам сябе самога, дабра і справядлівасці. Платон бачыў асноўную прычыну крызісу сучаснага яму грамадства ў тым, што светам правілі тыраны, якія не валодалі сапраўднай маральнасцю. Арыстоцель распрацаваў канцэпцыю катарсісу, у працэсе якога чалавек узвышае душу

і пераадольвае свае слабасці. Стоікі і эпікурэйцы разглядалі магчымасці шчасця для чалавека і шляхі яго дасягнення, пры гэтым стоікі прызнавалі роўнасць усіх людзей і паўплывалі на ранняе хрысціянства. У часы Сярэднявечча асноўная ўвага філасофіі была скіравана на спасціжэнне сутнасці Бога, тым не менш Фама Аквінскі лічыў чалавека самым выдатным яго стварэннем. Эпоха Адраджэння сфарміравала філасофію гуманізму, якая абвяшчала чалавека вышэйшай каштоўнасцю, узвышала чалавека-творцу, адмаўляла ўсякі гвалт над чалавечай асобай. Творы класікаў італьянскай літаратуры Адраджэння – Дантэ, Петраркі, Бакача – былі прасякнуты верай у неабмежаваныя магчымасці чалавека, што ў сутыкненні з праявамі рэальнага жыцця ўрэшце прывяло да непазбежнага крызісу гуманізму.

Філосафы XVII стагоддзя – Ф. Бэкан, Р. Дэкарт, Б. Спіноза – разглядалі чалавека як частку прыроды, спрабуючы ўстанавіць сувязь цела з душой. Асветнікі лічылі вытокам чалавечых няшчасцяў невуцтва і надавалі важную ролю выхаванню. Філасофія XVIII–XIX стагоддзяў у асобах Н. Гартмана, К. Леві-Строса, І. Канта, Ф. Ніцшэ і іншых паглыбіла разуменне чалавека, заклала асновы для ўсебаковага разгляду яго дзейнасці, але ў той жа час выявіла пэўныя супярэчнасці ў падыходах да асэнсавання чалавечай прыроды. І. Кант лічыў, што поспехі ў культуры маюць на мэце прымяненне ў жыцці ўсіх набытых ведаў, але самы галоўны прадмет у свеце, да якога гэтыя веды могуць прыкладацца, ёсць чалавек, бо ён сам для сябе свая апошняя мэта.

У XX стагоддзі філасофскія канцэпцыі папярэднікаў распрацоўваліся З. Фрэйдам, Б. Расэлам, Э. Фромам, К. Г. Юнгам, В. В. Зяньκоўскім, У. Н. Лоскім і многімі іншымі. І, нарэшце, нельга не згадаць такіх мысліцеляў, як Т. Адорна [23], Х. Арэндт [29, 30, 31], М. Хайдэгер [228], К. Ясперс [251] і іншых, чый унёсак у асэнсаванне падзей XX стагоддзя, інды-

відуальнага і сацыяльнага стасункаў, а таксама ў распрацоўку філасофіі экзістэнцыялізму з'яўляецца неацэнным.

Што датычыцца італьянскіх мысліцеляў, то гэта найперш працы Нікола Абаньяна (Nicola Abbagnano, 1901 – 1990) «Уводзіны ў экзістэнцыялізм» («Introduzione all'esistenzialismo», 1942) [1], «Мудрасць філасофіі і праблемы нашага жыцця» («La saggezza della filosofia. I problemi della nostra vita», 1987) [2] і іншыя, а таксама працы Рэма Кантоні (Remo Cantoni, 1914–1978) «Мысленне першабытных людзей. Прэлюдыя да антрапалогіі» («Il pensiero dei primitivi. Preludio ad un'antropologia», 1941) [261] і інш. Такім чынам, пытанне чалавечага існавання ўваходзіла ў шэраг прыярытэтных, у тым ліку і італьянскай гуманітарыстыкі.

## 1.2. Літаратурны метад і знешнія і ўнутраныя ўплывы

У другой палове 1940-х гадоў сітуацыя ў СССР была няпростай: інтэлігенцыя жыла надзеямі, што самае горшае засталося ў мінулым, што атмасфера ў краіне зменіцца на больш вольную, але гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся. 1946–1948 гады характарызуюцца непрыхаванай барацьбой супраць вальнадумства, працягваецца палітыка дзяржаўнага кіравання літаратурай, сціснутай рамкамі сацыялістычнага рэалізму з яго таталітарнай эстэтыкай. Але не зважаючы на спробы ўлад скіраваць творчую энергію непадобных па жыццёвым вопыце і творчай манеры пісьменнікаў у адзінае рэчышча, у савецкай літаратуры гэтага перыяду развіваюцца розныя ідэйныя і эстэтычныя плыні: канфармісцкая, з аднаго боку, і літаратура духоўнай апазіцыі, з другога, якія праяўляюцца і ў беларускай літаратуры. На гэта звяртае ўвагу, напрыклад, М. Мушынскі: «Верш "Смерць тырана" (маецца на ўвазе верш Я. Пушчы 1953 года. – *Заўвага А. Д.*) і іншыя, блізкія да яго з выяўленых твораў, апрача ўсяго іншага, прымушаюць даследчыкаў па-сур'ёзнаму разгледзець пытанне аб тым,

што ў беларускай літаратуры існавала ўнутраная апазіцыя сталінізму, ідэя супраціўлення антыдэмакратычным сілам» [170, с. 19].

У гэты час акрэсліваюцца і дзве канцэпцыі літаратурнага героя ваеннай прозы, два погляды на чалавека. Тэорыі ідэальнага героя (удзельніка вайны без адзінай плямы) супрацьпастаўлялася тэорыя прыземленага героя – жывога рэальнага чалавека, які зведаў падпольную барацьбу, палон, жыццё на акупіраванай тэрыторыі і іншыя нягоды. У выніку канцэпцыя ідэальнага героя стала часткай тэорыі бесканфліктнасці, пад уплывам якой мастацтва прымала аднамерны характар, і беларуская літаратура, як і ўсе нацыянальныя літаратуры савецкай краіны, адлюстравала гэтыя з’явы. Галоўнай праблемай для творцаў у гэтыя гады было пераадоленне павярхоўнасці ў адлюстраванні падзей мінулай вайны і ўнутранага свету чалавека на вайне.

У 1953–1956 гадах, пасля смерці Сталіна і XX з’езда камуністычнай партыі, рэалістычнае пераасэнсаванне мінулага ў беларускай літаратуры пачынае набываць дамінантныя пазіцыі, і калі ў першыя пасляваенныя гады тэма нядаўняй вайны многімі аўтарамі лічылася неактуальнай, аддавалася перавага тэме адраджэння і сацыялістычнага будаўніцтва (А. Стаховіч «Пад мірным небам» (1945–1947), У. Краўчанка «Станаўленне» (1946), М. Паслядовіч «Цёплае дыханне» (1946), Т. Хадкевіч «Вяснянка» (1947), А. Кулакоўскі «Гартаванне» (1948)), то з канца 1950-х гадоў адбываецца паварот да адлюстравання ваенных падзей. І гэта невыпадкова. Пасля XX з’езда і выкрыцця культу асобы, калі сітуацыя ў грамадскім і культурным жыцці краіны змянілася, і літаратура пачала дыхаць вальней, узнялася хваля цікавасці да радавога Вялікай Айчыннай вайны, узнікла патрэба паказаць яго «ва ўсёй... маральна-духоўнай велічы, каб сцвердзіць усведамленне, што былы ўдзельнік вайны варты таго, каб яго лічылі чалавекам» [176, с. 200]. Уласна

кажучы, гэта цікавасць стала вынікам індывідуалізацыі персанажаў і, у сваю чаргу, паўплывала на псіхалагізацыю твораў. З гэтага пункту гледжання важным этапам у беларускай літаратуры стане творчасць А. Адамовіча, В. Быкава, І. Навуменкі, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава і іншых пісьменнікаў, чый талент раскрыецца ў 1960–1970-я гады.

Калі гаварыць пра ўплывы на фарміраванне беларускай ваеннай прозы, то яны могуць быць як знешнія, так і ўнутраныя. Сярод твораў нацыянальнай літаратуры – дакументальная аповесць «На імперыялістычнай вайне» (1915) М. Гарэцкага, высока ацэненая А. Адамовічам, апавяданні М. Лынькова і раманы К. Чорнага. Менавіта ў раманах К. Чорнага ваеннага часу сфакусіраваны лепшыя дасягненні тагачаснай беларускай эпікі. Ён практычна выратаваў беларускую прозу. Вялікую ролю адыгралі таксама амерыканская і еўрапейская літаратура 1930-х гадоў, асабліва літаратура страчанага пакалення. Напрыклад, І. Мележ на пытанне, якія пісьменнікі аказалі ўплыў на яго развіццё як мастака, падкрэслівае: «Мне цікавыя такія розныя пісьменнікі, як Эрнест Хемінгуэй, Уільям Фолкнер, Томас Вулф і Скот Фіцджэральд...» [163, с. 556], неаднаразова ў сваіх крытычных артыкулах паўтарае думку Э. Хемінгуэя, «што сапраўды цяжка – дык гэта стварыць нешта праўдзівае» [159, с. 239] і разважае над гэтымі словамі: «Тут мімаволі задумваешся: чаму ж праўда лічыцца такой складанай задачай; праўда ж, здавалася б, павінна быць самай простай з’явай. Бяры жыццё і пішы, як яно ёсць…» [158, с. 239]. «Цяжкасць не толькі ў тым, што абыходжанне з праўдай іншы раз патрабуе ад мастака вялікай мужнасці. Справа яшчэ і ў тым, наколькі пісьменніцкае ўяўленне аб праўдзе адпавядае сапраўднаму вобліку праўды» [161, с. 325]. Такім чынам, менавіта аўтары, якія прайшлі Першую сусветную вайну і стварылі літаратуру страчанага пакалення ў большай ступені паўплывалі на эвалюцыю тэкстаў на тэму Другой сусветнай вайны.

Аднак уплыў замежных аўтараў на беларускую ваенную прозу выявіўся не адразу пасля вайны, а пазней, калі склаліся больш спрыяльныя ўмовы. На гэта звяртае ўвагу А. Адамовіч у сваёй крытычнай працы «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» (1982): «Потым прыйшоў наш час (1950–1960-я гг. – *А. Д.*) – дзесяцігоддзі аналізу. Вось калі мастацкі вопыт Барбюса, Рэмарка, Хемінгуэя, Олдынгтана, Арнольда Цвэйга і другіх... пісьменнікаў-антымілітарыстаў зрабіўся для нашай літаратуры цікавым у творчым плане (<...> у папярэднія часы... усё гэта хвалявала больш крытыку, тэорыю, як самую мастацкую практыку)» [7, с. 25]. Безумоўна, магутным быў уплыў і творчасці рускіх пісьменнікаў, у першую чаргу класікаў, такіх як Л. М. Талстой (асабліва «Вайна і мір») і Ф. М. Дастаеўскі (на што неаднаразова звяртае ўвагу А. Адамовіч).

Заканчэнне вайны і падзенне фашысцкай дыктатуры стварыла перадумовы для пашырэння ў італьянскай культуры рэалістычнай плыні. Тэрмін «неарэалізм» узнік спачатку ў адносінах да кінамастацтва, а пасля быў перанесены на літаратуру і жывапіс. «У самых агульных рысах неарэалізм у італьянскай прозе 1940–50-х гадоў можна ахарактарызаваць як кірунак выразна дэмакратычны, які ставіць сацыяльныя праблемы ў іх нацыянальным, італьянскім вобліку, прасякнуты гуманістычнымі настроямі, верай у сілу народнай салідарнасці, у высокія духоўныя якасці чалавека з народа», – адзначала З. Патапава[2] [189, с. 155].

Творы неарэалістаў часта адрозніваліся мастацкай манерай і эстэтычнымі платформамі, строгія эстэтычныя каноны адсутнічалі. Літаратура неарэалізму мела, аднак, свае гістарычныя карані, якія ўзыходзілі да літаратуры *верызму* (verità – «праўда». – *Заўвага А. Д.*), у першую чаргу да твораў празаіка Джавані Вэргі (Giovanni Verga, 1840–1922), напісаных у пачат-

[2] Тут і далей пераклад з рускай мовы А.А. Данільчык.

ку XX стагоддзя. Рэалістычная традыцыя Дж. Вэргі была працягнута ў 1930-я гады раманам І. Сілонэ «Фантамара» («Fontamara», 1930) пра лёс сялян на поўдні Італіі і такімі кнігамі, як «Запіскі цырульніка» («Memorie si un barbiere», 1931) Дж. Джэрманэта (Giovanni Germanetto, 1885–1959), «Людзі з Аспрамонтэ» («La gente di Aspromonte», 1931) К. Альвара (Corrado Alvaro, 1895–1956), «Ліхтар» («Il fanale», 1934) А. Угаліні (Amedeo Ugolini, 1896–1954), «Трое рабочых» («Tre operai», 1934) К. Бернары (Carlo Bernari, 1909–1992), «Непастаянны чалавек» («Un uomo provvisorio», 1934) Ф. Йовінэ (Francesco Jovine, 1902–1950) і інш. Вялікую ролю ў развіцці італьянскай літаратуры адыграла публіцыстыка А. Грамшы і П. Габэці, якія заклікалі інтэлектуалаў наблізіцца да народнага жыцця, абараніць сваю «годнасць як чалавека і як літаратара» [35, с. 1260]. Аднак уплыў А. Грамшы на літаратурны працэс выявіўся ў большай ступені пасля вайны, калі былі апублікаваны яго асноўныя кнігі («Лісты з няволі» («Lettere dal carcere», 1947), «Інтэлігенцыя і арганізацыя культуры» («Gli intellettuali e l'organizzazione della cultura», 1949), «Літаратура і жыццё нацыі» («Letteratura e vita nazionale», 1950) і інш.), у якіх у пэўнай меры пададзена тэарэтычнае абгрунтаванне неарэалізму.

Аднак не ўсе творы на тэму вайны напісаны ў рамках гэтага кірунку, як, напрыклад, кніга Чэзарэ Павэзэ (Cesare Pavese, 1908–1950) «Перш, чым праспявае певень» («Prima che il gallo canti», 1947), што складаецца з дзвюх аповесцей «Турма» («Il carcere») і «Дом на пагорку» («La casa in collina»). Герой аповесці «Дом на пагорку» Стэфана - інтэлектуал, які не знаходзіць у сабе сілы для таго, каб далучыцца да актыўнай барацьбы сяброў-антыфашыстаў і пакутуе ад гэтага. Акрамя таго, агульны песімістычны настрой аповесцей Ч. Павэзэ адрозніваецца ад твораў неарэалістаў, якія верылі ў магчымасць пазітыўных змен у грамадстве і ролю народа ў гісторыі.

Уплыў сусветнай літаратуры на італьянскую ваенную прозу, на думку Дж. Фаласкі, адбываўся ў двух асноўных вектарах. Першы – творчасць амерыканскіх празаікаў, такіх як У. Фолкнер, Э. Хемінгуэй, У. Сараян (што пацвярджаецца прызнаннямі саміх італьянскіх творцаў, некаторыя з іх перакладалі творы амерыканскіх творцаў на італьянскую мову). Асабліва значны ўплыў Э. Хемінгуэя, які змагаўся ў Італіі ў Першую сусветную вайну і прысвяціў гэтым падзеям раман «Бывай, зброя!» (1929). Вялікую ролю адыграла анталогія «Americana», выдадзеная ў 1942 годзе пад рэдакцыяй Э. Вітарыні.

Пасля заканчэння вайны ў некаторых перыядычных выданнях, перш за ўсё ў газеце італьянскіх камуністаў «Unità», часцей сталі з'яўляцца пераклады апавяданняў і ўрыўкаў з раманаў амерыканскіх пісьменнікаў; аднак шмат друкавалася і тэкстаў савецкіх аўтараў. Джавані Фаласкі адзначае, што з пачаткам халоднай вайны на старонках той жа «Unità», павялічваецца колькасць публікацый аўтараў з Усходняй Еўропы, якія пісалі ў рэчышчы сацыялістычнага рэалізму, грунтуючыся на канцэпцыі народнасці літаратуры, і, такім чынам, у фарміраванні неарэалізму адыграў немалую ролю так званы сацыялістычны рэалізм, уплыў якога можна лічыць другім вектарам. Акрамя таго, неабходна ўлічваць і ўплыў кінематографа, дзе неарэлізм выявіўся раней і больш яскрава [267, p. 57].

Сярод італьянскіх аўтараў, якія ў першую чаргу аказалі ўплыў на прозу Супраціўлення, Італа Кальвіна ва ўступным слове да перавыдання 1964 года рамана «Сцяжынкі павучыных гнёздаў» называе такіх італьянскіх пісьменнікаў, як Джавані Вэрга, Чэзарэ Павэзэ і Эліё Вітарыні, і адпаведна іх творы «Сям'я Малавольяя» («I Malavoglia», 1881), «Твае родныя мясціны» («Paesi tuoi», 1941) і «Размовы на Сіцыліі» («Conversazioni in Sicilia», 1941); спыняецца падрабязна на значэнні твораў амерыканца Эрнеста Хемінгуэя; згадвае і са-

вецкіх аўтараў, што пісалі пра грамадзянскую вайну, – Ісака Бабеля, найперш яго аповесць «Конная армія», і Аляксандра Фадзеева і яго раман «Разгром». І. Кальвіна адзначае, што ўся гэта літаратура паўплывала на яго твор [258, p. 5].

Вялікае значэнне для італьянскай прозы ўвогуле мела і руская класічная літаратура, асабліва Л. М. Талстой і Ф. М. Дастаеўскі. Творы апошняга былі вядомы ў Італіі ўжо ў канцы XIX стагоддзя [70] і аказалі значны ўплыў на такіх італьянскіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя, як Луіджы Капуана (Luigi Capuana, 1839–1915) і Грацыя Дэледа (Grazia Deledda, 1871–1936), лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі за 1926 год. Ф. М. Дастаеўскі неаднаразова бываў у Італіі, што, безумоўна, спрыяла яго вядомасці ў гэтай краіне. Творчасць рускага пісьменніка прыцягвала пільную ўвагу італьянскіх творцаў і ў перыяд «фашысцкага дваццацігоддзя». Напрыклад, аўтараў часопіса «Салярыя» («Solaria») – аднаго з літаратурных выданняў 1925–1934 гадоў, Э. Вітарыні быў яго актыўным аўтарам. Пра Ф. М. Дастаеўскага шмат пісаў і часопіс «Барэці» («Baretti»), які папулярызаваў рускую літаратуру ў Італіі.

У першым нумары «Салярыі» дэкларавалася, што часопіс не мае пэўнай праграмы, але тым не менш выдаўцы адзначалі перавагу філасофскага асэнсавання рэчаіснасці над мастацтвам для мастацтва, падкрэслівалі, што для іх Дастаеўскі з'яўляецца вялікім пісьменнікам. «Салярыя» працягвала дыскусію паміж тымі, хто аддаваў перавагу форме, і тымі, хто лічыў першасным змест. Адной з цэнтральных тэм літаратурных дыскусій у Італіі канца 1920-х гадоў быў раман як жанр, і часопіс прапаноўваў вярнуцца да гэтай празаічнай формы [295, p. 1266], што і стала назірацца ў вялікай колькасці пасляваенных выданняў.

Агульнасць уплываў у многім прадвызначыла тыпалагічныя супадзенні ў творах беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў, якія тым не менш разыходзяцца па часе. У італьянскай

літаратуры раней адбылося вызваленне ад сацыялагізатарскага ўплыву і ўціску, таму раней выявіўся і станоўчы ўплыў замежных аўтараў. Для беларускай літаратуры перыядам адноснага разняволення стала «хрушчоўская адліга» і менавіта пасля яе ў ваенных аповесцях і раманах пачалі рэалізоўвацца многія аспекты, характэрныя для італьянскай прозы пасляваеннага часу.

### 1.3. Роля дакументальнай літаратуры ў развіцці ваеннай прозы

Адным з важных этапаў у развіцці ваеннай прозы і канцэпцыі чалавека стала пашырэнне літаратуры дакументальнага характару, якая, у сваю чаргу, аказвала ўплыў на мастацкія творы. Яна спрыяла паглыбленню рэалізму як у творах, прысвечаных Другой сусветнай вайне, так і ў творах на іншыя тэмы. Дакументальная проза дапамагала беларускай літаратуры пераадольваць павярхоўнасць і прыблізнасць, звязаныя з недастатковай увагай афіцыйнай культуры да праблем і ўнутранага свету асобнага чалавека. Для італьянскіх творцаў мемуарная і аўтабіяграфічная літаратура стала пачаткам адраджэння рэалістычнай традыцыі.

Творы дакументальнага плана, якія з’явіліся ў гэты перыяд у беларускай літаратуры, вызначаліся на агульным фоне аптымістычна-пераможных гісторый пра нядаўнюю вайну праўдзівасцю чалавечых лёсаў і драматызмам. Яшчэ ў час вайны многія беларускія пісьменнікі, такія як Я. Брыль, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, І. Мележ, К. Чорны працавалі ў жанры нарыса, рабілі запісы, занатоўвалі факты і падзеі, збіралі матэрыял для будучых кніг. Якуб Колас адным з першых распачаў тэму генацыду ў нарысе «Лагер смерці», дакументальным запісе расказаў былых вязняў (1944). У 1948 годзе выходзіць кніга ўспамінаў беларускіх дзяцей «Ніколі не забудзем» (укладальнікі Я. Маўр і П. Рунец, прадмова Я. Коласа),

жахлівая і шчырая. З'яўляюцца такія творы, як «Шляхамі вайны: дарожныя нататкі» (1944) М. Лынькова, нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» (1948) І. Мележа і інш. Аднак у іх таксама выяўляюцца прыкметы свайго часу і сувязь з літаратурным канонам: напрыклад, А. Лысенка заўважае, што «Мележ засяроджвае ўвагу на тых фактах жыцця і якасцях характару Шутава (героя нарыса «Дарогі на ўсход і на захад». – *А. Д.*), што выяўлялі непадзельнасць яго асабістага лёсу ад лёсу ўсяго народа. Вайсковая доблесць камбрыга Шутава гартавалася ў тых жа ўмовах, што і мужнасць мільёнаў радавых «працаўнікоў вайны» [146, с. 340]. Такім чынам, прыватнае і тут адыходзіць на другі план, аўтабіяграфічныя запіскі І. Мележа «У пачатку вайны» публікуюцца толькі ў 1969 годзе.

Тым не менш гэтыя творы закладалі аснову для фарміравання ў прозе на тэму Другой сусветнай вайны «літаратуры сведчання», якая ствараецца на мяжы паміж дакументальнай і мастацкай літаратурай і мае на мэце пошук ісціны ў асэнсаванні быцця.

Так, у першыя пасляваенныя гады ў італьянскім друку з'явілася мноства дзённікаў, аўтабіяграфій, мемуараў. Сярод найбольш вядомых і цікавых – кніга Дж. Дэбенэдэці (Giacomo Debenedetti, 1901–1967) «Аблава» («Il rastrellamento», 1945) пра халакост у Рыме, «Ці гэта чалавек?» («Se questo è un uomo?», 1948) П. Леві (Primo Levi, 1919–1987) пра выжыванне ў канцлагеры Асвенцім, «Маўтхаўзэн – замкнёны горад» («Mauthausen città ermetica», 1945) А. Бідзары (Aldo Bizzarri, 1907–1953), «Зімовае апавяданне» («Il racconto d'inverno», 1945) і «Цяжкая роля» («La parte difficile», 1947) О. Дэль Буона (Oreste Del Buono, 1923–2003) таксама пра нямецкі канцлагер і інш.

З'явілася і шмат твораў мемуарнага зместу, напісаных пісьменнікамі-непрафесіяналамі, у якіх распавядалася пра асабісты вопыт, набыты ў гады вайны. Гэта такія кнігі, як «Бандыты» («Banditi», 1946) П. К'ёдзі (Pietro Chiodi, 1915–

1970), «Ва мне нарадзіўся чалавек» («Dentro mi è nato l'uomo», 1947) і «Юбілейны год» («L'anno del giubileo», 1948) А. Дэль Бока (Angelo Del Boca, 1925–2021), «Мая пясчынка» («Il mio granello di sabbia», 1946) Л. Боліса (Luciano Bolis, 1918–1993), «Страх на світанку» («La paura all'alba», 1945) А. Бенедэці (Arrigo Benedetti, 1910–1976), «Лепшы і апошні» («Il migliore e l'ultimo», 1946) К. Качолі (Carlo Coccioli, 1920–2003) і інш.

Зноў жа на мемуарнай аснове створаны творы пра ўдзел італьянскай арміі ў вайне на тэрыторыі СССР. У 1946 годзе выйшла кніга Нута Рэвэлі (Nuto Revelli, 1919–2004) «Ніколі не позна. Дзённік альпійскага стралка ў Расіі» («Mai tardi. Diario di un alpino in Russia») пра адступленне італьянскай арміі з Расіі, а ў 1953 годзе быў апублікаваны дакументальны раман Марыё Рыгоні Стэрна (Mario Rigoni Stern, 1921–2008) «Сяржант сярод снягоў» («Il sergente nella neve»), таксама прысвечаны гэтай тэме.

Адным з агульных прынцыпаў беларускай і італьянскай мастацкай ваеннай прозы, які аднак раскрыўся ў літаратурным метадзе ў розныя перыяды, з'яўляецца **аўтабіяграфізм**. Гэты прынцып стаў адной з характэрных рыс як усяго італьянскага неарэалістычнага руху, так і ваеннай прозы ў прыватнасці, і меў фармальны і канцэптуальны бок.

Канцэптуальнай якасцю аўтабіяграфізму з'яўляецца зварот да ўласнага вопыту, адлюстраванага ў такіх кнігах, як «Год нараджэння 1912» («Classe 1912», 1945) Давідэ Лаёла (Davide Lajolo, 1912-1984), «Сцяжынка павучыных гнёздаў» («Il sentiero dei nidi di ragno», 1947) І. Кальвіна, «Аньезэ ідзе на смерць» («L'Agnese va a morire», 1949) Р. Вігано (Renata Viganò, 1900–1976) і інш. Напрыклад, духоўныя пошукі пісьменніка К. Касолы (Carlo Cassola) супадаюць з пошукамі яго героя з рамана «Фаўста і Ханна». Да аўтабіяграфізму як да кампанента мастацкага метаду звярталіся амаль усе італьянскія пісьменнікі, якія пачыналі пісаць адразу пасля вайны.

Фармальным паказчыкам аўтабіяграфічнасці былі мастацкія прыёмы, якія большасць з пісьменнікаў выкарыстоўвалі для выяўлення свайго светаўспрымання, сваіх адносін да падзей твора. Напрыклад, своеасаблівы лірычны ўваход (так званы лірычны ўступ, ці лірычнае адступленне) у твор («Людзі і нелюдзі» Э. Вітарыні), апавяданне ад першай асобы ці атаясамліванне асобы аўтара (біяграфічны аўтар) з яго героем і інш.

Немалаважнай праблемай літаратуры з'яўляецца праблема суадносін аўтарскага вопыту і вопыту героя. На старонках рамана Э. Вітарыні «Людзі і нелюдзі», якія, на жаль, былі папросту выкінуты з выдання на рускай мове (пераклад Ц. Кін), пісьменнік раскрывае сваё разуменне гэтай праблемы: «Я іншы раз не ведаю, калі гэты чалавек адзін – зачынены ў цемры ў пакоі ляжыць на ложку – чалавек у свеце ён адзін – я амаль не ведаю, ці не з'яўляюся я замест таго, каб быць яго аўтарам, ім самім. Але, калі я пішу аб ім, то раблю гэта не для яго самога; а для нечага, што я зразумеў і павінен паведаміць; я гэта зразумеў, я гэта маю; і я, а не ён, гэта гавару» [304, p. 78]. У адным з лірычных адступленняў пісьменнік гаворыць пра непасрэдную сувязь са сваімі героямі: «Пра Эн-2 я мог бы расказаць, што з ім адбываецца ў гэты момант. Я ўзяў бы гэта з самога сябе. Але каб гаварыць пра Эль-Паса, я нічога не мог бы ўзяць з самога сябе. Няўжо я б сядзеў у гэты час за сталом з немцамі? Нішто ў свеце не магло б прымусіць мяне знаходзіцца ў гэтую хвіліну з немцамі» [304, p. 164].

У беларускай літаратуры прынцып аўтабіяграфізму стаў вызначальным у спосабе адлюстравання падзей пазней, і на гэта было некалькі прычын. Па-першае, асноўная маса пісьменнікаў – непасрэдных удзельнікаў вайны – пачала друкавацца з канца 1950-х гадоў, а па-другое, пасляваеннае дзесяцігоддзе не вызначалася спрыяльнымі ўмовамі для разгорнутага паказу ўнутранай эвалюцыі чалавека, якому даводзілася

жыць, кахаць, змагацца за свае ідэалы ў нялёгкіх абставінах вайны. Безумоўна, і І. Мележ у рамане «Мінскі напрамак» (1947–1953), і А. Кулакоўскі ў рамане «Расстаёмся ненадоўга» (1955), і другія пісьменнікі абапіраліся на ўласны франтавы і партызанскі вопыт, аднак гэта адбывалася з пэўнымі абмежаваннямі. Таму ў беларускай, як і ва ўсёй савецкай літаратуры, працэс набліжэння аўтара да свайго героя, да звужэння кола падзей, якія адбываліся ў творы, аказаўся больш расцягнутым у часе, і актывізацыя аўтабіяграфізму пазначыла новы перыяд у развіцці ваеннай прозы: «У беларускай літаратуры канца 50 – пачатку 60-х гадоў зварот да аўтабіяграфізму стаў важнейшым момантам светапогляднага абнаўлення, якое ставіла сваёй мэтай выцесніць легкаважкі схематычны вымысел і вярнуць мастацкай творчасці аўтарытэт рэальнай і канкрэтнай дакладнасці зместу» [176, с. 205].

Уласна кажучы, такую ж функцыю выконваў аўтабіяграфізм і ў італьянскай літаратуры першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. З'явілася нават паняцце «лірычны дакумент» у адносінах да аповесцей і раманаў, якія былі напісаны аўтарамі – непасрэднымі ўдзельнікамі вайны. У аснову многіх з гэтых твораў пакладзены біяграфічныя эпізоды, звязаныя з нямецкай акупацыяй і партызанскай барацьбой. Даследчыца італьянскай літаратуры З. Патапава адзначае: "Лірычны дакумент" – своеасаблівая пячатка сучаснасці ў італьянскім неарэалізме, які імкнуўся ўвабраць у сябе, адлюстраваць, адчуць усе тыя падзеі народнага жыцця, што прайшлі за межамі літаратуры "чорнага дваццацігоддзя" [189, с. 47].

Такім чынам, прынцып аўтабіяграфізму адыграў важную ролю як у італьянскай літаратуры неарэалізму, так і ў беларускай літаратуры сацыялістычнага рэалізму ў фарміраванні мастацкага метаду, у аснове якога ляжыць аб'ектыўны падыход да адлюстравання жыццёвых з'яў. Для ваеннай прозы гэта мела асаблівае значэнне, бо абагульненне ўласнага вопыту,

роздум пра ўласныя прынцыпы і погляды на жыццё пазначылі новы падыход да асэнсавання лёсу чалавека ў гісторыі і грамадстве. Аўтабіяграфізм і дакументалізм у літаратуры былі непазбежным этапам на шляху да рэалістычнага выкладання жыццёвага матэрыялу і паглыблення псіхалагізму.

### 1.4. Жанравая разнастайнасць ваеннай прозы

У жанравым плане проза пра Другую сусветную вайну даволі разнастайная, яна ахоплівае публіцыстыку і паэтычныя творы, апавяданні і аповесці, раманы і эпапеі. Дж. Фаласкі лічыць апавяданне найбольш тыповым прадуктам усёй партызанскай італьянскай літаратуры. Пачынаючы з 1945 года апавяданні шырока публікуюцца ў перыядычных выданнях ці часопісах, але атрымліваюць найбольшае распаўсюджванне ў 1946–1948 гадах. Пазней «партызанскае» апавяданне з’яўляецца радзей, звычайна ў выпусках газет і часопісаў, прысвечаных гадавіне заканчэння вайны. Некаторыя з гэтых выданняў былі створаны яшчэ ў гады падпольнай барацьбы, большасцю іх аўтараў з’яўляліся маладыя людзі, што прымалі актыўны ўдзел у Супраціўленні.

Тэма вайны і фашызму знайшла шырокае асвятленне і ў аповесцях і раманах прафесійнай італьянскай літаратуры 1940–1950-х гадоў, сярод якіх – «Людзі і нелюдзі» («Uomini e no», 1945) Э. Вітарыні, «Таварыш» («Il compagno», 1947) і «Перш, чым праспявае певень» Ч. Павэзэ, «Рымлянка» («La romana», 1947) і «Канфарміст» («Il conformista», 1951) А. Маравія (Alberto Moravia, 1907–1990), «Сцяжынка павучыных гнёздаў» І. Кальвіна, «Хроніка бедных закаханых» («Cronache di poveri amanti», 1947) В. Пراталіні (Vasco Pratolini, 1913–1991), «Аньезэ ідзе на смерць» Р. Вігано, амаль усе кнігі Б. Фенольё (Beppe Fenoglio, 1911–1963) і многія іншыя. Іх аўтары імкнуліся да аб’ектыўнага адлюстравання пакручастасцяў вызваленчай барацьбы і ролі італьянскага народа ў гісторыі.

Што датычыцца беларускай літаратуры, то страты, якія яна панесла ў 1930-я гады ў выніку неабгрунтаваных сталінскіх рэпрэсій нават на сённяшні дзень яшчэ недастаткова асэнсаваны. На вялікі жаль, у Беларусі на той час проста не было каму пісаць. Лепшыя празаікі былі знішчаны фізічна або вырваны з літаратурнага жыцця ў 1930-я гады. Кузьма Чорны, які пераажыў рэпрэсіі, памёр у 1944 г., і хоць прайшло не так шмат часу (усяго якое-небудзь дзесяцігоддзе), аднак гэтыя страты вельмі моцна адбіліся на стане беларускай літаратуры і адчуваюцца нават у XXI стагоддзі. Беларуская проза пасляваеннага перыяду стваралася ў асноўным пісьменнікамі, якія толькі пачыналі свой шлях у літаратуры. Акрамя Я. Коласа і М. Лынькова, а таксама яшчэ некаторых празаікаў (М. Паслядовіча, Т. Хадкевіча, І. Гурскага, І. Грамовіча), усе астатнія былі, па сутнасці, новымі аўтарамі: А. Асіпенка, Я. Брыль, І. Дуброўскі, А. Кулакоўскі, М. Лупсякоў, І. Мележ, М. Ракітны, І. Шамякін і інш. М. Мушынскі ў кнізе «І нічога, апроч праўды...» звяртае ўвагу на разрыў літаратурнай традыцыі, звязаны з даваенным часам: «<...> калі... паглядзець на творчыя здабыткі перыяду Айчыннай вайны, дык яны акажуцца значна бяднейшымі, чым можна было чакаць, улічваючы маштабы народнай трагедыі і тыя традыцыі, якімі славілася беларускае прыгожае пісьменства. А вытлумачэнне такой з'явы трэба шукаць у 30-х гадах, у тым, што арганізм беларускай літаратуры быў моцна падарваны, знясілены, і моладзь, якая прыйшла на змену вынішчаным у часе масавых рэпрэсій талентам, аказалася прафесійна непадрыхтаванай» [171, с. 115].

Максім Гарэцкі, Міхась Зарэцкі, Барыс Мікуліч, Андрэй Мрый і многія іншыя таленавітыя беларускія пісьменнікі былі знішчаны НКУС. Па сутнасці, выратаваў беларускую прозу канца 1930-х – пачатку 1940-х гадоў Кузьма Чорны, бо ўжо ў ваенныя гады з'явіліся першыя раманы пра чалавека

на вайне, пра беларусаў і немцаў, глыбокія па гуманістычнай, філасофскай думцы, – «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях», «Вялікі дзень». У гэтых творах аўтар разглядае сацыяльна-гістарычныя і маральна-псіхалагічныя перадумовы ўзнікнення нацыяфашызму, праблемы дзяцей і вайны, чалавека і чалавечнасці, сэнсу жыцця і смерці. Менавіта К. Чорны ўпершыню ў беларускай прозе звязаў падзеі Першай і Другой сусветных войнаў у рамане «Вялікі дзень».

Тым не менш пасля вайны былі напісаны такія раманы і аповесці, як «Помста» (1945) і «Глыбокая плынь» (1948) І. Шамякіна, «Векапомныя дні» (1-я кніга – 1951) М. Лынькова, у 1947–1953 гадах быў створаны раман І. Мележа «Мінскі напрамак» пра гераічную барацьбу салдат і партызан. Выйшлі творы, якія адлюстроўвалі розныя моманты ваеннага жыцця: «Расстаёмся ненадоўга» А. Кулакоўскага, «Насустрач» А. Шахаўца, «У агні» І. Гурскага і інш. Але, на жаль, у большай ці меншай ступені яны грашылі апісальнасцю, перагружанасцю побытавым матэрыялам і падзеямі, недастатковай засяроджанасцю на ўнутраным свеце герояў. Як адзначыў А. Адамовіч у манаграфіі пра развіццё беларускага рамана, «усё перажытае ў цяжкія і гераічныя гады... здавалася аднолькава важным і значным. Не хапала ўмення даваць не “голы факт”, а яго “філасофію”, яго “псіхалогію” [16, с. 270]. Прычыны неглыбокага пранікнення ў псіхалогію герояў, пэўнай павярхоўнасці ў адлюстраванні ваенных падзей знаходзіліся і ў агульнай сітуацыі ў краіне, дзе культурная палітыка і ідэалогія, што выяўляліся ў дамінаванні метаду сацрэалізму, не спрыялі індывідуалізацыі персанажаў. На гэта звяртаюць увагу многія крытыкі, напрыклад, М. Мушынскі: «У раманах “Згуртаванасць” М. Ткачова, “Мінскі напрамак” І. Мележа, “Расстаемся ненадоўга” А. Кулакоўскага, у рамане-эпапеі “Векапомныя дні” М. Лынькова хоць і ёсць нямала праўдзівых драматычных старонак, але адсутнічае

горкая, непадфарбаваная праўда вайны, трагедыя народа» [171, с. 123].

Такім чынам, у першыя пасляваенныя гады беларуская літаратура не валодала дастатковым патэнцыялам, неабходным для раскрыцця ваеннай тэмы і праблемы чалавека на вайне, у ёй не паказана вайна як жудасная трагедыя, аднак вопыт, назапашаны ў мастацкай літаратуры за гэты час, даў свой плён пасля выкрыцця культу асобы Сталіна. Публіцыстыка, вершы і апавяданні, напісаныя ў гады вайны і адразу пасля яе заканчэння, сталіся асновай беларускай ваеннай літаратуры, заклалі прынцыпы адлюстравання духоўнага свету чалавека, яго псіхалогіі і атрымалі далейшае развіццё ў наступныя дзесяцігоддзі.

# 2. АСАБЛІВАСЦІ ФАРМІРАВАННЯ КАНЦЭПЦЫІ ЧАЛАВЕКА Ў 1940-х – СЯРЭДЗІНЕ 1950-х ГАДОЎ

## 2.1. Тыповы герой беларускай і італьянскай ваеннай прозы пасляваеннага перыяду

Тыповыя сітуацыі падчас вайны нараджалі тыповыя сюжэты і тыповых літаратурных герояў. Масавы гераізм народа падкрэсліваўся ўвядзеннем у творы герояў рознага ўзросту, аб’яднаных адзіным памкненнем – вызваліць сваю зямлю. Вынікам гэтага падыходу ў літаратуры з’явіліся творы, дзе ў ліку галоўных герояў паказваліся пажылыя або нават старыя людзі, якія сталі ўвасабленнем герояў з народу, што назапасілі за доўгае жыццё вялікі жыццёвы вопыт. У рамане І. Шамякіна «Глыбокая плынь» гэта Карп Маеўскі, у рамане М. Лынькова «Векапомныя дні» – Астап Канапелька і Селівон Ладуцька, гэта шматлікія героі К. Чорнага, як, напрыклад, Пархвен Катлубовіч з апавядання «Вялікае сэрца» і інш. У «Нарысах па гісторыі руска-беларускіх літаратурных сувязей» адзначаецца: «Па той прычыне, што рост грамадскай свядомасці ў Беларусі на працягу цэлых стагоддзяў аказаўся прама залежным ад духоўнага абуджэння простага чалавека з народа, перш за ўсё сялянства, у беларускай літаратуры цэнтральнай фігурай становіцца тып чалавека знешне непрэзентабельнага, сціплага, але ўнутрана прасветленага, здатнага да інтэнсіўнага духоўнага развіцця. Гэты герой звычайны, просты, і разам з тым маральна цвёрды і стойкі. Гэта традыцыя несумненна аказала моцнае ўздзеянне на ўсё будучае развіццё беларускай літаратуры і, як паказвае творчасць В. Быкава, на развіццё пасляваеннай прозы таксама» [176, с. 215].

Селянін заставаўся верным сваёй псіхалогіі працаўніка і ў час вайны. Напрыклад, Карп Маеўскі з рамана І. Шамякіна

«Глыбокая плынь» і ў партызанскім лагеры не парушае звыклых адносін да жыцця: «Для яго ўсё шчасце было ў працы. Партызанскую дзейнасць ён не ўяўляў без самаадданай працы. Стары з аднолькавым натхненнем падрываў нямецкі цягнік і рыў вакол лагера акопы, майстраваў міны і рабіў драўляныя лыжкі, будаваў зямлянкі і ішоў пасыльным у самыя далёкія атрады і вёскі. Ён не шукаў нейкага асаблівага занятку, а рабіў тое, што даручалі, і ўсё лічыў важным і неабходным» [245, с. 165]. Гэта рыса, асаблівыя, па-сапраўднаму народныя адносіны да працы як да неад’емнай часткі жыцця чалавека, а таксама мудрасць дапамагаюць Карпу Маеўскаму знайсці сваё месца ў партызанскім лагеры. Дэталь вельмі важная з пункту погляду псіхалогіі селяніна. Праца – гэта стварэнне, і, нягледзячы на цяжкія ўмовы ваеннага часу, шматлікія нястачы, спрактыкаваным сялянскім вокам Карп знаходзіў сабе карысны занятак.

Такі ж працавіты гаспадар і герой М. Лынькова з апавядання «Дзед Аўсей і Палашка». Дзед Аўсей, як і Карп Маеўскі, стараецца быць патрэбным у партызанскай барацьбе, а таму не цураецца ніякай працы: «Дзед быў не супраць таго, каб устанавіць свой парадак у зямлянцы з кухняй. То яму не падабалася, як Палашка смажыць цыбулю. То яму здавалася, што яна не так запраўляе кулеш. То ён з ярасцю змагаўся за чысціню, змайстраваў спецыяльныя пастаўцы для лыжак, каб яны не валяліся абы-дзе, а былі б пры месцы і заўсёды сухімі» [143, с. 433]. Названых герояў яднае імкненне ўдзельнічаць разам з усімі ў важнай справе, але гэта не перашкаджае ім заставацца сабою, захоўваць свае звычкі і погляды. Сумленнасць і асабіста набытыя мудрасць і вопыт дазваляюць ім заставацца ў стане той унутранай гармоніі, што дасягаецца сумленна пражытым жыццём.

Паколькі асновай італьянскага неарэалізму сталі антыфашызм і рух Супраціўлення, дзякуючы якім увага літара-

туры скіравалася да чалавека з народа, то ў 1940–1950-я гады месца цэнтральнага персанажа ў творы паступова заняў герой, неўласцівы літаратуры так званага ventennio fascista (фашысцкага дваццацігоддзя) – просты чалавек, выхадзец з народных мас. У першых пасляваенных нарысах і апавяданнях яго вобраз толькі фарміраваўся і часта паўставаў без дастатковага паглыблення ў псіхалогію героя, яго ўнутраны свет, але паступова набываў значнасць і шматграннасць, асабліва ў творах больш шырокага эпічнага плана. Італьянскіх пісьменнікаў-неарэалістаў перш за ўсё сталі цікавіць людзі, якія перажылі цяжкасці ваенных гадоў, барацьбы з фашызмам і з нямецкімі акупантамі. Са з'яўленнем новага героя звязана і адна з характэрных рыс неарэалізму: яго гуманізм, любоў да простага чалавека.

Месца героя італьянскай ваеннай прозы акрэсліў І. Кальвіна ў аповесці «Сцяжынка павучыных гнёздаў» словамі камісара Кіма: «<...> ёсць гісторыя. У гісторыі мы – там, дзе вызваленне, фашысты – на супрацьлеглым баку. Нішто не знікае дарэмна, ні адзін стрэл. Ні адзін стрэл, хоць ён, як ты разумееш, нічым не адрозніваецца ад іхняга стрэлу. У нас усё служыць вызваленню калі не нас саміх, дык нашых дзяцей, пабудове чалавечага грамадства, у якім не застанецца месца для злосці, светлага грамадства, дзе людзі змогуць быць добрымі» [116, с. 115].

Народ паўставаў як магутная сіла, што складаецца з асобных індывідуумаў, таму ў плане мастацкага адлюстравання гэта выявілася ў пільнай увазе да шараговага прадстаўніка грамадства і да яго звычайнага жыцця. Увага да чалавека з народа была характэрна і для беларускай, і для італьянскай літаратур, а паколькі асноўная маса насельніцтва абедзвюх краін і адпаведна ўдзельнікаў партызанскай барацьбы была сялянамі, то ў першую чаргу селянін як прадстаўнік народа выклікаў цікавасць пісьменнікаў. Акрамя таго, нельга не

ўлічваць і той факт, што асноўны цяжар вайны і акупацыі клаўся на цывільнае насельніцтва, якое таксама пераважна складалася з сялян. Дж. Фаласкі адзначае: «Герой новага эпасу ананімны, таму што мае толькі фіктыўнае імя барацьбы, ён не належыць да якой-небудзь сям'і, але паходзіць з народу, бедны і ў ім чытачы могуць пазнаць сябе, як у апавяданні М. Вентуры "Справядлівасць": "і гэты селянін быў я, быў ты..."; высакародны толькі новай высакароднасцю – не крыві, але дзейнасці – якая максімум узыходзіць да антыфашызму сваяка; так звяртаецца маці да сына-партызана: "ты будзеш моцным як твой бацька..." [267, р. 62]. М. Лынькоў у крытычным нарысе «Летапіс эпохі» (1968) адзначыў: «Асноўнымі героямі беларускай літаратуры... былі народ-воін, народ-пераможца, яго адважныя сыны і дочкі» [144, с. 90].

Як правіла, творы першага пасляваеннага дзесяцігоддзя вызначаліся высокім патрыятычным пафасам, іх аўтары імкнуліся перш за ўсё адлюстраваць масавасць барацьбы супраць захопнікаў, высакароднасць змагароў і справядлівасць помсты. Гэта характэрна і для беларускай, і для італьянскай літаратур. Зварот маці да сына-партызана з працытаванага вышэй апавядання М. Вентуры пераклікаецца са словамі паміраючай жонкі з аповесці І. Шамякіна «Помста»: «Любы мой, ты павінен дайсці да іх зладзейскага гнязда! Ты абавязкова павінен дайсці! Я цябе прашу, просіць твая дачка і твая маці. Ты павінен адпомсціць за ўсё...» [246 с. 52].

Тыповым раманам першага пасляваеннага дзесяцігоддзя пра італьянскае Супраціўленне з'яўляецца кніга Рэнаты Вігано «Аньезэ ідзе на смерць» (1949). У вобразе старой сялянкі, якая аддае ўсе свае сілы і само жыццё барацьбе супраць гітлераўцаў і фашыстаў, пісьменніца ўвасобіла ўбачанае і пражытае за гады партызанскай вайны. На прыкладзе галоўнай гераіні Р. Вігано імкнулася раскрыць духоўны рост чалавека ў момант найвышэйшага напружання яго жыццёвых сіл, у няпросты

ваенны час, спасціжэнне ім свайго месца і ўласнай значнасці. Гераіня кнігі старая Аньезэ ўсё ў партызанскім лагеры робіць проста і натуральна, з усведамленнем уласнай годнасці і неабходнасці. Упэўненасць у правільнасці зробленага выбару дапамагае ёй годна пражываць цяжкасці партызанскага жыцця: «Нас не спыніць, – заверыла Аньезэ. – Нас вельмі многа. І чым больш памірае, тым больш прыходзіць. Чым больш памірае, тым мы становімся смялей. А немцы і фашысты, тыя, што паміраюць, цягнуць за сабою і жывых» [302, р. 132].

Сваю мудрасць людзі сталага веку імкнуцца перадаць маладзейшым, і нярэдка аўтары скарыстоўваюць для выказвання ўласных думак гэтых герояў, яны становяцца ўвасабленнем аўтарскага «я» пісьменніка. Так менавіта вуснамі старой Сельвы з рамана «Людзі і нелюдзі» Э. Вітарыні гаворыць, што, каб працаваць дзеля шчасця іншых, трэба самім быць шчаслівымі ці па меншай меры ведаць, што гэта такое: «Вы хочаце нешта рабіць дзеля шчасця людзей, а не ведаеце, што трэба людзям, каб быць шчаслівымі. Вы хочаце нешта рабіць, не будучы самі шчаслівымі?» [304, р. 18].

Такім чынам, часцей за ўсё тыповы герой як беларускіх, так і італьянскіх твораў пра мінулую вайну першага пасляваеннага дзесяцігоддзя ‑ просты чалавек з народу, селянін, на чые плечы лёг цяжар нямецкай акупацыі, бо менавіта народ нёс усе выдаткі ваенных гадоў і ў Італіі, і на Беларусі. Адной з тыповых рыс такога героя з’яўляецца сталы ўзрост і – як вынік – жыццёвая мудрасць, разважлівасць, спакойнае стаўленне да жыцця і смерці.

Беларускія і італьянскія пісьменнікі імкнуліся стварыць праўдзівы вобраз удзельніка Супраціўлення і партызанскай барацьбы, адлюстраваць сацыяльна-гістарычны фон, на якім разгортваліся падзеі Другой сусветнай вайны. Аднак часта здаралася, што падзеі самі па сабе падаваліся больш значнымі за ўнутраныя перажыванні героя, і гэта прыводзіла да пэўнага

схематызму і павярхоўнасці ў творах, што ў першую чаргу датычыцца беларускай прозы.

Тым не менш і ў беларускай літаратуры назіраецца паступовае і паслядоўнае авалодванне псіхалагічнай глыбінёй і рэалістычнай шматграннасцю ў стварэнні вобразаў удзельнікаў вайны, што прадвызначыць пазнейшы перанос акцэнтаў з сацыяльна-гістарычнага плана да інтымна-эмацыянальнага. Герой італьянскай ваеннай прозы ў гэты перыяд прадстаўлены ў розных мастацкіх ракурсах, аднак дамінантным, безумоўна, з'яўляецца вобраз чалавека з народа як тыповага ўдзельніка барацьбы з італьянскімі фашыстамі і з нямецкімі акупантамі, які ўрэшце загаварыў на поўны голас і засведчыў сваю значнасць.

## 2.2. Ідэалагізацыя мастацкага метаду ў ваеннай прозе Беларусі і Італіі 1940–1950-х гадоў

Літаратура неарэалізму непазбежна адлюстроўвала і розныя ідэалагічныя аспекты, якія ўплывалі на фарміраванне грамадскай думкі, а ў больш шырокім сэнсе – на жыццёвы выбар герояў. Як вядома, натхніцелем неарэалізму з'яўляўся антыфашысцкі рух, на чале якога стаяла італьянская камуністычная партыя, што не магло не адлюстравацца і ў літаратуры. Як адзначае В. А. Каваленка ў кнізе «Агульнасць лёсаў і сэрцаў», «палемічнае перабольшванне ўмоўнага метаду творчасці дыктавалася неаднолькавымі прычынамі ў савецкай і італьянскай літаратуры першых пасляваенных гадоў. І яно як прыём праследавала часта адрозныя мэты. Аднак агульнасць многіх рыс эстэтычнай свядомасці відавочная менавіта дзякуючы светапогляднай роднасці. <...> У выніку гэтага сустракаюцца не толькі агульныя вобразныя рашэнні, але і ўзнікае рух эстэтычнай думкі ў блізкім паралельным накірунку» [130, с. 77]. Менавіта з прычыны светапогляднай роднасці многіх аўтараў назіраецца тыпалагічнае сыходжанне ў творах

італьянскіх неарэалістаў з творамі літаратуры сацыялістычнага рэалізму ў наданні ідэалагічнай афарбоўкі і адлюстраванні ролі камуністычных ідэй у барацьбе супраць фашызму. Дж. Фаласкі называе, напрыклад, кнігу «Аньезэ ідзе на смерць» Р. Вігано «тыповым раманам новай культурнай палітыкі камуністычнай партыі і найбольш пераканаўчым узорам італьянскай версіі сацыялістычнага рэалізму» [267, p. 80]. Аньезэ разважае так: «Партыя, таварышы... столькі людзей, мужчынаў і жанчынаў... яны нічога не баяліся. Яны заўсёды казалі, што больш гэтак працягвацца не можа, што трэба перарабіць свет, што настаў час скончыць з вайною, што ва ўсіх павінен быць хлеб – і не толькі хлеб, але і ўсё астатняе. Фашысты не хацелі гэтага, і гэтыя людзі змагаліся супраць фашыстаў, не палохаючыся ні турмы, ні смерці... Вось што такое партыя! За яе і жыццё аддаць не шкада!» [302, p. 204].

Падобныя выказванні спрэс сустракаюцца ў творах савецкіх пісьменнікаў першых пасляваенных гадоў, напрыклад, у рамане «Глыбокая плынь» І. Шамякіна: «Тупагаловыя дурні! Яны не могуць зразумець, што партызаны і народ – гэта адно цэлае. А Лясніцкі і Прыборны – гэта прадстаўнікі бальшавіцкай партыі, а ў партыю наш народ ніколі ўжо не згубіць веры» [245, с. 140]. Вядомы факт, што расійскі пісьменнік А. Фадзееў вымушаны быў перапісаць раман «Маладая гвардыя», каб адлюстраваць кіруючую ролю камуністаў у моладзевай арганізацыі.

У пасляваеннай Італіі не было такога знешняга ціску на літаратуру, усё адбывалася на хвалі энтузіязму, а таму куды больш шчыра, як гэта адлюстравана і ў рамане «Сцяжынка павучыных гнёздаў» І. Кальвіна, дзе аўтар агучыў свае палітычныя сімпатыі. Адзін з герояў твора, камісар Кім, з'яўляецца носьбітам камуністычных ідэй, хоць і ён, як і многія іншыя, шукае адказы на ўласныя пытанні: «<...> ён не валодае ўнутранай яснасцю. Унутранай яснасцю валодалі яго буржуазныя

бацькі і дзяды, што стваралі капітал. Унутранай яснасцю валодаюць пралетарыі, што стаяць на пасту ў сваіх паселішчах, унутранай яснасцю валодаюць савецкія людзі, якія вырашылі ўсе праблемы і цяпер вядуць вайну настойліва і метадычна не таму, што гэта цудоўна, а таму, што так трэба... Бальшавікі! Савецкі Саюз, краіна, у якой, верагодна, ужо набыта яснасць. Магчыма, там няма больш жабрацтва. А тут у людзей да гэтага часу мутныя вочы і шурпатыя твары» [116, с. 117].

Безумоўна, у творах італьянскіх пісьменнікаў часта прысутнічаюць даволі рамантызаваныя ўяўленні пра камуністычныя ідэалы і Савецкі Саюз як краіну, дзе гэтыя ідэалы ўвасобіліся на практыцы (паколькі аўтары гэтых твораў не маглі валодаць дастатковай інфармацыяй пра рэальны стан рэчаў), у той час як беларуская літаратура была вымушана адлюстроўваць ідэалагічныя ўстаноўкі выключна ў станоўчым і неаспрэчным плане. Камуністычная партыя ў Італіі была апазіцыйнай таталітарнаму фашысцкаму рэжыму, а таму лічылася многімі пісьменнікамі і, урэшце, насамрэч была прагрэсіўнай; у Савецкім Саюзе сітуацыя была іншай – менавіта камуністычная партыя стварыла тут таталітарны рэжым. У гэтым, бадай, заключаецца галоўнае адрозненне.

Пройдзе некалькі дзесяцігоддзяў і акцэнты наконт ролі камуністычнай партыі ў жыцці грамадства зменяцца і ў італьянскай, і ў беларускай літаратурах, але ў першыя пасляваенныя гады словы «камуніст», «камуністычны» для большасці італьянскіх аўтараў мелі абсалютна пазітыўнае значэнне. Тым не менш у італьянскай літаратуры, як і ў грамадскім жыцці, дзе існавала шмат палітычных плыней, знайшоў адлюстраванне сам пошук ісціны. І літаратура Супраціўлення, непасрэдна звязаная з неарэалізмам, нягледзячы на тое, што натхнялася ў асноўным камуністычнымі ідэямі, пакідала месца адлюстраванню іншых палітычных кірункаў і, у першую чаргу, палеміцы, якая разгортвалася вакол іх. Камуністычная партыя

ў Італіі не была адзінай, яна была і застаецца адной з многіх партый. І само італьянскае Супраціўленне не было аднародным, яно мела дзве плыні – гарыбальдзійцаў, якімі кіравала непасрэдна камуністычная партыя, і бадальянцаў (маршал Бадольё пасля падзення рэжыму Мусаліні ўзначаліў урад на вызваленай англа-амерыканскімі войскамі тэрыторыі паўднёвай Італіі). Сярод апошніх, у асноўным, пераважалі афіцэры італьянскай арміі, патрыятычна настроеныя маладыя людзі; яны змагаліся супраць былых саюзнікаў – гітлераўцаў і італьянскіх фашыстаў. Таму своеасаблівасць італьянскай літаратуры ў адрозненне ад літаратуры беларускай савецкай заключаецца не толькі ў адлюстраванні камуністычных ідэй, але і ў разнастайнасці іх успрымання. Не ўсе з імі згодныя, многія героі спрабуюць разважаць аб сваім месцы ў грамадстве і ў палітыцы, як герой К. Касолы з рамана «Фаўста і Ханна» (1952): «Яму стала ясна, што Партыя дзеяння была найлепшай з партый, і што пасля таго, як міне захапленне камунізмам... найлепшыя асобы аб'ядноюцца вакол Партыі дзеяння» [264, р. 270]. Беларуская савецкая літаратура не паказала, ды і не магла ў той час адкрыта паказаць нейкія сумненні ці нязгоду з дзейнасцю камуністычнай партыі ў краіне. Пасля рэпрэсій 1930-х гадоў ніхто не хацеў рызыкаваць, і, акрамя таго, у большасці літаратараў была шчырая вера ў правільнасць абранага шляху, у тым ліку і мастацкага. Але, нягледзячы на гэта, беларуская ваенная літаратура імкнулася раскрыць свой патэнцыял з пункту гледжання агульначалавечых каштоўнасцей. В. Быкаў піша: «У савецкім мастацтве мастацкае слова значыла вельмі шмат, не таму, што было настолькі самацэнным для грамадства, а таму, што іншага маральнага выказніка ў нашым грамадстве не было. Літаратура і іншыя віды мастацтва былі адзіным, рэгламентаваным, няўдалым у многіх сэнсах маральным выказнікам. Гэтаму мастацтву не ўдалося зрабіць усё так, як хацелася. Але цяпер, калі вярнуцца назад

і аценіць тое мастацтва, то мы павінны проста зняць шапку перад гэтым мастацтвам, перад яго лепшымі творамі...» [102, с. 38]. І. Шамякін, разважаючы наконт уласных твораў першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, падтрымлівае думку В. Быкава: «Калі не лічыць некаторых публіцыстычных артыкулаў маладосці – таго часу, калі жыў яшчэ Сталін, і я верыў яму, і быў поўны энергіі і радасці, што застаўся жывы, выбіўся ў пісьменнікі, то за ўсё іншае не сорамна. “Помста”? Трагедыя і душэўная вялікасць чалавека. А хіба не такімі мы былі, як мой Раманенка? “Глыбокая плынь”? Гераізм людзей. А хіба не было яго? Безумоўна, нота высокая. Але такі быў час, і я быў шчырым сынам свайго часу» [247, с. 156]. Трэба, між іншым, аддаць належнае Івану Шамякіну за тое, што ён адным з першых у беларускай літаратуры закрануў тэму халакосту ў рамане «Глыбокая плынь». Менавіта такіх людзей, як гераіня рамана Таццяна, што, рызыкуючы жыццём, уратавала яўрэйскага хлопчыка, пазней назавуць праведнікамі свету.

У большасці мастацкіх тэкстаў беларускай і італьянскай літаратур пасляваеннага перыяду чалавек паўставаў як актыўны, палітычна свядомы выхадзец з народу, удзельнік вызваленчай барацьбы і самой гісторыі, носьбіт камуністычных ідэалаў альбо блізкі да іх. Менавіта палітычная заангажаванасць вызначала яго суб’ектную дадзенасць. У далейшым яна будзе выяўляцца ўсё слабей і слабей, пакуль не знікне зусім; партыйная прыналежнасць страціць сваю дэтэрмінантную функцыю асноўнай якасці героя (станоўчай ці адмоўнай). У немалой ступені гэтаму садзейнічала развіццё лініі Ф. Дастаеўскага ў мастацкай прозе і яго прынцыпаў аналізу і разумення чалавечай сутнасці. Справа не ў тым, што, часцей за ўсё, герой беларускай і італьянскай літаратур на тэму Другой сусветнай вайны падаваўся як станоўчы, а ў тым, што нярэдка ён быў абсалютна пазбаўлены адмоўных ці супярэчліва чалавечых якасцей. Гэта прыводзіла да схематызму ў адлюстра-

ванні жыццёвай праўды, пазбаўляла сюжэт дынамікі і збядняла вобразы герояў. Думаецца, у цэлым гэты крызіс у развіцці ваеннай літаратуры быў непазбежны і, магчыма, у канкрэтнай гістарычнай сітуацыі неабходны, ён рыхтаваў аснову для заглыблення ў чалавечы характар.

Такім чынам, прысутнасць ідэалагічных установак у творах беларускай і італьянскай прозы на тэму Другой сусветнай вайны першага пасляваеннага дзесяцігоддзя з'яўляецца іх агульнай прыкметай. У той жа час італьянская літаратура вызначаецца плюралізмам і разнастайнасцю палітычных пазіцый аўтараў і герояў, між тым як для беларускай характэрная ідэалагічная аднабаковасць.

### 2.3. Праблема гуманізму ў мастацкіх творах

Чалавек у сукупнасці сваіх адмоўных і станоўчых якасцей становіцца галоўным аб'ектам усёй савецкай літаратуры, у тым ліку і беларускай, пачынаючы з часоў «хрушчоўскай адлігі». Аднак трэба сказаць, што прынцыпы ўсебаковага аналізу ўнутранага свету героя яскрава выявіліся яшчэ ў час вайны ў творах Кузьмы Чорнага («Млечны шлях», «Вялікі дзень», «Пошукі будучыні»), якія былі, на жаль, апублікаваны толькі ў пачатку 1950-х гадоў. Як адзначаюць аўтары «Гісторыі культуры Беларусі ХХ стагоддзя», «на думку цэнзараў, у іх аўтар ідэалізаваў немцаў, развіваў думку аб іх гуманнасці» [161, с. 380]. Тым не менш увага да гэтага пісьменніка, прынамсі з боку беларускіх аўтараў і даследчыкаў літаратуры абуджаецца адразу пасля вайны, пра гэта сведчыць факт напісання ў 1946–1948 гадах І. Мележам дысертацыі па творчасці К. Чорнага. Аўтары манаграфіі «Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы» (1972) адзначаюць, што «К. Чорны, як ніхто іншы ў беларускай літаратуры, першым асмеліўся перайсці ад вострага публіцыстычных, агітацыйна-практычных задач у адлюстраванні вайны да мастацка-філасофскага асэнсавання

лёсу чалавека на вайне» [147, с. 186]. Такім чынам, Кузьма Чорны сумленна служыў высакароднай пісьменніцкай місіі, адлюстроўваючы свет па-філасофску глыбока і па-мастацку дасканала.

Пісьменнік, які ў адрозненне ад італьянскіх калег не мог актыўна ўдзельнічаць у еўрапейскім літаратурным працэсе (маюцца на ўвазе непасрэдныя творчыя кантакты, пераклады і г. д.), у сваіх мастацкіх пошуках рухаўся ў бок экзістэнцыяльнага спасціжэння быцця. Адметным застаецца і той факт, што раманы К. Чорнага пісаліся непасрэдна ў ваенны перыяд (як, дарэчы, і аповесць А. Камю «Чума», апублікаваная ў 1947 годзе), у параўнанні з тым, што абсалютная большасць твораў італьянскай і беларускай літаратур на ваенную тэму напісана ўжо пасля заканчэння вайны. Нельга не адзначыць, што кнігі К. Чорнага, як і кнігі італьянскага пісьменніка Э. Вітарыні (а таксама некаторых іншых аўтараў, што пісалі на ваенную тэму), выходзяць далёка за межы неарэалізму і сацыялістычнага рэалізму як па мастацка-эстэтычных якасцях, так і па глыбіні філасофскага падыходу да асэнсавання быцця. Абодва пісьменнікі цікавіліся сучаснымі дасягненнямі сусветнай літаратуры, што не магло не адбіцца на стылістыцы іх твораў (уплыў мадэрнісцкіх плыней на творчасць К. Чорнага 1920-х гадоў разглядала ў дысертацыйнай працы А.М. Мельнікава [166]), акрамя таго, безумоўнай прыкметай іх сутнаснай роднасці з'яўляецца цікавасць да спадчыны Ф.М. Дастаеўскага. Актуальнасць думак і творчасці рускага класіка для пакалення пасляваенных літаратараў падкрэсліў венгерскі паэт Янаш Пілінскі ў інтэрв'ю пасля наведвання Асвенціма: «<...> Дастаеўскі быў першы, хто абсурднасць свету вызначыў у выразах цяперашніх экзістэнцыялістаў, але пры гэтым пісаў зусім не раман абсурду. <...> На маю думку, зусім не выпадкова Дастаеўскі сто гадоў таму са здзіўляючай дакладнасцю абмаляваў праблемы... сярэдзіны XX стагоддзя»

[186, с. 38]. Тэма чалавека і чалавечнасці ў творчасці розных па мастацкай стылістыцы і светапогляду пісьменнікаў нязменна судакранаецца з філасофскімі поглядамі Ф. Дастаеўскага, што пацверджана шматлікімі даследаваннямі [120, 200, 201]. Паэт Ч. Мілаш наступным чынам звярнуў увагу на актуальнасць ідэй Ф. Дастаеўскага для XX стагоддзя: «<...> нідзе няма такога апісання асноўных праблемаў ды канфліктаў XX стагоддзя, як у “Легендзе пра Вялікага Інквізітара” Дастаеўскага... Аднак яго апакаліптычныя рысы маглі адно шакаваць у век, калі ён быў напісаны... Бо Вялікі Інквізітар выступае ў гэтай прыпавесці як той, хто ведае, што чалавек ня ўмее быць вольным, што чалавек – гэта шанавальнік багоў, а калі няма багоў, дык пакланяецца стодам і ў імя іх здольны на самую жахлівую лютасць» [168, с. 166].

Яшчэ адзін мысліцель, чый уплыў можа быць не такі відавочны, але тым не менш даволі моцны – гэта Фрыдрых Ніцшэ, на думку Л. Шэстава, у нечым роднасны Ф.М. Дастаеўскаму: «І сапраўды, калі людзей збліжае, родніць не агульнасць паходжання, не сумеснае пражыванне або падабенства характараў, а аднолькавасць унутранага досведу, то Ніцшэ і Дастаеўскі без перабольшання могуць быць названыя братамі, нават братамі-блізнятамі. <...> Шмат з таго, што было цёмным у Дастаеўскім, тлумачыцца сачыненнямі Ніцшэ. <...> Першы дар, які Еўропа з падзякай прыняла ад Расіі, была «псіхалогія» Дастаеўскага, г. зн. падпольны чалавек, з яго разнавіднасцямі, Раскольнікавымі, Карамазавымі, Кірылавымі» [248].

Блізкасць традыцый Ф. Дастаеўскага творчасці К. Чорнага дэталёва прааналізаваў А. Адамовіч у кнізе «Маштабнасць прозы», адзначаючы пры гэтым, што «часта гэта блізкасць палемічная, “блізкасць-спрэчка”, нязгода пастаянных (і ў гэтым сэнсе “блізкіх” апанентаў). Гэта так. Але што іменна Дастаеўскі найбольш пастаянны субяседнік ці апанент К. Чорнага – гэта таксама факт» [13, с. 124].

І К. Чорны, і Э. Вітарыні імкнуліся мастацкімі сродкамі адказаць на галоўнае пытанне філасофскай антрапалогіі: што ўяўляе сабой чалавек? Э. Вітарыні ўжо ў рамане «Размовы на Сіцыліі» (1941) вызначыў тэму чалавека, якая пазней атрымала працяг у рамане «Людзі і нелюдзі»: «Абапіраючыся цяпер не на сцяну, а на руку маёй маці, я думаў пра людзей, мяне самога, бацьку, дзеда, пра людзей прыніжаных і гордых, і думаў пра чалавецтва і пра гонар галечы, і ганарыўся быць сынам чалавека» [303, p. 256]. І далей аўтар працягвае разважаць наконт чалавека і яго глыбока схаванай крыўды: «Але нехта, Шэкспір або мой бацька ад яго імя, тым не менш авалодваў імі (крыўдамі. – *А. Д.*) і ўваходзіў у іх, абуджаў у іх бруд і мары, і прымушаў іх спавядацца ў правінах, пакутваць за чалавека, плакаць за чалавека, гаварыць за чалавека, рабіцца сімваламі вызвалення чалавецтва» [303, p. 309]. Як адзначае даследчыца італьянскай літаратуры З. Патапава, “Размовы на Сіцыліі” – кніга, у якой своеасабліва зліліся антыфашысцкая скіраванасць і ўплыў амерыканскіх празаікаў 30-х гадоў, у прыватнасці, Хемінгуэя, творы якога Вітарыні перакладаў» [189, с. 4].

Для выказвання свайго пратэсту супраць фашысцкай дыктатуры Э. Вітарыні карыстаецца алегарычнай мовай, звяртаецца да ўмоўнасцей, не маючы магчымасці гаварыць адкрыта з-за цэнзуры. Невыпадкова згадваецца і Шэкспір з яго «гамлетаўскім пытаннем»: «Што лепей, / Што разумней: альбо цярпець удары, / Каменні, стрэлы яраснага лёсу, / Альбо узброіцца на мора крыўд / І знішчыць іх змаганнем» [249, с. 262]. Па вялікім рахунку, гэта і ёсць пытанне пра супраціўленне, якое ў перыяд напісання твора датычылася ў першую чаргу ўнутранай сітуацыі ў Італіі.

У «Размовах на Сіцыліі» пісьменнік толькі акрэслівае тэму чалавека і яго вызвалення, у рамане «Людзі і нелюдзі» яна канкрэтызуецца. Надышоў час, калі Э. Вітарыні змог назваць рэчы ўласнымі імёнамі, яго мова і думкі робяцца выразнымі

і скіраванымі супраць дакладнага ворага: «Мы гаворым “чалавек”, – піша Э. Вітарыні. – І думаем пра тых, хто падае, хто гіне, хто плача і галадае, хто дрыжыць ад холаду, пра тых, каго пераследуюць і забіваюць. Мы думаем пра крыўду, якую яму наносяць, і пра яго годнасць. Пра ўсё тое ў чалавеку, што ў ім пакрыўджана, і пра тое ў яго душы, што можа зрабіць яго шчаслівым. І ўсё гэта – чалавек» [304, р. 161].

Калі згадаць раманы К. Чорнага «Пошукі будучыні» (1943), «Млечны Шлях» (1944), «Вялікі дзень» (1944), аповесць «Скіп’ёўскі лес» (1944), напісаныя яшчэ ў час вайны, але, на вялікі жаль, не завершаныя, дзе праблема гуманнасці ва ўмовах вайны ставіцца па-філасофску востра і глыбока, нельга сказаць, што італьянская проза апярэджвала беларускую ў асэнсаванні аксіялагічнага і гуманістычнага аспекту існавання чалавека на вайне. Для К. Чорнага і немцы, і беларусы – гэта ў першую чаргу людзі, што так ці інакш апынуліся ўцягнутымі ў вір Другой сусветнай вайны. Яны маюць сваю гісторыю, як Адам Блецька ці Густаў Шрэдэр, свой сум і свае матывы паводзін. Вайна ў К. Чорнага – гэта вайна людзей. Адносіны паміж ворагамі – гэта ў першую чаргу адносіны паміж людзьмі, пры гэтым пісьменнік паказвае дэградацыю адных і высакароднасць другіх. Паступова ў творчасці беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў гэтыя прынцыпы адлюстравання чалавечага характару выйдуць на першае месца, што асабліва выразна выявіцца ў 1990-я гады.

На нашу думку, веліч К. Чорнага ў тым, што ён з самага пачатку ішоў шляхам увасаблення гісторыі падзеі ў гісторыі асобы, а не наадварот. У дзённіку ён запісаў: «У вялікай літаратуры персанажы маюць сваю біяграфію. А каб пісаць біяграфіі людзей, трэба ведаць, што народ – гэта мільёны індывідуальнасцей, кожны са сваім індывідуальным абліччам і лёсам, хоць і падначаленымі аднаму закону жыцця – нацыянальнаму і дзяржаўнаму» [237, с. 588]. Пісьменнік тут не згад-

вае немцаў, але тым не менш распаўсюджвае гэтыя прынцыпы і на стварэнне іх вобразаў, надзяляючы іх пэўнымі рысамі характару, як у рамане «Млечны шлях»: «Ён плакаў. Што такое здарылася? Адкуль гэта ў такі час, калі спарахнелыя ў зямлі лаціняне ніколі яшчэ не мелі такога бліскучага апраўдання сваёй прымаўцы: “чалавек чалавеку воўк”. І ніхто гэтаму не здзівіўся і як бы не заўважыў нават гэтага здарэння» [235, с. 192]. А таксама распавядае асабістую гісторыю кожнага.

Неабходна падкрэсліць і такую якасць твораў К. Чорнага, як лакалізаванасць падзей (за імі назіраюць або ў іх удзельнічаюць не абстрактныя беларусы, а жыхары пэўнай мясцовасці). І гэта яднае беларускага празаіка з італьянскімі: у італьянскай літаратуры прывязка аўтара да канкрэтнай мясцовасці адна з самых характэрных, гістарычна абумоўленых з'яў.

Амаль усе ваенныя творы К. Чорнага пачынаюцца не з ваенных, а з даваенных часоў, са своеасаблівых уводзін, у якіх нібы ўвасабляецца на практыцы думка А. Камю, занатаваная ў запісных кніжках: «Людзі ўсё хацелі зразумець, дзе вайна – і што ў ёй мярзотнага. І вось яны заўважаюць, што ведаюць, дзе яна, што яна ў іх саміх, што яна ў гэтай нязручнасці, у гэтай неабходнасці выбіраць, якая прымушае іх ісці на фронт і пры гэтым пакутваць, што не хапіла духу застацца дома, або застацца дома і пры гэтым пакутваць, што яны не пайшлі на смерць разам з іншымі. Вось яна, яна тут, а мы шукалі яе ў сінім небе і ў абыякавым навакольным свеце. Яна ў страшэннай самоце таго, хто змагаецца, і таго, хто застаецца ў тыле, у ганебным адчаі, які ахапіў усіх, і ў маральным падзенні, якое з часам праступае на тварах. Надышло царства звяроў» [117, с. 283]. І чалавек у творах К. Чорнага супрацьстаіць гэтаму царству, вырашаючы праблему ўласцівага яму і неўласцівага, прычым людзі ў творах беларускага пісьменніка *жывуць* (існуюць) і перажываюць гэты часавы канцініум, пафіласофску яго асэнсоўваючы, што падкрэслівае і сам аўтар:

«Беларускі народ ідзе цяпер праз новы рубеж свае гісторыі. З таго моманту, які мы сёння перажываем, астанецца навекі новы гістарычны вопыт нашага народа, таксама як астануцца навекі сляды той крывавай драмы, якая разыгралася сёння на беларускай зямлі. Набытыя ў жорсткай практыцы вялікага змагання з нямецкім захопнікам, з ненавісным чужаземным прышэльцам на нашу зямлю, новыя рысы ўдасканаляць наша аблічча, узбагацяць нас новымі якасцямі» [233, с. 442]. Безумоўна, К. Чорны меў на ўвазе якасці станоўчыя, «благонравные», такія як мужнасць, высакароднасць, самаахвярнасць, але суровая праўда ваенных часоў прымушала яго аналізаваць негатыўныя аспекты асобы і іх праявы.

Для іншага італьянскага аўтара, Ч. Павэзэ, мёртвыя фашысты і мёртвыя партызаны з аповесці «Дом на пагорку» («Перш, чым праспявае певень», 1949) – гэта толькі забітыя людзі: «Ты атрымліваеш уражанне, што той самы лёс, які пламясціў на зямлю гэтыя целы, спыніў нас быццам скамянелых, каб глядзець на іх на ўсе вочы. І гэта не страх, гэта не звычайная баязлівасць. Ты адчуваеш сябе прыніжаным, таму што разумееш – намацваеш вачыма – што на месцы мерцвяка маглі б быць мы: і не было б ніякай розніцы, і тым, што мы яшчэ жывыя мы абавязаны гэтаму сцятаму целу» [287, р. 140].

У рамане «Людзі і нелюдзі» Э. Вітарыні падзяляе людзей на дзве катэгорыі, узнімаючы пытанне: ці мае права называцца чалавекам той, хто свядома здзяйсняе жорсткае забойства? Пісьменнік разважае на тэму гуманнасці на старонках, прысвечаных смерці вулічнага гандляра Джулая, які пакараны за тое, што, абараняючыся, забіў нямецкую аўчарку. Пакараць смерцю чалавека за смерць сабакі – факт неадэкватны сам па сабе. Але асаблівая, вытанчаная жорсткасць катаў не толькі ў гэтым, але і ў спосабе забойства: капітан Клем не расстраляў Джулая, а аддаў на загубу сабакам. І пісьменнік праводзіць паралель паміж неразумнай істотай – сабакам, якога натравілі на чала-

века, і нямецкімі афіцэрамі з іх памагатымі. Э. Вітарыні разважае: ці ёсць розніца паміж істотай разумнай і істотай неразумнай, калі яны здольны рабіць аднолькавыя рэчы? Між тым, Ф. М. Дастаеўскі ў свой час выказаўся адназначна: «Сапраўды, гавораць іншым разам пра “звярыную” жорсткасць чалавека, але гэта страшэнна несправядліва і крыўдна для звяроў: звер ніколі не можа быць настолькі жорсткі, як чалавек, так артыстычна, так па-мастацку жорсткі» [95, с. 220].

Рускі філосаф В. Зяцькоўскі лічыў прыроду чалавека дуалістычнай: «Ключ да разумення зла ў чалавеку, яго дынамікі заключаецца якраз у тым, што энергія злых рухаў сілкуецца за кошт энергій добрых і светлых рухаў... і гэтыя злыя рухі “скажаюць”, інакш кажучы ў другі бок накіроўваюць светлую энергію. Гэта наяўнасць двух дынамічных цэнтраў у чалавеку тлумачыць нам факт унутранай барацьбы ў чалавеку, пастаяннай патрэбы падманваць самога сябе, прадстаўляць сабе свае дурныя рухі ў сэнсе быццам бы добрых і лагічных, якія маюць свой сэнс» [197, с. 328]. Супрацьпастаўленне чалавека як разумнага стварэння і чалавека як параджэння цёмных сіл з разбуральнымі інстынктамі праводзіць на старонках сваіх твораў і К. Чорны. У рамане «Пошукі будучыні» Ракуцька гаворыць графу Паліводскаму: «Ты мяне называеш хамам? За тое, што я зрабіў – я чалавек, а за тое, як ты са мной абышоўся – ты хам!» [236, с. 52].

Як бачым, дылемы, агучаныя К. Чорным, сугучны пастаўленым Э. Вітарыні. Беларускі пісьменнік выказвае свае меркаванні вуснамі герояў, Э. Вітарыні засяроджвае іх у лірычных адступленнях, дзе гучыць яго ўласны аўтарскі голас. Ён параўноўвае паводзіны сабакі, які саромеецца самога сябе, сваіх учынкаў і спрабуе схавацца ад чалавека, з паводзінамі чалавека. Трэба сказаць, што пытанне пра наяўнасць жывёльных інстынктаў у чалавека разглядалася і філасофіяй. Так, Б. Спіноза лічыў чалавека часткай прыроды, якую атаясамлі-

ваў з Богам, і сцвярджаў, што ўсе яго дзеянні абумоўлены ўніверсальнымі сусветнымі прычынамі, сярод якіх – прага чалавека да самазахавання.

Нацысты кіраваліся іншай філасофіяй, аснову якой склала адчужэнне аднаго чалавека ад другога, таму іх дзеянні ў большасці выпадкаў нельга вытлумачыць з пункту гледжання інстынктаў самазахавання, і Э. Вітарыні разважае, ці сапраўды ў чалавеку столькі непатрэбнай жорсткасці: «Я б хацеў пабачыць іншых: самога Гітлера, у тых самых умовах, з Сынам Божым побач, і каб ён зразумеў нарэшце, што вырабляе, і заскуголіў, і пабег бы пад ложак скуголіць. Ці любога з немцаў Гітлера, з вайскоўцаў Мусаліні, з усіх, хто нарабіў спраў усяму свету... хто смяяўся з таго, што рабіў, а цяпер бы ўцёк пад ложак скуголіць... Але мы хочам ведаць іншае. Не тое, ці ўласціва чалавеку скуголіць, а ці ўласціва чалавеку рабіць тое, што робяць яны, калі крыўдзяць іншых» [304, p. 163]. М. Лынькоў у нарысе «Шляхамі вайны» разважае пра выяўленне ў чалавеку нечалавечага: «Тады мы не бачылі яшчэ печаў Майданака, Асвенціма, Трэмблінкі, толькі смутныя, злавесныя чуткі даходзілі аб іх да нас, і нам па-чалавечаму не хацелася верыць гэтым чуткам. Мы ж людзі... і двуногая фашысцкая погань, хоць знешнім выглядам сваім нагадвае ўсё ж чалавека... Вось чаму цяжка было верыць даходзіўшым да нас чуткам...» [145, с. 115].

Кузьма Чорны пераводзіць пытанне пра ўласцівае і неўласцівае чалавеку ў іншую, больш шырокую плоскасць. Ён ставіць пытанне наконт таго, ці ўласціва чалавеку ўвогуле жадаць вайну і знаходзіцца ў адвечным ваяўнічым стане: «У нашы дні спрабавала забытаваць пропаведзь, што кожны народ любіць вайну. Горкая практыка паказала, што ваяўнічае геройства народа нараджаецца і выпрацоўваецца не ад замілавання да рэк крыві на полі вайны, а ад неабходнасці сцерці з твару зямлі такую погань, якая ў нашы дні ў вобразе Гітлера

заявіла, што нармальны стан мужчыны вечна быць у вайне» [236, с. 46].

Калі разглядаць вайну як зло (а менавіта на гэта звяртаюць увагу беларускі і італьянскі пісьменнікі), то важным паўстае пытанне абавязковай наўнасці зла ў чалавечай істоце. Гэта пытанне з'яўляецца адным з цэнтральных у хрысціянскай філасофіі і маралі. І асабліва востра яно паўстала ў драматычным ХХ стагоддзі ў сувязі са шматлікімі гістарычнымі катаклізмамі. Філосаф В. Зяньkoўскі лічыць, што «зло (варожасць, барацьба, пакуты, смерць) існавала ў свеце і да чалавека, але толькі ў чалавеку мы знаходзім волю да зла, свядомае "ўхваленне" зла і нават "творчае натхненне" злом. Тут істотна яшчэ тое, што матывы зла ў чалавеку толькі з павярхоўнага пункту погляду ўзыходзяць да "жарсцяў", да ўлады пачуццёвых рухаў. Па сутнасці ж зло ў чалавека мае духоўны сэнс – чым далей развіваецца гісторыя і багацей робіцца культура, тым больш вытанчаныя формы прымае зло, агаляючы духоўную сваю прыроду, свой метафізічны сэнс» [197, с. 327].

«...Чалавек здольны на ўсё, што заўгодна», – пісала філосаф Ханна Арэндт у 1944 годзе ў артыкуле «Арганізаваная віна» [31], у якім уздымала пытанне агульнай палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай адказнасці краін і народаў за ўсё, што адбывалася ў свеце. Такім чынам, прымаючы як дадзенае факт, што зло не з'яўляецца выпадковым у гісторыі чалавецтва і што гэта неад'емная частка чалавечай натуры, неабходна ўзняць сустрэчнае пытанне: якія абставіны правакуюць абуджэнне зла, ці абавязкова чалавек павінен выявіцца як разбуральнік уласных станоўчых якасцей? У такім разе лагічным падаецца разгляд чалавека як біялагічнага суб'екта, інакш кажучы, паколькі прыналежнасць чалавека да біялагічнага свету відавочная, ці з'яўляецца магчымасць «тварыць несправядлівасць», тварыць зло непазбежнай характарыстыкай існавання гэтага біялагічнага віду?

На гэтым, безумоўна складаным, пытанні неаднойчы засяроджвае ўвагу Э. Вітарыні: «Але што такое крыўда? Яе ахвярамі робяцца чалавек і свет. Кім яна зроблена? А кроў, якая ліецца? А праследаванні? А прыгнёт?.. Сёння мы маем Гітлера... А што ён такое? Не чалавек? Маем яго немцаў. Маем нашых фашыстаў. Але што такое ўсё гэта? Мы можам сказаць, што і гэта таксама не знаходзіцца ў чалавеку, што не належыць чалавеку?» [304, р. 161]. У сваю чаргу К. Чорны быццам пераадольвае гэты песімізм, адказваючы на пастаўленыя Э. Вітарыні пытанні раманам «Пошукі будучыні», прасякнутым магутнай верай у чалавека: «...Чалавек не вытрымае, каб вечна быць зверам... Вырві ты з чалавека сэрца і ўстаў на яго месца звярынае, дык, дык у чалавечых грудзях і звярынае сэрца стане чалавечым» [236, с. 116].

Нацысты ў асобе Тоўхарта ў рамане К. Чорнага і ў асобе Клема ў рамане Э. Вітарыні вымаўляюць амаль аднолькавыя словы, сэнс якіх можна вызначыць як «прага ўлады». Тоўхарт, у прыватнасці, гаворыць: «<...> мы хочам не ратунку, а панавання. А панаваць можна толькі над тым, каго ненавідзіш. Таму мы сваім нацыянальным пачуццём павінны зрабіць нянавісць да ўсяго, што не наша, і нам павінна быць усё роўна, што пра нас думаюць. Бязлітаснасць павінна стаць нашым сцягам...» [236, с. 262]. Капітан Клем нібы працягвае словы суайчынніка: «Калі для нас надыдуць апошнія дні, то і для ўсяго свету надыдуць апошнія дні. За кожнага немца, што памірае, мы забіваем дзесяць чалавек. Нас, немцаў, дзевяноста мільёнаў. Перш як памерці ўсім дзевяноста мільёнам, мы заб'ём дзевяцьсот мільёнаў чалавек. Ці існуюць на свеце дзевяцьсот мільёнаў чалавек? Не існуюць. Германія не можа памерці...» [304, р. 61]. Кожнае слова тут выконвае важную функцыю, сведчыць пра няздольнасць да эмпатыі, халоднасць і высакамернасць персанажаў. Іх моўныя характарыстыкі даволі красамоўныя: яны раскрываюць інфармацыю непасрэдна

пра іх саміх, але адначасова выходзяць за межы характараў персанажаў і сюжэтаў твораў і ствараюць абагулены вобраз чалавека з канкрэтнага асяроддзя.

З другога боку, абодва аўтары сцвярджаюць ідэалы дабра і справядлівасці, і – як вышэйшую іх праяву – чалавечнасць. Так, у рамане «Пошукі будучыні» фельчар, да якога павезлі Кастусь і Волечка параненага Густава Шрэдэра, гаворыць спалоханаму немцу: «Чаго ты баішся? Дурань ты. Нямецкая галава. Машыну якую ці гармату новую ты ўмееш выдумаць, а бачыць, што чалавек мае душу і сэрца – на гэта ў цябе няма нічога» [235, с. 16]. Наяўнасць душы і Бога ў душы становіцца кульмінацыяй думкі Э. Вітарыні пра чалавека, выказанай ужо ў развагах аўтара: «Мы гаворым, што гэта ўласціва чалавеку. Мець у сваёй душы Бога ў роспачы, прывід і сукенку, што вісіць за дзвярыма. А таксама мець у душы Бога шчаслівага. Быць мужчынам і жанчынай. Быць маці і дзецьмі. Усё гэта мы зведалі і можам сказаць, што гэта ўласціва нам» [304, р. 167].

Паколькі чалавек - носьбіт не толькі станоўчых якасцей, «побач з “асобай-дабром” у пэўных умовах дзейнічае і “асоба-зло”. Дастаеўскі не пакідаў без увагі значэнне гэтых умоваў. Але ён не згаджаўся вызваляць ад адказнасці самога чалавека за негатыўныя праявы яго асобы» [201, с. 16], – адзначыў А. Станюта. Не вызваляюць індывіда ад адказнасці і К. Чорны, і Э. Вітарыні. Сугучнасць іх думак думкам Ф.М. Дастаеўскага падкрэслівае інтэртэкстуальную блізкасць пазіцый пісьменнікаў XIX і XX стагоддзяў, якая выявілася і ў творчасці П. Леві, што разглядае праблему гуманізму ў аўтабіяграфічнай кнізе «Ці гэта чалавек?». Італьянскі пісьменнік і ў далейшай сваёй творчасці не раз будзе апеляваць да мастацкіх метадаў і спадчыны вялікага класіка, што, як і для К. Чорнага, стане адным з яго асноўных апанентаў.

Трэба адзначыць яшчэ адну паралель паміж творчымі біяграфіямі беларускага і італьянскага пісьменніка: раман

«Ці гэта чалавек?» П. Леві, выдадзены ў 1947 годзе, практычна напаткаў лёс твораў К. Чорнага. У 1940-я гады кніга не была зразумета і не атрымала належнай увагі, і толькі ў 1956 годзе, пасля выставы ў г. Турыне, прысвечанай дэпартацыі яўрэяў, кнігу перавыдалі, і з таго часу ўвага да яе не змяншаецца.

П. Леві, хімік па адукацыі, у 1942 годзе ўступіў у падпольную Партыю дзеяння і ў 1943 годзе, пасля акупацыі нямецкай арміяй паўночнай і цэнтральнай Італіі, далучыўся да адной з партызанскіх груп, аднак на пачатку снежня яго арыштавалі. Разам з іншымі зняволенымі-яўрэямі, сярод якіх было шмат жанчын і дзяцей, немцы адпраўляюць Леві ў канцэнтрацыйны лагер Асвенцім (Аўшвіц). Пісьменніку пашчасціла выратавацца, бо, трапіўшы ў медыцынскі ізалятар у студзені 1945 года, ён разам з іншымі хворымі быў кінуты немцамі, якія паспешліва адступалі. Праз некалькі дзён прыйшлі савецкія войскі і вызвалілі ахвяр лагера. Знаходжанне ў Асвенціме моцна паўплывала на светапогляд пісьменніка і легла ў аснову яго дакументальна-філасофскага рамана «Ці гэта чалавек?». Твор быў напісаны «па гарачых слядах», у 1946 годзе, і разам з такімі аўтабіяграфічнымі творамі, як «Маўтхаўзэн – замкнёны горад» А. Бідзары, «Зімовае апавяданне» (1945) і «Цяжкая частка» (1947) О. Дэль Буона і іншымі распачаў у італьянскай літаратуры тэму гвалту над чалавечай асобай падчас Другой сусветнай вайны і халакосту.

Аб’ектам увагі пісьменніка стаў чалавек, які змагаецца, памірае і адраджаецца, нягледзячы на страшныя і невытлумачальныя з пункту гледжання маралі і этыкі паводзіны адных людзей у адносінах да іншых. Праблематыка кніг П. Леві сканцэнтравана вакол антытэзы «чалавек – нечалавек» і вакол пытання: хто ёсць чалавек чалавеку? Гэтыя праблемы асэнсоўваюцца на працягу ўсёй яго творчасці ў мастацкіх кнігах «Ці гэта чалавек?» (1947), «Перадышка» («La tregua», 1962) і ў

публіцыстычнай кнізе «Тапельцы і ўратаваныя» («I sommersi e i salvati», 1987). Аднак праблематыка першай кнігі П. Леві больш шырокая: яна закранае і пытанні выжывання чалавека ва ўмовах замкнёнай структуры.

Гэты твор – яскравы прыклад літаратуры «сведчання», якая мае на мэце пошук сведчанняў «пра асновы быцця, яна нясе ў сабе ўяўленне пра норму і яе парушэнне» [180]. Першапачатковай мастацкай задачай аўтара было засведчыць падзеі, што з ім адбыліся, але ў выніку П. Леві ўздымаецца да шырокіх канцэптуальных абагульненняў пра сутнасць чалавека. Раман «Ці гэта чалавек?» складаецца з асобных частак-апавяданняў, у якіх асвятляюцца розныя бакі лагернага жыцця; гэтыя часткі не парушаюць часавай паслядоўнасці твора, але канцэнтруюць увагу чытача на яго канкрэтных момантах і дэталях. Іх назвы фіксуюць прыступкі, па якіх чалавек сыходзіць у пекла: «Падарожжа», «На дне», «Пачатак», «К-В», «Нашыя мёртвыя», «Праца», «Па-за дабром і злом», «Тапельцы і ўратаваныя» і г. д. У рамане адлюстроўваюцца аб'ектыўная разбуральная рэальнасць і сіла чалавечага духу, якая ёй супрацьстаіць.

Асноўнай характарыстыкай твораў П. Леві, што вызначае іх сярод мноства іншых, з'яўляецца не толькі праўдзівае адлюстраванне ўласна перажытых падзей, але і аналітычнасць манеры апавядання, пошукі філасафічнага і псіхалагічнага тлумачэння паводзін і ўчынкаў людзей. У некаторым сэнсе яны сугучны пазіцыям псіхолага Віктара Франкла [226]. Пісьменнік звяртае ўвагу не толькі і не столькі на фізічнае знішчэнне асобы, як на маральнае прыніжэнне, адмаўленне гуманнасці, на неабходнасць адасабляцца ад сяброў і блізкіх у змаганні за ўласнае жыццё. Чалавек трапляе не проста ў лагер, а ў сучасную мадэль пекла, штучна створаную для ператварэння людзей у неадухоўленыя аб'екты: «Сёння, у нашыя дні, пекла павінна выглядаць такім чынам: пакой вялікі і пусты, і мы, стомленыя стаяць, і ёсць адзін кран, з якога капае, і ваду

нельга піць, і мы чакаем нечага безумоўна жудаснага, але нічога не адбываецца. Што думаць? Больш думаць немагчыма, як быццам ты ўжо памёр. Нехта садзіцца на зямлю. Час праходзіць кропля за кропляй» [277, p. 19]. Такімі сталіся для пісьменніка першыя гадзіны ў лагеры, які застанецца для яго сімвалам перавернутага з ног на галаву свету, злавеснай установы, у якой чалавечыя стасункі губляюць сваю камунікатыўна-станоўчую сутнасць і падпарадкоўваюцца намаганню ўратаваць сябе, не звяртаючы ўвагі на іншых.

Адной з галоўных праблем, якую ўздымае італьянскі пісьменнік, з'яўляецца праблема захавання чалавечых якасцей, падтрымкі знясіленага духу. Яна агучваецца ў дыялогах галоўнага героя з таварышамі, у прыватнасці, з удзельнікам Першай сусветнай вайны сяржантам Штэнлаўфам: «<...> менавіта таму, што лагер – гэта вялікая машына, каб ператварыць нас у жывёл, мы не павінны ў іх ператварыцца; што нават у такім месцы можна выжыць і таму неабходна хацець выжыць, каб расказаць, каб засведчыць... Такім чынам, мы, безумоўна, павінны мыць твар без мыла, у бруднай вадзе і выціраць яго кашуляй. Павінны гуталініць абутак не таму, што так прадпісана парадкам, а з-за пачуцця годнасці і ўласнасці. Павінны хадзіць, трымаючыся прама, і не шоргаць чаравікамі, не ў падарунак прускай дысцыпліне, а каб застацца жывымі, каб не пачаць паміраць» [277, p. 36].

Словы, якія найчасцей сустракаюцца на старонках рамана, гэта «адмаўленне», «адчужэнне», «знішчэнне». Безумоўна, структура лагера і існаванне ў ім былі наладжаныя такім чынам, каб адасобіць чалавека, адгарадзіць яго ад іншых, а пасля зрабіць тое, што прадугледжвалі планы гітлераўскага кіраўніцтва. Пра гэта гаворыць і К. Чорны на старонках рамана «Пошукі будучыні», распавядаючы пра Перабродскі канцэнтрацыйны лагер: «<...> яна не бачыла таго страшнага малюнка, калі чалавек загнаны ў няволю, у загарадзь і ў натоўп

сабе падобных няшчасных, ад якіх забрана права, самае першапачатковае, патрэбнае нават і некаторым жывёлінам – дзеля сваіх прыродных патрэб пабыць часам у адзіноце – яна не наглядала, як чалавек тут ператварыўся ў жывёліну, а натоўп у чараду. Каля вядра з баландай людзі збівалі адзін аднаго з ног, ратуючыся ад галоднай смерці і хваробы. Тыя ж, што былі цвярдзейшыя воляй, угаворвалі гэтых і словам і кулакам наладзіць сталасць» [236, с. 139].

Немагчыма не адзначыць глыбіню творчай асобы К. Чорнага, чый голас сугучны голасу П. Леві. Беларускі пісьменнік не быў непасрэдным сведкам таго, пра што ён піша, тым не менш ён звярнуў увагу на самыя, бадай, балючыя моманты існавання чалавека ў падобных абставінах. Уласна кажучы, гэтым шляхам ішлі самыя выбітныя пісьменнікі XX стагоддзя, для якіх вайна ёсць экзістэнцыяй (= існаваннем) у экстрэмальных умовах. Хацелася б звярнуць увагу на наступнае выказванне А. Камю: «Я спрабаваў паказаць... паўсядзённае суіснаванне людзей і гісторыі, праліць як мага больш святла на нашае звычайнае жыццё і ўпартую барацьбу людзей супраць дэградацыі – сваёй і іншых» [119, с. 138]. Гэтыя словы цалкам стасуюцца з творчымі падыходамі К. Чорнага, які не толькі раскрываў у сваіх раманах складаны ўнутраны свет чалавека, але ў крытычных артыкулах называў беларускую літаратуру «вялікай», даючы нам магчымасць зусім па-іншаму ўбачыць і літаратурны працэс, і нас саміх.

У лагеры герой П. Леві высвятляе, што сярод людзей можна вылучыць дзве выразныя катэгорыі: «тапельцы» і «ўратаваныя», амаль незаўважныя ў звычайным жыцці, калі чалавек існуе ў соцыуме. У лагеры чалавек застаецца сам-насам з варожым навакольным светам, падпарадкуючыся працэсу натуральнага адбору. Згодна з тэорыяй аднаго з персанажаў, ёсць тры метады, каб пазбегнуць знішчэння, якімі чалавек можа карыстацца і не губляць імя чалавека: арганізаванасць, спа-

чуванне і крадзёж. Аднак застаюцца людзі, якія не выбіраюць тыя ці іншыя метады, а проста робяць усё, каб ацалець, нават за кошт іншых. П. Леві ставіцца са шкадаваннем і да адных, і да другіх. Тыя, што траплялі ў лагер, быццам бы апыналіся па-за мяжой чалавечых стасункаў. Гэта датычылася не толькі вязняў, але і іх катаў: «Персанажы гэтых старонак не ёсць людзі: іх чалавечнасць была пахавана, альбо яны пахавалі яе пад крыўдай перанесенай самімі ці нанесенай іншым. <...> Усе прыступкі нездаровай іерархіі, створанай немцамі, неверагодным чынам сабраліся ў адзіным унутраным адчаі» [277, p. 109].

Складанымі былі адносіны вязняў не толькі ўнутры лагера, але і з людзьмі са «знешняга свету». У вачах цывільных грамадзян яны павінны былі запляміць сябе бог ведае якім чынам, каб апынуцца ў такіх умовах. Аднак сустракаліся людзі, што шчыра імкнуліся дапамагчы вязням. Адным з іх быў італьянскі рабочы Ларэнца, які не толькі на працягу шасці месяцаў прыносіў герою рамана П. Леві ежу, але і не даваў яму забыцца на тое, што існуе таксама іншы свет – нармальных чалавечых стасункаў: «...Ларэнца быў чалавекам: яго чалавечнасць была чыстай і незабруджанай, ён быў па-за гэтым светам адмаўлення. Дзякуючы Ларэнца са мною адбылося тое, што я не забыўся: я сам чалавек» [277, p. 109].

Галоўны герой кнігі П. Леві – гэта высокаінтэлектуальная асоба. Усе праявы яго ўнутранага жыцця: эмоцыі, пачуцці, у рэшце рэшт, страхі маюць для аўтара не толькі першаснае значэнне звычайнай рэакцыі на акаляючы свет, а набываюць новае значэнне – індыкатара рэчаіснасці. Паказальная ў гэтым плане частка «Песня Уліса», дзе неўміручы твор Дантэ «Боская камедыя», пра які Леві распавядае свайму французскаму сябру Жану, інтэртэкстуальнымі асацыяцыямі прыводзіць нас да разумення актуальнасці праблемы чалавечнага ў чалавеку ў розныя стагоддзі: «...абсалютна неабходна і неадкладна, каб ён слухаў, каб зразумеў гэта "come altrui piaque", перш чым стане

занадта позна, заўтра ён альбо я можам памерці і ніколі больш не ўбачыцца, я павінен сказаць яму, растлумачыць пра сярэднявечча, пра такі чалавечы і неабходны, і тым не менш нечаканы анахранізм, і яшчэ іншае, нешта гіганцкае, што я сам убачыў толькі зараз...» [277, p. 103]. Калі вакол увесь свет здаецца варожым, і не даводзіцца чакаць спагады ад тых, хто побач, чалавек шукае дапамогі і падтрымкі ў мастацтве, таму што мастацтва і ўспрыманне мастацтва застаюцца чыста індывідуальным дзеяннем, у якім чалавек выяўляецца як асоба і, нягледзячы на ўсе спробы нівелізацыі, захоўвае свае асабістыя рысы і якасці.

Трэба адзначыць, што Дантэ, як ніякі іншы пісьменнік, часта згадваецца ў творах на тэму Другой сусветнай вайны, і, дарэчы, у крытычнай літаратуры таксама. В. Казько, П. Леві, А. Маравія, Л. Менегела, М. Тычына – вось толькі некаторыя аўтары, што звяртаюцца да яго творчасці. Згадка пра Дантэ ў творы П. Леві мае і іншы сэнс: «Боская камедыя», на думку Ю. Нечыпарэнкі, можа таксама лічыцца адным з твораў літаратуры сведчання, якая звяртаецца да Вышэйшага, Страшнага суда: «І тут у традыцыі еўрапейскай літаратуры “Боская камедыя” Дантэ дае нам прыклад сведкавых паказанняў “па выніках” гэтага Суда, праведзенага аўтарам сумесна з вышэйшымі сіламі. Наколькі значныя і вялікія гэтыя вынікі!» [180]. Мадэль сусвету, па-мастацку ўвасобленая Дантэ, вяртае надзею, прымушае паверыць, што кожны атрымае тое, што заслугоўвае, а зло не можа не быць пакараным. Аднак П. Леві змог разглядзець у чалавеку яшчэ і прагу духоўнасці, якая губляецца ў штодзённым змаганні за жыццё: «Мы ўжо ў чарзе за супам, пасярод натоўпу. <...> Афіцыйна абвяшчаецца, што сёння – суп з капусты і рэпы: – Choux et navets. – Káposzta és répak.

Пакуль нас мора не схавала» [276, p. 103].

Пошукі апоры ў хісткім свеце, якія выяўляюцца ў звароце да Вечнага, да трансцэндэнтнага знаходзім і на старонках

рамана К. Чорнага «Млечны Шлях», яе сімвалам выступае зорнае неба, да якога звяртаюцца героі ў розныя моманты свайго жыцця: «Млечны Шлях! – моцна сказала Ганута, павярнуўшыся да акна. – За дзень да вайны, калі мы яшчэ і не думалі, што яна будзе, мы з Марынай цэлую ноч прастаялі на балконе і глядзелі на Млечны Шлях. Гэта зорная дарога так вабіла кудысьці нас!..» [235, с. 217]. Менавіта зорнае неба можа паяднаць людзей: «Я быў на вашай зямлі ў тую вайну. Мы канчалі вайну пацалункам... Над маім домам у Германіі гэты самы стаіць Млечны Шлях... Не пакіньце мяне!» [235, с. 219].

У рамане «Вялікі дзень» К. Чорны звяртаецца да іншай крыніцы вечных каштоўнасцей, да Бібліі, да ўзаемадачыненняў веры і чалавека, распавядаючы пра выпрабаванне Іова: «Ён ведаў, што гэта бог яго карае, але не пакінуў маліцца богу, і хваліў бога, і не ўзняў слова на бога. Бог за гэта вярнуў яму ўсё: і здароўе, і сілу, і маёмасць, ...і дзеці ў яго другія нарадзіліся... І гэта ж тысячы год гаворыцца людзям, і няўжо ніхто не падумаў ні разу, што не можна так гаварыць чалавеку, бо гэта вялікая няпраўда» [234, с. 378]. У такім жа палемічным ключы разважае на тэму Бога і веры П. Леві, згадваючы апошнія дні ў лагеры: «Сёння я думаю, што ўжо з-за аднаго факту існавання Асвенціму ніхто ў наш час не павінен гаварыць пра Божы Провід: аднак праўда таксама, што тады згадка пра біблейскія збавенні ў найгоршых бедствах пранеслася ветрам у нашых душах» [277, p. 140]. Такім чынам, абодва аўтары падкрэсліваюць цяжкасць падобных выпрабаванняў для чалавека, калі руйнуюцца звыклыя ўяўленні пра акаляючы свет і чалавек павінен узнаўляць мадэль рэчаіснасці з новымі ўстаноўкамі. У такім разе важна захаваць сувязь са знешнім светам, з крыніцамі духоўнасці, важна імкнуцца да волі, не згубіць самога сябе, аднак гатовых правіл на гэты конт не існуе. Кожны чалавек застаецца сам-насам з варожай яму рэчаіснасцю і сам шукае выйсця, – вось выснова, да якой прыходзяць пісьменнікі.

Сярод вязняў, аднак, знаходзіліся і тыя, каго не здолелі зламаць нацысцкая сістэма і шматлікія яе атрыбуты, скіраваныя на прыніжэнне і адмаўленне чалавека. Смерць вязня, які ўзарваў крэматорый на вачах у іншых палонных, набывае алегарычны сэнс: «...магчыма, немцы не зразумеюць, што самотная смерць, смерць чалавека, што была пакінута *толькі яму* (курсіў. – *А. Д.*), прыносіць славу, а не паразу.

– Kameraden, ich bin der Letzte! – (Таварышы, я – апошні!)» [277, p. 133].

Шлях ад чалавека да істоты, якая проста жыве, дыхае, есць і спіць – не такі складаны, як шлях адваротны. Апошняя частка рамана П. Леві – «Гісторыя дзесяці дзён» распавядае пра паступовае вяртанне пакінутых у спусцелым лагеры вязняў да нармальнага чалавечага стану і да нармальных чалавечых стасункаў. Упершыню за доўгі час адны вязні падзяліліся сваім хлебам з другімі, і гэта, на думку аўтара, першы чалавечы жэст, што паміж імі адбыўся. З таго моманту можна было б зафіксаваць «пачатак працэсу калі мы, тыя, што не загінулі, з Haftlihge паступова ізноў сталі людзьмі» [277, p. 142]. Працэсуператварэння чалавека (адмоўнаму ці станоўчаму) у многім спрыяюць знешнія абставіны, аднак яны не з'яўляюцца непераможнымі, бо існуе ўнутраная сіла, якую нішто не здолее зламаць. Гэтую думку сцвярджаюць сваімі творамі П. Леві, Э. Вітарыні, К. Чорны і іншыя пісьменнікі.

Імкненне да гуманістычных стасункаў паміж людзьмі засведчылі і творы, у якіх раскрываецца тэма ўдзелу італьянскіх салдат у вайне на тэрыторыі СССР: у раманах «Ніколі не позна» (1946) Нута Рэвэлі і «Сяржант сярод снягоў» (напісаны ў 1944–1947 гадах, апублікаваны ў 1953 годзе) Марыё Рыгоні Стэрна. Гэтыя творы, напісаныя на дакументальнай аснове (абодва аўтары прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях у раёне Дона), раскрывалі яшчэ адзін, для многіх італьянцаў малавядомы, бок той вайны, што вяла Італія (беларуская літаратура таксама

не абыдзе ўвагай прысутнасць італьянскіх салдат на нашай зямлі, напрыклад, у апавяданні Я. Брыля «Дваццаць» (1958)). Герой М. Р. Стэрна пасля акружэння трапляе пад Гомель, але, на жаль, і беларуская, і ўкраінская землі для італьянцаў атаясамліваюцца з Расіяй (як, дарэчы, і ўвесь Савецкі Саюз), таму мы не сустракаем на старонках яго твора слова «беларускі».

Раман «Сяржант сярод снягоў» цікавы ў першую чаргу тым, што ў ім адмаўляецца вайна як спосаб існавання чалавека. Гэта яскрава паказана на старонках, прысвечаных сустрэчы галоўнага героя з савецкімі салдатамі ў адной са станіц: «Яны ўзброеныя. З чырвонай зоркай на пілотцы!.. Я гляджу на іх скамянела. Яны сядзяць за сталом... І глядзяць на мяне, спыніўшы лыжкі ў паветры. – Mnie khocetsia iestj, – кажу. Там ёсць і жанчыны. Адна бярэ міску, напаўняе яе... з агульнай супніцы і падае мне. Я раблю крок наперад, закідваю ружжо за плечы і ем. Часу больш не існуе... – Spaziba, – кажу, пасля таго як скончыў... Рускія салдаты глядзяць нерухома, як я выходжу» [293, p. 132].

Разважаючы наконт таго, што адбылося, аўтар прыходзіць да высновы: «Гэта было вельмі проста. Рускія былі такімі, як я, я адчуваў гэта. У той хаце стварылася паміж мною і рускімі салдатамі, жанчынамі і дзецьмі гармонія, якая не была перамір'ем... Аднойчы абставіны прывялі да таго, што людзі засталіся людзьмі... Калі гэта здарылася адзін раз, то можа здарыцца ізноў. Можа здарыцца, я хачу сказаць, з безліччу іншых людзей і стаць звычайным спосабам існавання» [293, p. 133]. Як відаць, праблема паразумення чалавека з іншымі людзьмі тут выходзіць за межы пэўнай супольнасці, нацыі і народа і распаўсюджваецца на ўсё чалавецтва ў цэлым, нават на ворагаў, якімі падчас вайны былі італьянцы для савецкіх салдат і наадварот. Імкненне да паразумення паміж прадстаўнікамі розных лагераў стане адным з важных матываў у ваеннай прозе 1980–1990-х гадоў.

* * *

Аб'ектыўнай мэтай літаратурнай творчасці пасляваеннага перыяду стала раскрыццё духоўнай прыгажосці герояў і іх маральнай перавагі над нацыстамі і фашыстамі. Гэта імкненне па-за межамі ўсіх палітычных плыней і ўстановак было натуральным, як і нянавісць да ворага, што прынесла столькі болю і пакут. Менавіта жаданне ўзвялічыць тых, хто змагаўся з фашызмам, міжволі садзейнічала ідэалізацыі герояў, аднабаковасці адлюстравання іх унутранага стану. Але тым не менш літаратура імкнулася стварыць станоўчы прыклад, кананічны ўзор, у якім, трэба адзначыць, мела ў той час патрэбу і італьянскае, і беларускае грамадства: мы перамаглі, бо мы лепей, высакародней за іх. Вораг паўставаў як бесчалавечнае ўвасабленне зла, таму, як зазначае Дж. Фаласкі, «не толькі неабходна забіваць ворага, але немагчыма яго не забіць» [267, p. 24]. З цягам часу гэта антытэза будзе ўскладняцца і набываць самыя розныя формы і інтэрпрэтацыі.

Тэма чалавека як удзельніка барацьбы з фашызмам знайшла шырокае адлюстраванне і ў беларускай, і ў італьянскай літаратурах 1940–1950-х гадоў. Нягледзячы на розныя палітычныя пазіцыі аўтараў, яднаючым пачаткам заўсёды з'яўлялася асуджэнне фашызму як злачыннай грамадскай з'явы, якая прыводзіць чалавека і краіну да непазбежнага паражэння і спустошанасці.

Вялікае значэнне для пашырэння ваеннай тэматыкі мела *дакументальная літаратура*, якая дапамагала беларускай прозе пераадольваць павярхоўнасць і мастацкую адвольнасць у тлумачэнні фактаў і падзей. У італьянскай літаратуры яна стала эстэтычным штуршком для адраджэння рэалістычнай традыцыі. Адным з агульных прынцыпаў беларускай і італьянскай мастацкай ваеннай прозы з'яўляецца *аўтабіяграфізм*, які рэалізаваўся ў італьянскай літаратуры адразу пасля вайны, а ў беларускай – пазней, паколькі кіраўніцтва краіны рабіла

ўсё, каб тэма вайны і як непазбежны яе працяг тэма ўздыму патрыятычнага пачуцця і ўзмацнення нацыянальнай свядомасці адышлі на другі план. М. Мушынскі адзначае: «Быў кінуты заклік скіраваць усю ўвагу да сучаснасці, шырока адлюстроўваць гераічную працу рабочага, калгасніка па адбудове разбуранай гаспадаркі. Хто ж мог адважыцца выступіць супраць гэтых высакародных заклікаў!?» [171, с. 122].

Беларуская літаратура пасляваеннага перыяду, нягледзячы на моцную палітычную заангажаванасць, мае прыклады стварэння глыбока псіхалагічных, паўнавартасных вобразаў. У гэтым плане вызначаюцца філасофскія раманы К. Чорнага, якія аказалі безумоўны ўплыў на далейшае асэнсаванне ўнутранага свету чалавека ў экстрэмальных умовах, спасціжэнне трансфармацыі яго свядомасці і неадназначнасці яго ўчынкаў.

Шлях, які праходзіла італьянская літаратура ў прэзентацыі ваеннай тэматыкі і канструяванні характараў персанажаў, у многіх аспектах тыпалагічна супадае са шляхам беларускай літаратуры, што тлумачыцца агульнасцю мастацкіх уплываў і падабенствам творчых метадаў і гісторыка-палітычных умоў, якія датычыліся свабоды слова і творчай думкі, фарміравання рэалістычных тэндэнцый у адлюстраванні жыццёвых падзей. Аднак не ўсе тыпалагічна падобныя з'явы з'яўляюцца сінхранічнымі. Рост колькасці твораў ваеннай тэматыкі, аўтабіяграфічны фактар у літаратуры, цікавасць да індывідуальнага вопыту – гэтыя аспекты выявіліся ў беларускай літаратуры з канца 1950-х гадоў.

1940–1950-я гады характарызуюцца росквітам неарэалізму ў італьянскай літаратуры і сацыялістычнага рэалізму ў беларускай. Агульная канцэпцыя чалавека – асноўнага героя літаратурных твораў – у беларускай і італьянскай літаратурах дадзенага перыяду тыпалагічна супадае: гэта просты і мужны чалавек, выхадзец з народа, часцей селянін, які або прытрымліваецца камуністычных поглядаў, або цікавіцца імі, што абу-

мовіла тыпалагічнае падабенства ў адлюстраванні мастацкага характару. У творах неарэалізму і сацыялістычнага рэалізму ідэйна-тэматычны змест падпарадкоўваецца палітычным аспектам часу і неабходнасці паказу кіруючай ролі камуністычнай партыі ў барацьбе супраць фашызму.

Тым не менш многія творы італьянскай літаратуры можна аднесці да неарэалізму з пэўнымі агаворкамі. Яны вызначаюцца багаццем вобразаў удзельнікаў вайны, іх шматпланавасцю. Тое самае датычыцца і мастацкіх сродкаў іх увасаблення, напрыклад, у рамане «Сцяжынка павучыных гнёздаў» І. Кальвіна спалучаецца рэальнае і фантастычнае, а ў рамане «Людзі і нелюдзі» Э. Вітарыні назіраюцца рысы мадэрнісцкіх плыней. У творах італьянскай літаратуры ўзнімаюцца філасофскія, культурна-этычныя праблемы чалавека і яго ўнутранага свету. У назве рамана П. Леві «Ці гэта чалавек?» пастаўлена пытанне, якое можна лічыць цэнтральным для ўсёй італьянскай ваеннай прозы.

Літаратура спрабуе зразумець, што кіруе чалавекам, для якога забойства робіцца звычайнай справай штодзённага жыцця, што адбываецца з яго ўнутраным светам, дэфармаваным ідэямі перавагі адной нацыі над другімі. Вырашэнне гэтай праблемы П. Леві, Э. Вітарыні і К. Чорным узыходзіць да традыцыі Ф.М. Дастаеўскага – аўтары раскрываюць складаны і неадназначны свет чалавечай асобы, у якім ёсць месца і для вечных каштоўнасцей, і для раптоўных нізкіх памкненняў. Узнятая ў беларускай і італьянскай літаратурах амаль адразу пасля заканчэння вайны праблема гуманізму атрымала далейшую рэалізацыю ў пазнейшыя перыяды.

# 3. ЧАЛАВЕК У ВАЕННАЙ ПРОЗЕ КАНЦА 1950–1970-х ГАДОЎ: СКЛАДАНАСЦЬ УНУТРАНАГА СВЕТУ

## 3.1. Змена літаратурнай парадыгмы

З канца 1950-х гадоў у развіцці беларускай ваеннай прозы пачынаецца новы перыяд, звязаны з выкрыццём культу асобы і павышанай цікавасцю да падзей Другой сусветнай вайны на якасна новым філасофскім і эстэтычным узроўні. Аналізуючы праблемы мастацкай літаратуры і ў першую чаргу літаратурнай крытыкі дадзенага перыяду, малады А. Адамовіч у 1956 годзе пісаў: «...столькі год ім (пісьменнікам. – *А. Д.*) растлумачваюць, якім павінен быць іх станоўчы герой, іх адмоўны герой і герой, якога трэба перавыхаваць. Узяць бы і завучыць гэтыя схемы... У нас створаны і ствараюцца сапраўдныя творы, якія напісаны якраз насуперак старанна распрацаваным схемам. Наша крытыка напладзіла нямала артыкулаў аб тым, у якой прапорцыі трэба паказваць станоўчых і адмоўных герояў у мастацкім творы, але можна смела сказаць, што ніхто не стварыў і не створыць больш-менш яркага вобраза, карыстаючыся гэтымі «правільнымі» схемамі» [4, с. 81].

Словы А. Адамовіча адлюстроўвалі сітуацыю, якая склалася ў беларускай літаратуры ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе і пэўным чынам стрымлівала развіццё літаратурнай думкі, што падкрэсліў і В. А. Каваленка ў кнізе «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі» (1977) [109]. Такі стан, безумоўна, патрабаваў вырашэння, і ў канцы 1950-х гадоў для гэтага склаліся спрыяльныя ўмовы. У беларускай літаратуры адбываецца творчы ўздым, які дае плён і ў колькасным, і ў якасным плане.

У той жа час у італьянскай літаратуры набліжаецца крызіс сацыяльнай актыўнасці і камуністычнага руху, а разам з ім і крызіс неарэалізму, што ў сваю чаргу адбіваецца на коль-

касным змяншэнні сацыяльна запатрабаваных твораў, да якіх у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе адносілася і «ваенная» проза. Гэтыя тэндэнцыі аказалі ўплыў як на мастацкія асаблівасці тэкстаў, так і на зместавыя, яны датычыліся канцэпцыі вобразаў асноўных персанажаў, спосабаў раскрыцця ўнутранага свету чалавека і ацэнкі яго паводзін. Многія італьянскія пісьменнікі адыходзяць ад рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці да мадэрнісцкіх і постмадэрнісцкіх плыней.

Адной з галоўных прычын крызісу італьянскага неарэалізму стала новая палітычная і сацыяльная сітуацыя пасля парламенцкіх выбараў 18 красавіка 1948 года, першых дэмакратычных выбараў пасля дваццацігадовай дыктатуры. Асноўная барацьба разгарнулася паміж хрысціянскімі дэмакратамі і дзвюма аб'яднанымі партыямі левых, якія атрымалі назву «народнага фронту». З абсалютнай перавагай перамаглі хрысціянскія дэмакраты, і далейшыя змены сацыяльна-палітычнай сітуацыі не спрыялі эвалюцыі плыні неарэалізму, цесна звязанага з камуністычнымі ідэаламі. Другая прычына крызісу хавалася ў тэматычнай абмежаванасці гэтага кірунку, пераадолець якую было цяжка. Неарэалісты не паспявалі адлюстроўваць рэчаіснасць, што вельмі хутка мяняла свае сацыяльна-эканамічныя абрысы. З аграрнай краіны Італія ператваралася ў індустрыяльную, адбываліся вялікія зрухі ў эканоміцы, культуры і сацыяльнай структуры краіны, што таксама патрабавала асэнсавання і мастацка-эстэтычнага адлюстравання. Неарэалізм пастулова страчвае свае пазіцыі.

Але канчатковы ўдар гэты кірунак атрымаў у 1956 годзе, вызначальным для італьянскай і савецкай літаратур у сувязі з XX з'ездам камуністычнай партыі Савецкага Саюза, на якім быў развенчаны міф пра Сталіна. Адкрываецца жахлівая праўда, якая выклікае шмат пытанняў ва ўдзельнікаў камуністычнага руху ўсіх краін. У тым жа годзе адбываюцца трагічныя падзеі ў Польшчы і Венгрыі, якія падштурхнулі многіх

італьянскіх літаратараў перагледзець свае палітычныя погляды. У 1956 годзе Італа Кальвіна разрывае свой партыйны білет.

Для беларускай літаратуры XX з'езд меў вялікае пераломнае значэнне, бо на некаторы час ідэалагічны ціск аслабеў і літаратура пачала пазбаўляцца кан'юнктуршчыны і літаратурных спекуляцый, у тым ліку і на ваенную тэму. Унутраны свет чалавека, матывы яго ўчынкаў выйшлі на першы план. Падвяргаўся сумненню і сам метад адлюстравання рэчаіснасці, хоць і не заўсёды публічна. 22 чэрвеня 1956 г. Максім Танк робіць наступны запіс у дзённіку: «Я даўно сумняваюся ў тым, што можа існаваць толькі адзін метад раскрыцця, адлюстравання жыцця – метад сацыялістычнага рэалізму. Хоць пакуль што ўсе мы гэтаму богу клянёмся ў любові і на яго алтар складаем свае ахвяры» [202, с. 231]. Такія думкі былі нярэдкімі ў той час. Мяняўся погляд на жыццё і літаратуру, што і адлюстравалася ў творах беларускіх пісьменнікаў, напрыклад, у рамане «Птушкі і гнёзды» (1942–1944, 1962–1964) Янкі Брыля, дзе галоўны герой, пакуль яшчэ асцярожна, ставіць перад сабой пытанні наконт Сталіна і тагачаснага ладу жыцця ў савецкай краіне.

Такім чынам, сітуацыя ў беларускай літаратуры пасля XX з'езда нагадвае сітуацыю ў італьянскай літаратуры пасля падзення фашысцкага рэжыму. Таталітарная будова грамадства як у адной краіне, так і ў другой імкнулася абмежаваць магчымасці мастацтва ў выбары тэм, герояў і спосабаў іх асвятлення. Але літаратура паступова выходзіла за рамкі абмежаванняў, пашырала свае мастацкія далягляды, імкнулася да аб'ектыўнага і ўсебаковага аналізу рэчаіснасці.

Адначасова з паглыбленнем увагі да адлюстравання падзей з максімальнай дакладнасцю, з усёй складанасцю чалавечых адносін як на фронце, так і на акупіраванай тэрыторыі ўздымаўся і мастацкі ўзровень тэкстаў. Ад велічна-пафасных, шырокамаштабных твораў, у якіх часцей за ўсё чалавек

выступаў не як асоба, а як літаратурна-гістарычная адзінка, дзе на першы план выходзілі ідэалогія і масы, проза паступова перайшла да лакальных, псіхалагічных твораў, з максімальна сціснутай пружынай дзеяння, сюжэтам, сканцэнтраваным на адной падзеі, часцей за ўсё і на адным з герояў, які звычайна з'яўляецца носьбітам аўтарскай думкі, вопыту і разумення паводзін чалавека ў канкрэтных абставінах. Гэта, у першую чаргу, характэрна для такіх кніг, як «Хатынская аповесць» (1966, 1968–1971), «Карнікі» (1971–1979) А. Адамовіча, «Жураўліны крык» (1959), «Трэцяя ракета» (1961), «Альпійская балада» (1963), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Воўчая зграя» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978) і іншых твораў В. Быкава, «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973) І. Навуменкі, «Тартак» (1967), «Найдорф» (1975) І. Пташнікава, «Плач перапёлкі» (1970), «Апраўданне крыві» (1976) І. Чыгрынава, «Трывожнае шчасце» (1958–1965), «Сэрца на далоні» (1963), «Шлюбная ноч» (1974), «Гандлярка і паэт» (1975) І. Шамякіна і многіх іншых.

Менавіта з канца 1950-х у беларускую літаратуру прыходзяць і пачынаюць плённа працаваць тыя аўтары, якія юнакамі прымалі непасрэдны ўдзел у Другой сусветнай вайне. Дзякуючы іх асабістаму вопыту назіраецца ўзмацненне аўтабіяграфізму і жыццёвай праўды ў раскрыцці характараў герояў.

Пачынаюць сваю дзейнасць многія таленавітыя даследчыкі, і сярод іх А. Адамовіч, чые артыкулы ў многім вызначылі далейшы рух крытычнай і літаратуразнаўчай думкі. У другой палове 1950-х гадоў былі апублікаваны наступныя даследаванні А. Адамовіча: «Шлях да майстэрства: станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага» (1958), «Культура творчасці: літаратурна-крытычныя артыкулы» (1959), «Беларускі раман: станаўленне жанру» (1961), якія мелі вялікае значэнне не толькі з пункту гледжання ацэнкі мастацкіх якасцей твораў, але і скіроўвалі ўвагу пісьменнікаў на паглыбленне іх зместа-

вай напоўненасці і псіхалагачнай глыбіні. Натуральна, што назапашаны за першыя пасляваенныя гады вопыт быў карысным хоць бы таму, што, як заўважыў М. Тычына, «В. Быкаў і іншыя празаікі, якія ўвайшлі ў літаратуру да яго, разам з ім і пасля яго, пачыналі з незадавальнення прачытаным пра вайну, пабудаваным на шырока вядомых у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе літаратурных схемах, "паспяхова-гераічных штампах"». І гэта непрыйманне скажонай рэчаіснасці падштурхнула да стварэння рэалістычных, праўдзівых, высокамастацкіх твораў» [216, с. 217].

Але «ваенная» проза 1940–1950-х гадоў, а таксама многія творы, напісаныя ў папярэднія гады, сталі падмуркам для развіцця псіхалагізму ў літаратуры і ўсебаковага аналізу ўнутранага свету асобы, бо, як мы ўжо згадвалі вышэй, беларуская літаратура мела высокамастацкія прыклады стварэння чалавечых характараў на вайне ў творах М. Гарэцкага і Кузьмы Чорнага. Мастацка-эстэтычныя пошукі беларускай літаратуры 1920–1930-х гадоў у адлюстраванні акцэнтаваных рыс чалавечай прыроды таксама зрабілі свой уклад у далейшае фарміраванне канцэпцыі чалавека, бо, трэба заўважыць, у дадзеным выпадку мае значэнне не толькі і не столькі сітуацыйная зададзенасць (вайна, ваенныя падзеі), колькі філасофскі падыход да асэнсавання чалавека, светапоглядныя ўстаноўкі і аўтарскія стратэгіі пісьменнікаў.

Калі ў беларускай прозе тэма Другой сусветнай вайны і чалавека на вайне ў 1960–1970-я гады робіцца цэнтральнай, то ў італьянскай прозе яна адыходзіць на другі план, вызваляючы месца сучаснасці. У канцы 1950-х гадоў аналіз рэчаіснасці ў італьянскай літаратуры падаецца найперш не з сацыяльна-гістарычнага пункту гледжання, а з пазіцый экзістэнцыяльнай філасофіі і прыватна-інтымнай суб'ектнасці, што ў першую чаргу адбілася на выбары герояў. З'явамі літаратурнага жыцця ў тагачаснай Італіі сталі раманы Джузэпэ

Тамазі Дзі Лампэдузы (Giuseppe Tomasi Di Lampedusa, 1896–1957) «Гепард» («Il gattopardo», 1958), Карла Касолы «Дзяўчына Бубэ» («La ragazza di Bubè», 1960) і Джорджыа Басані (Giorgio Bassani, 1916–2000), у прыватнасці кнігі «Пяць ферарскіх гісторый» («Cinque storie ferraresi», 1956) і «Сад Фінцы-Канціні» («Il giardino di Finzi-Contini», 1962). Галоўнае, што яднае гэтыя розныя па тэматыцы і па часе дзеяння творы, – настальгія па мінулых часах (так, у рамане «Дзяўчына Бубэ» гучыць настальгія па часах Супраціўлення), якія ўяўляюцца сапраўдным жыццём. У гэтых творах прэваліруе элегічны тон і засяроджанасць на ўнутраным свеце героя. Інакш кажучы, гэты працэс у многіх аспектах быў блізкі да працэсу «лірызацыі прозы» ў беларускай літаратуры. Асаблівая ўвага да ўнутранага свету асобы ў беларускай літаратуры актуалізавала з'яўленне так званага *лірычнага героя*, чалавека звычайна маладога, адукаванага, які тонка і абвострана ўспрымае свет, напрыклад, такога, як Андрэй Грынкевіч з рамана У. Караткевіча «Нельга забыць» (1962). Лірызм, суб'ектыўны падыход да адлюстравання рэчаіснасці (максімальная блізкасць галоўнага героя да аўтара, аўтабіяграфізм) з'яўляюцца адметнымі асаблівасцямі твораў Я. Брыля («Птушкі і гнёзды») і І. Навуменкі («Сасна пры дарозе» (1962) і «Вецер у соснах» (1967)).

У італьянскай ваеннай прозе, не зважаючы на страту пазіцый неарэалізму і змену прыярытэтаў у выбары тэм, тым не менш працягваецца асэнсаванне падзей, што адбываліся ў часы вайны ў Італіі і за яе межамі. Безумоўна, перанос увагі на суб'ектыўныя перажыванні персанажаў назіраўся і ў творах на тэму Другой сусветнай вайны. Малады чалавек з багатым унутраным светам – галоўны персанаж аповесцей Б. Фенольё «Вясна прыгажосці» («Primavera di bellezza», 1959), «Прыватнае пытанне» («Una questione privata», 1963), «Партызан Джоні» («Il partigiano Johnny», 1965) і інш. Так, у аповесці «Прыватнае пытанне» на першы план выходзіць каханне галоўнага ге-

роя Мільтана да Фульвіі, а не яго барацьба з ворагам. У сваіх дзеяннях, нават тых, што звязаны з партызанскай штодзённасцю, Мільтан кіруецца асабістымі матывамі. Ён шукае Джорджыа Клерычы, партызана з іншага атрада, каб даведацца пра яго адносіны з дзяўчынай.

Сацыяльна-палітычны аспект адыходзіць на другі план у кнігах італьянскіх пісьменнікаў Убальда Бертолі (Ubaldo Bertoli, 1908–2000) «Сорак сёмая» («La Quarantasettesima», 1961), Наталіі Гінзбург (Natalia Ginzburg, 1916–1991) «Сямейны лексікон» («Lessico familiare», 1963), Луіджы Менегелы (Luigi Meneghello, 1922–2007), аўтара аднаго з лепшых партызанскіх раманаў «Маленькія майстры» («I piccoli maestri», 1964), і іншых. Раман Эльсы Марантэ (Elsa Morante, 1912–1985) «Гісторыя» («La Storia», 1974) выклікаў шырокую палеміку як вакол самога твора, так і вакол канцэпцыі гісторыі, прадстаўленай пісьменніцай. Адным з эпіграфаў кнігі Э. Марантэ сталі словы ацалелага жыхара Хірасімы: «Ні адна чалавечая мова не мае слоў, якія былі б здольныя суцешыць падвопытных звяркоў, што не ведаюць прычыны сваёй смерці» [281, p. 1]. Галоўныя героі кнігі – жанчына і яе маленькі сын, якія не маюць дачынення да ваенных дзеянняў, тым не менш яны, як і тысячы мірных жыхароў, безабаронныя перад Гісторыяй. Дарэчы, К. Ясперс лічыў, што «мы імкнемся зразумець гісторыю як нейкае цэлае, каб тым самым зразумець і сябе. Гісторыя з’яўляецца для нас успамінам, аб якім мы не толькі ведаем, але ў якім карані нашага жыцця. Гісторыя – аснова, аднойчы закладзеная, сувязь з якой мы захоўваем, калі хочам не знікнуць бясследна, а зрабіць свой унёсак у быццё чалавека» [251, с. 240]. Для пісьменніцы гісторыя – гэта бясконцы шэраг прыніжэнняў, крыўд, жорсткасці.

Такім чынам, у 1950–1970-я гады італьянская проза на тэму Другой сусветнай вайны ўзбагачаецца новымі спосабамі адлюстравання рэчаіснасці і ўнутранага свету чалавека, якія

дапамагаюць зразумець і асэнсаваць яго пачуцці і эмоцыі, розныя станы і тую складаную барацьбу, што адбывалася ў душы кожнага, хто трапляў у экстрэмальную сітуацыю, прадвызначаную самой гісторыяй.

## 3.2. Маральна-этычная праблематыка ў ваеннай прозе канца 1950–1970-х гадоў

Адным з галоўных аб'ектаў аналізу беларускай літаратуры канца 1950–1970-х гадоў становіцца маральны аспект паводзін чалавека. Роздум на гэту тэму дае аўтарам магчымасць выходзіць на філасофскія пытанні чалавечага існавання і ўнутраных меж, духоўнасці і недасканаласці чалавечай асобы. Праблема сродкаў або, інакш кажучы, ці могуць тыя, хто змагаецца з нацыянал-фашызмам і лічыць сябе на баку справядлівасці, карыстацца немаральнымі метадамі – важны яе аспект. Духоўнасць і маральнасць герояў ваеннай прозы выходзіць на першы план і ў даследаваннях беларускага літаратуразнаўства і крытыкі, пачынаючы з палемікі, разгорнутай вакол першых аповесцей В. Быкава, у якой вялікую пазітыўную ролю адыгралі артыкулы Д. Бугаёва [45] і А. Адамовіча [14], а пазней (у 1980-я гады) – дысертацыі Г. Тварановіч, І. Шаблоўскай, серыя літаратурна-крытычных выданняў да саракагоддзя перамогі.

Вучэнне аб маральнасці і абавязку чалавека было шматаспектна распрацавана І. Кантам, які сфармуляваў ў працах «Асновы метафізікі маральнасці» (1785) і «Крытыка практычнага розуму» (1788) паняцце «катэгарычнага імператыва» – агульнага закона, што заклікае чалавека дзейнічаць так, каб правіла яго асабістых паводзін стала правілам паводзін для ўсіх людзей, а свабода, на яго думку, ёсць добраахвотнае падпарадкаванне чалавека маральнаму закону, інакш кажучы, выкананню абавязку. Ці ёсць маральнасць неад'емнай якасцю героя або гэта абстрактнае паняцце, якое набывае канкрэтнае вымярэнне ў пэўныя моманты жыцця персанажа пад рукой

таленавітага пісьменніка, – такім чынам можна сфармуляваць асноўную праблему літаратуры дадзенага перыяду.

Праблема маральнасці – галоўная ў творчасці В. Быкава. Яна разглядаецца ва ўсіх яго творах, асабліва востра ў аповесці «Круглянскі мост», маркерамі якой у творы можна лічыць словы падлетка Міці: «Дзядзька, партызаны не робяць гэтак!» Для Міці свет падзелены на фашыстаў, якія *a priori* абвешчаны злом, і тых, хто змагаецца з імі. Жаданне падлетка, які адчувае сябе вінаватым за бацьку-паліцая, заслужыць права быць разам з партызанамі (што для яго раўназначна быць з сумленнымі людзьмі, лепшай паловай чалавецтва), выкарыстоўваецца Брытвіным для вырашэння пастаўленай перад іх партызанскай групай задачы. Брытвін ахвяруе Міцем, каб выканаць баявое заданне, а вынікі прысвоіць сабе.

Пытанне маральнасці карэлюецца з пытаннямі волі і адказнасці чалавека, якія сталі неад'емнымі складнікамі тэорыі аднаго з найбуйнейшых кірункаў філасофіі XX стагоддзя – экзістэнцыялізму. Ж.-П. Сартр у працы «Экзістэнцыялізм – гэта гуманізм» адзначыў: «Тое, што мы выбіраем, – заўсёды дабро. Але нішто не можа быць дабром для нас і не з'яўляцца дабром для іншых» [195, с. 324]. Адсюль вынікае, што ўчынак Брытвіна па сутнасці сваёй разбуральны, амаральны, бо не скіраваны на дабро, інакш кажучы, сродкі, выкарыстаныя для вырашэння праблемы, абясцэньваюць вынік, нават калі і дапамагаюць яго дасягнуць. У гэтым плане творчасць В. Быкава блізкая філасофіі экзістэнцыялізму, бо такім чынам пісьменнік ставіць тут і праблему выбару. Яна выконвала сюжэтаарганізуючую ролю яшчэ ў першых творах В. Быкава, напрыклад, у аповесці «Жураўліны крык» пісьменнік распавядае гісторыю кожнага з персанажаў, тым самым вырашаючы пытанне, ці быў у іх выбар паступіць інакш. Асабліва гэта датычыцца Пшанічнага і Аўсеева. Нельга, аднак, не спыніцца і на тым моманце дзейснасці паняцця «выбар», на які звяртае ўвагу

І. Навуменка: «Не ўжывеш яго ў дачыненні да сотняў беларускіх Хатыняў, хоць асобныя жыхары іх і ўцалелі; да панфілаўцаў, сярод якіх таксама аказаліся жывыя. Мабыць, было б кашчунствам ужываць падобнае слова ў адносінах да жыхароў Хірасімы» [174, с. 76]. Сапраўды, у жыхароў спаленых вёсак выбару было няшмат, але ён быў у тых, хто здзяйсняў карныя акцыі, таму з сітуацыяй у цэлым паняцце выбару стасуецца.

У «Круглянскім мосце» праблема выбару не знаходзіцца на паверхні, але не страчвае сваёй вастрыні: Брытвін не становіцца на шлях здрады, аднак яго амаральнасць пераходзіць у бесчалавечнасць, і робіцца відавочным, што гэты чалавек трапіў да партызан выпадкова, што ён з аднолькавым поспехам мог бы апынуцца і ў немцаў. Такім чынам, канцэпцыя чалавека тут набывае шматмернасць і выяўляецца праз стасункі індывіда з іншымі людзьмі праз тое дабро ці зло, якое ім прыносяць яго ўчынкі. Аднак пытанне крытэрыяў маральнасці застаецца адкрытым. Для Ж.-П. Сартра, напрыклад, у першую чаргу яно звязана з пытаннем адказнасці чалавека за ўласныя ўчынкі і за лёс чалавецтва, а В. Быкаў падкрэслівае адказнасць у першую чаргу перад уласным сумленнем.

У працах мысліцеляў-экзістэнцыялістаў надаецца шмат увагі паняццю «канцэпцыя чалавека», якая ў творах пра вайну развіваецца з дапамогай розных мастацкіх сродкаў з арыентацыяй **на пошукі чалавечай сутнасці і яе раскрыццё**. «Я адказны, такім чынам, за сябе самога і за ўсіх і ствараю пэўны вобраз чалавека, якога выбіраю: выбіраючы сябе, я выбіраю чалавека ўвогуле», – пісаў Ж.-П. Сартр [195, с. 324]. Гэта датычыцца як аўтараў (у плане выбару аўтарскіх стратэгій), так і літаратурных герояў. Пісьменнік выбірае пэўнага героя, каб данесці да чытача сваё ўяўленне пра чалавека; з другога боку, выбар, які робяць літаратурныя персанажы, з'яўляецца маркерам маральнасці/амаральнасці і складнікам канцэпцыі чалавека ўвогуле. П. Васючэнка ў артыкуле «Экзістэнцыялізм у беларускай рэ-

дакцыі» адзначае своеасаблівасць пазіцыі беларускага пісьменніка ў гэтым плане: «Васіль Быкаў нібыта ігнаруе пытанне пра ўнутранае вызваленне чалавека ў выніку выбару – не здымае з ягоных плячэй цяжару і ў экстрэмальнай сітуацыі. Этычнае пытанне пераводзіцца ў іншы ракурс: а ці натуральна ўвогуле выпрабоўваць каго-небудзь праз нялюдскія пакуты і штурхаць да волі праз катавальню і эшафот?» [65, с. 5].

Яшчэ А. Адамовіч звярнуў увагу на *прытчавы* характар твораў В. Быкава, якасць, што стане галоўнай у творчасці пісьменніка 1990-х гадоў. Даследчык адзначаў: «У “простага”, “непрытчападобнага” рэалізму... ёсць свае перавагі, і найважная з іх – багацце, разгалінаванасць, праўдзівая нечаканасць жыццёвых сувязей. Але свае перавагі ёсць і ў рэалізму “прытчападобнага”. Як часта бывае ў жыцці і мастацтве, працягам недахопаў і тут становяцца нечаканыя добрыя якасці. Невыпадкова да “прытчы” звярталіся шмат хто з вялікіх, уключаючы Льва Талстога і Дастаеўскага. А на Захадзе – Брэхт, і Камю, і Сартр, і інш. “Прытчападобнасць” робіцца вельмі пашыранай дадатковай афарбоўкай, жанравай і стылёвай, у сучаснай сусветнай прозе і драматургіі» [14, с. 450]. Прыпавесці сустракаюцца і ў творчасці іншых беларускіх пісьменнікаў, такіх як В. Казько, Б. Сачанка, у самога А. Адамовіча і іншых. Яны дазваляюць пашырыць рамкі апавядання, выказаць аўтарскую думку як у адкрытай (экспліцытнай), так і ў прыхаванай (імпліцытнай) форме, скіраваць погляд чытача ў пэўным кірунку. Акрамя таго, парабалічны сюжэт прыпавесці і зададзены дыдактызм, скіраваны на маральны ўрок, прапануюць разгледзець на матэрыяле канкрэтнага твора магчымасць вырашэння ўніверсальных супярэчнасцей быцця. Парабалізм стварае шматзначнасць дыскурса і спрыяе вобразнасці мастацкіх тэкстаў [104, 192].

Аповесць «Круглянскі мост» выклікала шматлікія спрэчкі сярод крытыкаў і чытачоў. Адказам на палеміку з боку пісьмен-

ніка стала аповесць «Абеліск» (1971). Акрамя агульначалавечай праблемы высакароднасці паводзін у час вайны, у сітуацыі з настаўнікам Марозам выяўляецца яшчэ адна праблема – не проста адказнасці аднаго чалавека за другога, а адказнасці дарослага, мацнейшага за таго, хто ідзе за ім і бярэ з яго прыклад. У нейкім сэнсе яна закранаецца і ў аповесці «Круглянскі мост», паколькі сюжэт аповесці «Абеліск» па сутнасці сваёй нагадвае расповед-прыпавесць пра камбрыга Прэабражэнскага з аповесці «Круглянскі мост». Настаўнік Мароз таксама аказваецца перад неабходнасцю рабіць выбар і прымаць рашэнне, якое прадыктавана ўсім папярэднім ладам яго жыцця. Ён адчувае ўласную адказнасць за тое, што здарылася з хлопцамі і як іх настаўнік, і як чалавек, што заўсёды знаходзіўся з імі побач, і як старэйшы таварыш.

У аповесці «Абеліск» В. Быкава пададзены розныя ацэнкі выбару Мароза, як у аповесці «Круглянскі мост» розныя героі неаднолькава ставяцца да ўчынку камбрыга ці да партызана Ляховіча, але пераважае ацэнка станоўчая. І хаця аўтар не робіць ніякіх вывадаў, пакідаючы разбірацца ў гэтым чытачу «адпаведна свайму светапогляду, свайму позірку на вайну, на гераізм, на свой абавязак перад сумленнем і перад гісторыяй...» [53, с. 341], яго пазіцыя, як нам падаецца, зафіксавана ў словах Ткачука: «Жыццё – гэта мільёны сітуацый, мільёны характараў. І мільёны лёсаў. А вы ўсё хочаце ўкласці у дзве-тры схемы? Каб прасцей! Ды меней турбот. Забіў немца ці не забіў? Ён болей зрабіў» [53, с. 342]. Па вялікім рахунку, гэтае выказванне скіравана і супраць схематызму ў літаратуры, супраць прымітывізму, аднабаковасці ў разглядзе як літаратурнага героя, так і чалавека ўвогуле. Філосаф М. Гартман у працы «Эстэтыка» сцвярджаў: «Драматызм жыцця заключаецца ў непарарыўным ланцугу сітуацый, у які трапляе чалавек, і ў яго імкненні адолець яго. Усе чалавечыя планы, удачы і няўдачы, уся эфемерная дзейнасць з яе наступствамі, якія самі ізноў выклікаюць

нечаканыя сітуацыі, усе прадбачанні і адмова ад прадбачанняў... усякая віна і невінаватасць, ілжывыя і правільныя абвінавачванні і прабачэнні – да самых вялікіх ракавых падзей, – усё гэта адносіцца да драматызму жыцця» [74, с. 182].

У італьянскай прозе дамінаванне драматычных сітуацый і маральнай ацэнкі ў аснове рэалістычнага наратыву можна выявіць раней, у канцы 1940 – пачатку 1950-х гадоў, у прыватнасці ў рамане «Фаўста і Ханна» К. Касолы, у аповесці І. Кальвіна «Сцяжынка павучыных гнёздаў». Так, спрэчка пра тое, што дазволена і што не дазволена партызанам, з'яўляецца адным з важных момантаў рамана К. Касолы «Фаўста і Ханна», у першую чаргу яна звязана з сітуацыяй, калі адзін з партызанаў забівае ўдарам нажа безабароннага палоннага. Малады герой сварыцца з-за гэтага з камандзірам атрада: «Я ведаю адно: у гэтым лагеры было дапушчана забойства, і ты яго дазволіў ...Ведаю, што зробленае гэтым няшчасным ганьбіць цябе, ганьбіць мяне, ганьбіць усіх. Гэта тое, што я ведаю <...>

– А яны, – вырвалася ў Джуліа – што робяць яны? Ты бачыў, як яны абышліся з нашымі таварышамі? <...>

Фаўста паглядзеў на яго са зняважай:

– Яны могуць рабіць тое, што хочуць, гэта цябе не датычыцца. Але мы – не. Як мы можам абвінавачваць іх у варварстве з-за таго, што яны забіваюць, калі мы ўсаджваем нож у патыліцы хрысціян, быццам яны жывёлы для забойства. Мы апусціліся ніжэй за іх ўзровень, вось што я скажу. А-а... мне сорамна, мне сорамна... Мне сорамна быць партызанам... Ведаю, што для вас, камуністаў, гэтыя рэчы не маюць каштоўнасці. Магчыма, вы іх лічыце буржуазнымі забабонамі, але я табе скажу, што ўчора, сёння, заўтра і заўсёды той, хто зарэжа палоннага, чалавека, які не можа абараняцца, з'яўляецца падлюгам, зверам, крывапійцам, жабай, якую трэба раздушыць без шкадавання» [264, p. 207].

Італьянскі пісьменнік Марчэла Вентуры ў рамане «Белы сцяг над Кефалініяй» (1962) таксама ўзнімае праблему мэты і сродкаў, і прыходзіць да высновы, што «якія сродкі, такая і мэта. Судзіць ці добрай з'яўляецца мэта можна па тым, якія сродкі трэба ўжыць для яе дасягнення... Але абяззброіць чалавека – заўсёды добрая справа. Дадзены сродак адпавядае мэце, а мэта – пакласці канец бессэнсоўнай вайне» [66, с. 90]. Так у думках звяртаецца да обер-лейтэнанта Карла Рытэра капітан Альда Пульізі, калі пасля абвяшчэння перамір'я з амерыканцамі італьянскія салдаты апынуліся ў складанай сітуацыі выбару – павярнуць зброю супраць немцаў і хутчэй за ўсё загінуць, або здацца нямецкай арміі і спадзявацца на яе літасцівасць.

Праблема ўзаемаадносін пакаленняў і маральнасці ўзнімаецца ў аповесці К. Касолы «Дзяўчына Бубэ». Бубэ – малады чалавек, яго станаўленне прыходзіцца на ваенны час. Падзеі ў творы адбываюцца ўжо пасля вызвалення Італіі, але тыя метады барацьбы з апанентамі, якія былі прыдатныя ў гады вайны, Бубэ пераносіць у мірнае жыцце. К. Касола закранае і яшчэ адзін важны аспект: высокія палітычныя ідэі, не асэнсаваныя належным чынам, ламаюць жыццё Бубэ, прыводзячы яго ў турму за забойства. Калі Бубэ сустракае святара Чольфі, старога фашыста, які быў вымушаны пакінуць горад, то ў яго душы змагаюцца два пачуцці: з аднаго боку, яму шкада гэтага старога, якога ён ведае з дзяцінства, з другога – яны па розныя палітычныя бакі. Бубэ стараецца не звяртаць увагі на гэту сітуацыю, але, калі жанчыны пачынаюць лупцаваць старога, былая партызанская мянушка Мсціўца не дазваляе Бубэ заставацца ўбаку, і з абаронцы ён ператвараецца ў агрэсара. Паводзіны хлопца прадвызначаюцца тым стэрэатыпам, які быў сфарміраваны ў ім за гады партызанскай барацьбы, заахвочаны старэйшымі Мсцівец павінен быць наперадзе, але для Бубэ гэта абярнулася асабістай трагедыяй. Італьянскі кры-

тык Джэна Пампалоні падкрэслівае: «Перачытанне гэтых старонак сёння, пасля вопыту тэрарызму (ясна ўяўляючы прычыны несумяшчальнасці Супраціўлення і тэрарызму) прымушае нас думаць... што асноўныя суб'ектыўныя праблемы і пытанні нашых поглядаў на жыццё і на яго сэнс <...> застаюцца такімі ж важнымі і гэтаксама ставяць нас перад адказнасцю за наш выбар» [285, р. 10].

Падобны Бубэ лёс напаткаў і Ніна, старэйшага сына галоўнай гераіні з рамана «Гісторыя» (1974) Э. Марантэ. Пасля заканчэння вайны ён не здолеў адаптавацца да мірнага жыцця, стаў кантрабандыстам і загінуў. Уласна кажучы, праблема адаптацыі былых удзельнікаў вайны ў мірным жыцці была ўзнята ў свой час Э. М. Рэмаркам у рамане «Тры таварышы» (1936) і застаецца актуальнай у наш час ужо пасля іншых войнаў. Менавіта з-за немагчымасці весці нармальнае жыццё ў мірны час, гэтае пакаленне атрымала назву «страчанага». І хоць І. Навуменка пісаў, што «…ахвяраваўшы мільёнамі жыццяў, пераадолеўшы пасляваенныя цяжкасці, савецкая моладзь мінулай вайны ў сваім светаўспрыманні нават аддалена не нагадвала "страчанае пакаленне" Першай сусветнай вайны, апетае Рэмаркам, Хемінгуэем і іншымі…» [174, с. 76], аднак гэта, безумоўна, не так, пра што сведчыць і творчасць самога І. Навуменкі.

А. Маравія ў рамане «Чачара» (1957), як В. Быкаў і К. Касола, таксама неаднаразова звяртае ўвагу на праблему неадольных абставін і выбару чалавека. На думку галоўнай гераіні Чэзіры, вайна вінавата ў тым, што многія людзі вымушаны паводзіць сябе па-за межамі маральных норм. Пасля выпадковай сустрэчы з рускім здраднікам яна разважае: «...я міжволі падумала, што гэты чалавек таксама быў ахвярай вайны: калі б вайны не было, ён застаўся б у сябе на радзіме, магчыма, ажаніўся б, працаваў і стаў добрым чалавекам, як і многія іншыя. Вайна адарвала яго ад радзімы, прымусіла здрадзіць, а цяпер забівала яго» [283, р. 177].

Развагі італьянскага пісьменніка пераклікаюцца з развагамі героя аповесці В. Быкава «Абеліск» Ткачука наконт таго, што жыццё (а ў дадзеным выпадку жыццё на вайне) – гэта мільёны сітуацый і мільёны лёсаў. Гэта ісціна пацвярджаецца і ў аповесці В. Быкава «Сотнікаў» (1970). Персанаж Рыбака выклікаў неадназначную рэакцыю не толькі ў чытачоў, але і крытыкаў. Амаль усе даследчыкі беларускай літаратуры 1970-х гадоў (А. Адамовіч, Д. Бугаёў, В. Каваленка, І. Шаблоўская і інш.) разглядаюць яго ўчынкі ў сваіх працах. Сотнікаў – не ідэальны чалавек, і Рыбак – не абсалютна адмоўны вобраз, але выбар кожнага ў вырашальны момант робіць аднаго героем, а другога – здраднікам. В. Быкаў выказаўся наконт гэтага наступным чынам: «...знаходзіліся людзі, якія спрабавалі сумясціць несумяшчальнае – захаваць жыццё і не пагрэшыць супраць чалавечнасці, што ў пэўных трагічных абставінах аказвалася неверагодна цяжкім, калі не зусім безнадзейным» [61, с. 95].

Аднак дзе праходзіць мяжа, за якую нельга пераступаць, вызначыць цяжка, а іншым разам і ўвогуле немагчыма. Сцёпка з «Круглянскага моста» не ведае, напрыклад, як паставіцца да гісторыі з партызанам Ляховічам, калі той, знаходзячыся ў кіпцюрах немцаў, не пажадаў прызнаць уладу Гітлера: «...калі верыць Брытвіну, дык Ляховіч сапраўды дурань – які там прынцып у адносінах з немцамі. Мусіць, трэба як мага хітрыць, каб абдурыць іх, бо, не абдурыўшы, не паб'еш – паб'юць яны. А яны літасці не знаюць, для іх усе сродкі здатныя, абы перамагчы» [53, с. 409].

Інтэлектуал Мікеле з рамана А. Маравія «Чачара» ўпэўнены, што паводзіць сябе з немцамі трэба, менавіта не зважаючы ні на якія прынцыпы, што іншага яны проста не заслугоўваюць: «З нацыстамі ўсё дазволена: ілгаць ім, здраджваць, забіваць іх, калі гэта магчыма. Што б ты зрабіла з атрутнай змяёй, з тыграм, з шалёным воўкам? Вядома ж, пастаралася

б абясшкодзіць іх сілай ці хітрасцю. Ты б не стала гаварыць з імі і нейкім чынам улагоджваць, бо загадзя ведаеш, што гэта марная справа. Тое ж самае з нацыстамі. Яны самі, як дзікія звяры, паставілі сябе па-за чалавечым законам, таму з імі ўсе сродкі добрыя. Ты, як і той адукаваны англійскі афіцэр, не чытала Дантэ» [283, p. 173]. І далей Мікеле спасылаецца на словы Дантэ з 33-й Песні Пекла «Боскай камедыі», дзе паэт гаворыць, што з подлымі дазволена подласць. Аднак не ўсе і не заўсёды маглі паводзіць сябе такім чынам, многія імкнуліся не перайсці той мяжы, з-за якой немагчыма вярнуцца, імкнуліся не страціць саміх сябе нават цаной уласнага жыцця, як Сотнікаў з аднайменнай аповесці В. Быкава. Знакамітая цытата Ф. Ніцшэ «Хто змагаецца са пачварамі, таму варта сцерагчыся, каб самому пры гэтым не стаць пачварай. І калі ты доўга глядзіш у бездань, то бездань таксама глядзіць у цябе» [179, с. 91] актуальна найперш для герояў ваеннай прозы.

Безумоўна, для кожнага чалавека, які жыў падчас Другой сусветнай вайны, гэта падзея так ці інакш стала лёсавызначальнай, у многіх аспектах паўплывала на яго погляды і характар. Калі б не было вайны, то, магчыма, і Рыбак застаўся б сумленным чалавекам, аднак падзеі развіваліся менавіта такім чынам, і праблема маральнасці абвастраецца ў аналізе яго ўчынкаў. Сам В. Быкаў адзначыў: «Так, зразумела, цяжка патрабаваць ад чалавека высокай чалавечнасці ў абставінах бесчалавечных, але ж існуе мяжа, за якой чалавечнасць рызыкуе ператварыцца ў сваю процілегласць!» [61, с. 98]. Такіх памежных сітуацый у творах пісьменніка вельмі шмат, што, безумоўна, апраўдана самім ваенным часам, калі яны здараюцца куды часцей, чым у звычайным мірным жыцці. І пытанне наконт маральнасці чалавека не вырашаецца адназначна. Яго немагчыма канчаткова вырашыць у мастацкім творы. Задача мастацтва адлюстраваць, актуалізаваць праблему, даць падставы для роздуму. Тым больш што падобныя сі-

туацыі можна назваць універсальнымі, яны застаюцца актуальнымі ва ўсе часы і для ўсіх народаў, маюць свае інтэрпрэтацыі і ў літаратуры. А. Адамовіч адзначае: «Калі В. Быкаў у “Сотнікаве”, а таксама ў новай аповесці “Пайсці і не вярнуцца” так настойліва завастрае праблему маральных рашэнняў чалавека, “выбару”, “маральных табу”, дык гэта не проста даніна літаратуры, напрыклад, Талстому або Дастаеўскаму, а размова пра само жыццё сучаснае, яго трывогі і праблемы. Рыбак з жыцця, Антон Галубін – таксама. Але погляд на іх, разуменне чалавека праз Рыбака, Антона Галубіна, Сотнікава і іншых – усё гэта ўзыходзіць, так ці інакш, і да Талстога, і да Дастаеўскага» [20, с. 375].

А. Маравія звяртае ўвагу на яшчэ адну праблему: ці здольны чалавек, на долю якога выпала столькі бесчалавечных выпрабаванняў, адрадзіцца. На апошніх старонках рамана «Чачара» згадваецца прыпавесць пра Лазара: «Але боль уратаваў нас у апошнюю хвіліну, а значыць, прыпавесць пра Лазара тычылася і нас, таму што дзякуючы болю мы змаглі выйсці з вайны, якая пахавала нас у магіле абыякавасці, злосці і крыважэрнасці, і мы ізноў вярнуліся да свайго жыцця» [283, р. 314]. Італьянскі пісьменнік у дадзеным выпадку дае станоўчы адказ, аднак гэта магчыма не для ўсіх і не заўсёды, як, напрыклад, немагчыма для Рыбака. Існуе пэўная мяжа, з-за якой вяртанне да чалавечнасці ўжо не адбудзецца.

Такім чынам, беларуская літаратура канца 1950–1970-х гадоў значна паглыбляе адлюстраванне складаных сітуацый, характараў, стасункаў паміж людзьмі, завастрае ўвагу на тым, што не ўсе, хто змагаўся супраць нацыстаў, паводзілі сябе высакародна. Асабліва ў гэтым плане вылучаецца творчасць В. Быкава, і ў ёй, як пісаў А. Адамовіч, «надзвычай складана праявіліся агульныя для многіх тэндэнцыі. Асабліва цесны вузел – тут, а таму даследаванне іменна гэтага літаратурнага матэрыялу, можа праліць святло і на ўвесь працэс ідэйна-эстэ-

тычнага развіцця, пошукаў нашай прозы ў 50–60-я, а цяпер ужо і 70-я гады» [14, с. 437]. Ідэалізаваны вобраз савецкага салдата і партызана паступова адыходзіць, пакідаючы месца звычайнаму чалавеку ў незвычайных умовах.

Канец 1950–1970-х гадоў стаў важным этапам у пастаноўцы праблем экзістэнцыяльнага плана, асэнсавання ролі абставін у лёсе чалавека, інтэрпрэтацыі нацыянальнага і агульначалавечага ў беларускай і італьянскай прозе на тэму Другой сусветнай вайны.

### 3.2.1. Мастацкае адлюстраванне ідэалогіі фашызму

Псіхалагізацыя ўнутранага свету чалавека адбывалася і ў тых творах, што акцэнтавалі ўвагу на негатыўных праявах чалавечай асобы. Працягам іх спасціжэння ў 1950–1970-я гады сталі творы, дзе ў цэнтры аўтараў паўстала мастацкае асэнсаванне наступстваў фашысцкай ідэалогіі і неадназначнай чалавечай сутнасці. У канцы 1940-х гадоў Э. Вітарыні паставіў праблему наступным чынам: «Мы гаворым цяпер: вось фашызм. Больш за тое: вось гітлерызм. Але што значыць існаванне фашызму? Я б хацеў паглядзець, чым стаўся б фашызм, калі б і гэта не было ўласціва чалавеку. Што ён мог бы зрабіць? Ці мог бы ён рабіць тое, што ён робіць зараз, калі б у чалавеку не была закладзена здольнасць да гэтага? Я б хацеў паглядзець на Гітлера і на яго немцаў: што, калі б у чалавеку не была закладзена здольнасць рабіць тое, што робяць яны?» [304, p. 160].

Нямецкі філосаф Ф. Ніцшэ ў сваёй «філасофіі жыцця» развіваў ідэю пра тое, што сутнасцю і законам свету, яго «душой» з'яўляецца сляпая воля да ўлады. У чалавека гэта выяўляецца ў імкненні ўладарыць над больш слабымі індывідамі і сацыяльнымі групамі. На думку Ф. Ніцшэ, чалавек кіруецца не столькі разумовым пачаткам, колькі фізіялагічнымі патрэбамі і імкненнем да ўлады. Як вядома, надзвычай папулярным сярод нацыянал-сацыялістаў быў менавіта няскончаны твор

Ф. Ніцшэ «Воля да ўлады», найбольш вядомы ў версіі, апублікаванай яго сястрой Элізабэт у 1906 г., аднак, паколькі кніга не была завершана, інтэрпрэтацыя гэтага паняцця волі застаецца адкрытай.

Для Э. Вітарыні, як і для іншых пісьменнікаў, важна было зразумець прычыну наяўнасці такіх разбуральных якасцей і ўбачыць магчымасць пазбягаць праяў негатыўнага, злоснага, жорсткага ў чалавеку. Аналіз гэтай праблемы працягваецца ў прозе канца 1950–1970-х гадоў; у беларускіх і італьянскіх аўтараў супадаюць нават фармулёўкі пытанняў, адрасаваных як самім сабе, так і чалавецтву: «Што ж такое чалавек, ці ёсць мяжа яго брыдотам і мярзотнасцям?.. Ці магчыма знішчыць, забіць сабе падобнага, не забіўшы пры гэтым сябе? Усяму павінна быць мяжа, усяму ёсць канец. Ёсць жа, ёсць такая нябачная рыса, ступіўшы за якую ты ўжо не чалавек, не звер нават ужо, а нішто», – пытае Віктар Казько ў аповесці «Суд у Слабадзе» (1978) [113, с. 110].

У 1961 г. адбылася значная падзея, якая атрымала розгалас ва ўсім свеце, у тым ліку і ў Савецкім Саюзе. У Аргентыне быў арыштаваны і вывезены ў Ізраіль нямецкі злачынец Адольф Эйхман. Працэс прыцягнуў увагу сусветнай грамадскасці, у выніку нямецкі філосаф Ханна Арэндт, якая на той час ужо жыла ў ЗША, напісала публіцыстычна-філасофскую кнігу «Банальнасць зла: Эйхман у Іерусаліме». Аналізуючы фігуру і ўчынкі Адольфа Эйхмана, аўтар прыходзіць да высновы, што часта зло робяць самыя звычайныя людзі, якія імкнуцца прыстасавацца да абставін. Так, у свой час Ф. М. Дастаеўскі даследаваў, як Раскольнікаў, натхнёны ідэяй пра звышчалавека, паспрабаваў паставіць эксперымент над самім сабой і што з гэтага атрымалася.

У адным з артыкулаў А. Адамовіч адзначаў: «Не пісаць аб дзірлівангерах, аб гэтым – усур’ёз, “буйным планам” – значыць рабіць выгляд, што не было нічога. Але ж было: зазірнула чала-

вецтва ў бездань, бачыла, убачыла не дзесяткі і не сотні, а дзесяткі і сотні тысяч сваіх катаў, мучыцеляў немажлівых – “аднекуль” “раптоўна”, разам з фашызмам з’явіўшыхся на “планеце людзей”. Адкуль? Не маем мы права адварочвацца і ад гэтай чорнай бездані. Неабходна пытацца, шукаць адказу: адкуль?» [5, с. 476]. Гэта канцэптуальная праблема сусветнай літаратуры пра вайну мае як маральны, так і мастацка-эстэтычны бок. Для яе вырашэння многія пісьменнікі сталі больш уважліва прыглядацца да ўнутранага свету тых, хто ўдзельнічаў у вайне на баку нацыстаў і фашыстаў. Гэта выявілася ў кнізе А. Адамовіча «Каратели. Радость ножа или жизнеописания гипербореев» (1980), у рамане А. Маравія «Чачара» (1957), у кнігах М. Вентуры «Адпачынак аднаго немца» («Vacanza tedesca», 1959) і «Белы сцяг над Кефалініяй» («Bandiera bianca a Cefalonia», 1963), а таксама ў творах, прысвечаных трагедыі спаленых вёсак, такіх як «Хатынская аповесць» (1971) А. Адамовіча, «Тартак» (1968) І. Пташнікава, «Апошнія і першыя» (1968) Б. Сачанкі.

М. Вентуры ва ўступным слове да рускамоўнага выдання свайго рамана «Белы сцяг над Кефалініяй» прызнаецца: «Асабліва цікавіў мяне апошні аспект драмы; мне хацелася зразумець, раскрыць псіхіку нацыстаў не толькі праз хроніку падзей, а паспрабаваць з максімальнай аб’ектыўнасцю паставіць сябе на іх месца, так сказаць “залезці ў іх шкуру”, каб знайсці ўнутранае тлумачэнне іх жорсткасці» [66, с. 8]. А. Адамовіч быццам працягвае думку італьянскага пісьменніка: «Чалавечая складанасць нашай літаратуры, разуменне таго, што не адназначны чалавек і што ён сам іншым разам усяго сябе не ведае і ўсё жыццё адкрывае ў сабе новыя “выспы” і “мацерыкі”, дзе, у чым вытокі гэтай праўды? ...Вялікая людская маса гарадоў і вёсак вынесла з нялегкага мінулага і новае веданне аб чалавеку, аб тым, што ёсць у нас і чаго няма, што мы можам і чаго не можам – нанова “выпакутаванае ўяўленне аб межах чалавечых”» [7, с. 133].

Менавіта «ўяўленне аб межах чалавечых» стала адной з галоўных тэм самога А. Адамовіча. Пісьменнік разам з Я. Брылём і У. Калеснікам ездзіў па Беларусі і апытваў сведкаў, ацалелых пасля карных акцый гітлераўцаў. Вынікам працы стала дакументальная кніга «Я з вогненнай вёскі...» (1975); частка запісаных расповедаў была выкарыстана А. Адамовічам ва ўласнай творчасці, што толькі павялічыла сілу ўздзеяння яго мастацкага слова на чытача. В. Быкаў заўважыў наконт аповесці А. Адамовіча «Карнікі»: «Няшмат знойдзецца ў нашай літаратуры твораў, дзе б на такой адносна невялікай плошчы з такой яскравасцю і глыбінёй прэпарыравалася ўся сацыяльная з'ява, пабудаваная на страху, бяздумным падпарадкаванні і авантурызме» [62, с. 81]. Той факт, што не кожны пісьменнік мог знайсці ў сабе сілу, каб разам з героем прайсці па шляху страты чалавечага аблічча да канца, пацвярджае І. Шамякін: «Я... светлы пісьменнік. Нават пішучы пра вайну, я не мог напісаць "Карателей". На даследаванне паталогіі чалавека трэба мець іншы склад псіхікі. У Адамовіча яна ёсць. Нават Быкаў – да "карацелей" не ўзнімаўся» [247, с. 322]. Сапраўды, для такога даследавання чалавечай прыроды неабходна мець пэўную мужнасць, нават псіхалагічную ўстойлівасць, мастацкую відушчасць, аднак менавіта пранікненне аўтара ў псіхалогію адмоўнага персанажа дапамагае яму дасягнуць моцнага мастацкага ўздзеяння, суровага рэалістычнага паказу ў алюстраванні адмоўных праяў чалавечай сутнасці, але галоўны вынік гэтага прыёму заключаецца ў стварэнні рэальнай карціны існавання чалавечай супольнасці – з усімі яе складанасцямі і супярэчнасцямі, жорсткасцю і высакароднасцю.

Італьянскі пісьменнік М. Вентуры ў аповесці «Адпачынак аднаго немца» таксама заглыбляецца ў псіхалогію галоўнага героя, былога эсэсаўца. Доктар Ганс Васэль адчувае настальгію па ваенных гадах і мясцінах, дзе ён ваяваў і дзе быў забіты партызанамі яго сябра Карл. Гэта адбылося менавіта ў Італіі,

і Васэль едзе туды разам з маладой жонкай, там вызваляецца яго памяць, ён згадвае часы, калі адчуваў сябе гаспадаром на гэтай зямлі. Аднак адносіны Васэля да мясцовых жыхароў вызначаліся насцярожанасцю і нянавісцю: «Я ніколі не чуў, каб жыхары Фарні смяяліся; за ўвесь час знаходжання нашага батальёна тут, на гары, я ні разу не бачыў у іх усмешкі і, здаецца, не чуў, каб яны размаўлялі. Яны запомніліся мне як цені, цені, што мільгалі ў нас за спінай і перабягалі з дому ў дом, і то галоўным чынам уночы. Потым я зразумеў, што за іх маўчаннем хаваюцца нянавісць рабоў, страх і бяссілле. Пад покрывам начной цемры гэтыя людзі спрабавалі ўзняць на нас руку, яны наносілі ўдары наўгад – так загінуў Карл, і Фарні было спалена, яно палымнела ўночы, як вялізнае вогнішча, а ў хатах кідаліся цені – не ўсе жыхары паспелі ўратавацца» [67, с. 290].

З героем М. Вентуры героі «Карнікаў» А. Адамовіча тыпалагічна падобныя сваімі адносінамі не толькі да насельніцтва акупіраваных тэрыторый, але ўвогуле да іншых людзей. І Дзірлівангер, і Васэль далёкія ад прызнання чужога болю раўназначным іх уласнаму. Так, Ганс Васэль, які працуе доктарам, лічыць скаргі сваіх пацыентаў нуднымі, дотык да цела хворага выклікае ў яго фізічную агіду. А калі да Васэля прыходзіць на прыём яўрэй, ён успрымае гэта як прыніжэнне ўласнай асобы: «Я не мог не прыняць яго, і гэта прымусіла мяне востра адчуць, наколькі надарэчнае маё цяперашняе існаванне. Я скінуў грошы на падлогу і стаў таптаць іх пад поглядам Карла, але нават гэта не дапамагло мне пазбавіцца ад дрэннага настрою» [67, с. 276].

У абодвух творах наратыў падаецца ад першай асобы, што, безумоўна, не заўсёды з'яўляецца прыкметай аўтабіяграфічнасці, але веданне вайны, уласнае, набытае ў час жорсткіх выпрабаванняў на чалавечнасць, пра якія ідзе размова, веданне рэальнага выяўлення нацысцкай філасофіі дапамагаюць аўтарам уявіць тое, што не належыць іх уласнаму вопыту. У

працытаваным урыўку М. Вентуры звяртаецца да ролевага героя і гэты ж прыём ужывае А. Адамовіч у «Карніках», гаворачы ад імя Гітлера: «Дайдзі да габрэйскай крамы, да габрэйскай канторы і запатрабуй, забяры тое, што належыць табе па праве. Увайдзі ў Рэйнскую вобласць, у Судэты і забяры сваё! І гэта будзе толькі справядліва. А калі якая-небудзь частка немцаў усё яшчэ лічыць, што шчасце ў сацыялізме, тады, калі ласка, забярыце і яго – сацыялізм, але толькі ўвесь, няхай ён будзе выключна нямецкі і толькі для немцаў» [11, с. 157].

Варта адзначыць адну важную дэталь: разам з выдуманымі імёнамі М. Вентуры і А. Адамовіч пакідаюць сапраўдныя імёны тых, хто выконваў галоўную ролю ці прымаў рашэнне аб правядзенні карных аперацый, напрыклад, Оскара Дзірлівангера, Мураўёва («Карнікі») і Генрыха Банге («Белы сцяг над Кефалініяй»). Лёс Мураўёва найлепш падцвярджае думку, выказаную А. Маравія, што калі б не вайна, то жыццё многіх людзей склалася зусім іншым чынам, у пэўным сэнсе кожны чалавек – ахвяра абставін, нават нямецкі нацыст таксама не заўсёды захоўвае душэўную раўнавагу.

Як і Ганс Васэль, Дзірлівангер адчувае нянавісць з боку тых, каго яны прыніжаюць і забіваюць. Немцы не ведаюць спакою на акупіраванай зямлі ні ў Італіі, ні ў Беларусі, іх не ратуе ідэалагічны падмурак, створаны Гітлерам. Вось пра што распавядае Оскар Дзірлівангер, звяртаючыся ў думках да аднаго са сваіх начальнікаў: «Якім голасам заспявалі б вы на маім месцы – у гэтай бандыцкай Беларусі! Вам бы ўсё за сцяну хавацца, праз шкельца сачыць, каб не чуць ляманту ды кляцьбы! Сюды б вас, у Беларусь! Тут “кантактаў”, нават “непажаданых”, не пазбегнуць. Як бы шакіравала вас, калі б даведаліся, што мае салдаты на вясковых вечарынках граюць на губных гармоніках. Праўда, потым, раніцай, заходзяць да тых жа людзей, у тыя ж хаты і ўсіх ліквідуюць. Усіх, каму наігрывалі» [11, с. 141].

Адной з характэрных мастацкіх асаблівасцей прозы гэтага перыяду становіцца выкарыстанне прыёму «падарожжа ў мінулае». У італьянскай літаратуры заснавальнікам жанру «падарожжа» з'яўляецца Э. Вітарыні з яго раманам «Размовы на Сіцыліі», дзе герой, ад імя якога вядзецца апавяданне, вяртаецца з вялікага горада ў вёску наведаць маці і на сваім шляху сустракае шмат людзей з народу. М. Вентуры ў сваёй творчасці таксама звяртаўся да прыёму «падарожжа». Яго героі, як, напрыклад, у рамане «Белы сцяг над Кефалініяй», «Самыя дальнія станцыі» («Più lontane stazioni», 1970), адпраўляюцца не толькі ў геаграфічнае падарожжа, а думкамі, успамінамі вяртаюцца ў сваё дзяцінства, у ваенныя гады. Такім чынам, «падарожжа ў мінулае» мае перш за ўсё складаны хранатоп. М. Рыгоні Стэрн так і назваў адну са сваіх кніг – «Вяртанне на Дон» («Il ritorno sul Don», 1973), у сэнсе «вяртанне ў вайну, вяртанне ў тыя мясціны, дзе аўтару давялося ваяваць», а М. Спінэла (Mario Spinella, 1918–1994) – «Успамін аб Супраціўленні» («Memoria della Resistenza», 1976). У творах А. Адамовіча таксама ўжыты прыём не толькі і не столькі геаграфічнага перамяшчэння героя, але перамяшчэння ў часе, літаратурнай рэтраспекцыі (ад лац. *retro* – «назад» і *specto* – «гляджу») – звароту да мінулага, разглядання мінулых падзей, дзякуючы якому ў расповед ўключаюцца падзеі мінулага, якія становяцца аб'ектам аналізу. Гэта асабліва ярка прадстаўлена ў «Хатынскай аповесці»: падарожжа ў Хатынь з'яўляецца адначасова падарожжам у партызанскае юнацтва героя, прымушаючы Флеру яшчэ раз перажыць тое, што з ім здарылася ў час ваеннага ліхалецця. Рэтраспектыўная пазіцыя аўтара дазваляе засяродзіць увагу чытача не на актуальным дзеянні (паездцы на адкрыццё помніка партызанам), а на мінулым, такім чынам адбываецца яго філасофска-мастацкае асэнсаванне галоўным героем. «Адпачынак аднаго немца» М. Вентуры – гэта падарожжа з сучаснасці ў мінулае, як і «Хатынская аповесць» А. Адамовіча.

У рамане «Карнікі» дзеянне перарываецца дакументальнымі ўспамінамі некаторых непасрэдных удзельнікаў падзей, якія апісваюцца. Але структура кожнага з твораў адпавядае аўтарскай задуме, мастацкай ідэі, у рэшце рэшт, іх маштабу. «Адпачынак аднаго немца» М. Вентуры – гэта прыватны эпізод з жыцця звычайнага немца, тыповасць яго ў тым, што падобнае магло здарыцца з кожным ацалелым нацыстам. «Карнікі» А. Адамовіча можна параўнаць са шматпланавым палатном. Увага аўтара ў гэтым творы сфакусіравана на тым, што было «тады», у М. Вентуры – на тым, што адбылося некалькі год пасля «таго». І калі многія з герояў А. Адамовіча, асабліва былыя савецкія ваеннапалонныя, адчуваюць сваю віну ці, па меншай меры, страх перад пакараннем, то Ганс Васэль не ведае ні раскаяння, ні страху. Ён упэўнены ў правільнасці сваёй пазіцыі і ўжо не ў стане перамяніцца, як і другі герой М. Вентуры з рамана «Белы сцяг над Кефаленіяй» нямецкі обер-лейтэнант Карл Рытэр, ён духоўна хворы. Думкі Васэля імкнуцца да новай вайны, да помсты: «Карлу не дапаможаш у яго самоце, яго нельга ўваскрасіць, паклаўшы на магілу букецік кветак. І не дзеля гэтага, вядома, я прыехаў сюды. Карл набудзе бессмяротнасць толькі тады, калі ў адзін цудоўны дзень нашыя доблесныя палкі з поўным баявым выкладам ізноў пройдуць па ўсіх дарогах і сцяжынках, каб аддаць мячу ды полымю гэтыя паселішчы, знішчыць гэты народ прыхаваных ценяў» [67, с. 301].

Фанатычнымі прадказаннямі, лютай помслівасцю насычае маналог Гітлера ў «Карніках» А. Адамовіч: «А гэтай Беларусі я не даравяў і не дарую за адныя яе лясы і балоты, якія раз’ядналі, разарвалі мае арміі “Цэнтр” і “Поўдзень” у самыя важныя, першыя месяцы вайны. Іх Палессе, нашпігаванае дывізіямі, навісала над абедзвюма групамі армій, адхіляла нас ад плану... нам трэба за дзесяць-дваццаць пасляваенных гадоў ачысціць Еўропу ад усяго смецця малых дзяржаў і народаў. Малых і

не малых. Не кажучы ўжо пра славянаў і Расію... Уся германская армія кінута будзе на разгром ужо не армій праціўніка, а народаў – аднаго за другім» [11, с. 197]. Надзяляючы ўчынкі і выказванні сваіх антыгерояў такой просталінейнасцю, якая мяжуе з утрыраванасцю, пісьменнікі, безумоўна, мелі на мэце падкрэсліць бездухоўнасць і пачварнасць ворагаў, аднак неабходна адзначыць, што з цягам часу падобны падыход будзе сустракацца ўсё радзей, пакуль не саступіць месца па-філасофску ўзважанаму, удумліваму погляду на падзеі Другой сусветнай вайны і на чалавека.

Разважаючы наконт чалавечай сутнасці, беларускія і італьянскія аўтары неаднаразова падкрэслівалі, наколькі яе праявы залежаць ад раўнавагі ў навакольным свеце, яны наўпрост звязаныя з тымі ідэямі, якія сілкуюць грамадства. Чалавецтва на працягу сваёй гісторыі зведала шмат трагічных і жорсткіх момантаў, калі вынішчаліся цэлыя народы ці пэўныя групы людзей (па рэлігійных, сацыяльных або іншых прыкметах). З падобнага пункту гледжання Другая сусветная вайна не з'яўляецца нейкім выключэннем, аднак менавіта гэты крывавы час у гісторыі чалавецтва працягвае даваць падставы для роздуму і аналізу, магчыма таму, што ідэалогія нацыянал-сацыялізму ўпершыню паспрабавала адкрыта і цынічна паставіць забойства і выкарыстанне жыцця іншага чалавека ці народа ў якасці магчымага сродку для дасягнення дабрабыту ўласнай нацыі нормай чалавечага існавання. Пры гэтым тэорыя не засталася толькі тэорыяй, уражваючы маштабамі агульначалавечай трагедыі. Можна падыходзіць да праблемы і з другога боку, улічваючы той факт, што нацызм супрацьпастаўляў сябе хрысціянству. Ж.-П. Сартр заўважае: «Экзістэнцыялісты... заклапочаны адсутнасцю бога, паколькі разам з богам знікае ўсялякая магчымасць знайсці якія-небудзь каштоўнасці ў спасцігаемым розумам свеце. Не можа быць болей дабра *a priori*, бо няма бясконцага і дасканалага розуму, які б яго мысліў.

І нідзе не запісана, што дабро існуе, што неабходна быць сумленным, што нельга ілгаць; і гэта менавіта таму, што мы знаходзімся на раўніне, а на раўніне жывуць адныя толькі людзі» [195, с. 327]. Хрысціянства заставалася маральнай перашкодай для ўкаранення тэорый у жыццё, бо не зважаючы на тое, што на працягу гісторыі рэлігію час ад часу выкарыстоўвалі ў не заўсёды гуманных мэтах, яна заставалася гуманнай па сутнасці сваёй.

Менавіта таму вынікам дзейнасці ідэолагаў расавай тэорыі стала дэгуманізацыя поглядаў чалавека. Такая душэўная глухата была прадугледжана пастулатамі фашысцкай ідэалогіі, інакш было б немагчыма ажыццявіць праграмы па вынішчэнні насельніцтва на акупіраваных тэрыторыях. Капітан Альда Пулызі з рамана М. Вентуры «Белы сцяг над Кефалініяй» лічыць падобныя погляды хворымі: «Можа ён хоча мяне ўразіць? – падумаў Альда Пулызі. Але халодны погляд обер-лейтэнанта не пакідаў месца для ілюзій. Не, Карл Рытэр зусім не меў за мэту ўразіць капітана: ён шчыра верыў у тое, што казаў. Верыў наіўна і трывала. І тады капітан Пулызі паглядзеў на яго, паглядзеў і ўбачыў, хто перад ім. Карл – не пачвара, яго тэорыі не выклікаюць ні агіды, ні пратэсту. Проста ён фізічна непаўнавартасны – як кажуць, чалавек з хібаю» [66, с. 63]. Але тым не менш і Рытэр паддаецца слабасці, у глыбіні яго душы ўсё ж абуджаецца пратэст супраць масавага забойства італьянскіх салдат: «Магчыма, патрапіўшы ў штаб, ён нешта б уладкаваў, каб паклалі канец гэтым непатрэбным расстрэлам... Ён сам здзівіўся гэтай думцы. Як мог ён дадумацца да такога, калі вораг нарэшце стаяў перад ім. На вачах у яго выступілі слёзы злосці» [66, с. 233]. Гэтыя развагі падцвярджаюць думку пра тое, што не існуе простага падзелу на «чорнае» і «белае» ў адносінах да любой чалавечай асобы, і да ворага таксама, многія належаць да так званай шэрай зоны, пра якую пісаў П. Леві ў кнізе «Ці гэта чалавек?».

Пісьменнікі звяртаюцца і да апісання знешняга аблічча нацыстаў. У «Хатынскай аповесці» А. Адамовіча Флёра ўспамінае: «І тут я зблізку ўбачыў яго, галоўнага свайго ворага. Лысы, паголены да бляску (ён адзін з афіцэраў з непрыкрытай галавой), у залатых акулярах, назірае за ўсім, нібы збоку, ён падобны на ўрача ці чыноўніка, апранутага ў ваеннае» [18, с. 134]. І. Шамякін падкрэслівае дысананс паміж знешняй прыгажосцю і непрывабнымі паводзінамі нацыстаў-рабаўнікоў з аповесці «Гандлярка і паэт» (1975): «Усе трое былі ў чорных скураных паліто з футравымі каўнярамі і высокіх фуражках са свастыкай на кукардзе, высокія ростам, як знарок падабраныя – маладыя, прыгожыя; Алеся яшчэ ў лагеры здзіўляла і абражала, што фашысты бываюць прыгожыя, не стасавалася гэта з іх душэўным воблікам і паводзінамі» [244, с. 415]. На гэта звяртае ўвагу і М. Вентуры, адзначаючы, што «...дасканаласць ліній, колераў і формаў – усяго толькі нетрывалая шырма, што хавае жудасную хваробу, пра якую нават сам ён, Карл Рытар, не здагадваецца» [66, с. 63].

Забойства ўжо не здаецца Рытару недаравальным грахом, а ўсяго толькі неабходным актам для дасягнення пэўнай мэты. У гэтай сувязі лагічным і апраўданым становіцца зварот беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў да біяфізічнага аспекту жыцця чалавека і да свету жывой прыроды, каб высветліць, ці не адтуль, з жывёльных інстынктаў, паходзіць прага знішчэння. Менавіта таму ў іх творах так часта сустракаюцца словы «чалавек», «чалавечы», «нечалавечы». І беларускія, і італьянскія аўтары бачаць у дзеяннях нацыстаў у першую чаргу праявы незразумелага для гуманістычнага светаўспрымання пачуцця перавагі над людзьмі, якія маюць іншую гісторыю, іншую культуру.

Так, італьянка Чэзіра з рамана «Чачара» А. Маравія, назіраючы за адным з немцаў, адчувае пэўную разгубленасць: «Уся гэтая сцэна аказала на мяне дзіўнае ўражанне, як быццам бы

перада мной быў не чалавек, а дзікая жывёла, якая то муркоча, то скаліць зубы, і было незразумела, што зараз зробіць гэтая жывёла і як з ёй трэба абыходзіцца» [283, р. 116]. У «Хатынскай аповесці» А. Адамовіча малпа суправаджае свайго гаспадара – галоўнага віноўніка трагедыі ў вёсцы Пераходы, і ў той час, калі ён аддае загад аб знішчэнні вёскі, і ў палоне ў партызан. Галоўны герой кнігі Флёра ўспамінае: «Магчыма, я таму адразу стаў глядзець на яго, што на яго плячы круціцца доўгі, як у пацука, і тоўсты хвост, грымаснічае невялікая малпа з круглымі белымі плямамі вакол вачэй. Ён яе ласкава дастае, пагладжвае рукой. Вочы нашы сустрэліся: мае, яго, малпы. Ён разглядвае мяне цікаўна (так мне здалося), у малпы выгляд быццам засмучоны» [18, с. 134]. І А. Адамовічу і А. Маравія кантраст ва ўзаемадачыненнях з людзьмі і жывёламі дазваляе падкрэсліць адлучанасць ад чалавецтва тых, хто лічыў, што мае права распараджацца чужым жыццём, больш за тое, звер быццам саромеецца праяў бесчалавечнасці свайго гаспадара, і ў той час як людзі адасабляюцца ў сваёй абыякавасці ад чужога болю, ён нібыта адчувае беспадстаўную жорсткасць забойства і пакутуе ад гэтага.

В.А. Каваленка ў прадмове да «Хатынскай аповесці» адзначыў супярэчнасць у адносінах нямецкага афіцэра да малпы, якую ён гладзіць, песціць, і да людзей, якіх забіваюць на яго вачах і па яго загадзе. Як вядома, многія нямецкія салдаты і афіцэры насілі з сабою фотаздымкі сваіх дзяцей, што засталіся ў Германіі, і часта пазіралі на іх з замілаваннем і любоўю, што ніякім чынам не перашкаджала знішчаць іншых дзяцей: «А той, з малпай, цяпер дзяўчынку, як нядаўна мяне, правёў цікаўным позіркам, здаецца, яму ўсё было зразумела. І тым, што навокал яго, было ўсё зразумела. Непаразумелы чалавечы выраз быў на бела-чорнай валасатай мордачцы малпы з вырачанымі сумнымі вачамі» [18, с. 135]. А. Адамовіч стварае своеасаблівы ланцужок: фашыст – нечалавек – звер (малпа),

як у свой час Э. Вітарыні: фашыст – нечалавек – звер (сабака). Нават болей, малпа, якая спадабалася партызанам, становіцца ў пэўны момант абаронцам фашыста, бо нягледзечы на нязручнасць ён не знімае малпу з пляча: «Фюрэр карнікаў і выцягваецца, і сутуліцца, і дысцыплінавана, падцягнута глядзіць, і нясмела, нібы пытаючыся, схіляе голеную галаву: можа, партызанскія камандзіры якраз малпай, а не ім зацікавяцца?» [18, с. 157].

Жаданне немца пазбавіцца ад адказнасці за зробленае наводзіць на думку, што ён усё ж такі бачыць пачварнасць сваіх учынкаў, аднак не можа паводзіць сябе інакш – гэта вынік яго светапогляду. Толькі пагроза ўласнага знішчэння, магчыма, наблізіць яго да разумення сапраўднай каштоўнасці жыцця і непапраўнасці смерці. У аповесці Б. Сачанкі «Апошнія і першыя» галоўны герой хлопчык Ясь, што ацалеў пасля спалення вёскі Рудня, сустракаецца ў лесе з немцам-дэзерцірам, які прызнаецца: «Толькі ведай: не ўсе такія немцы, як тыя, што спалілі тваю вёску. Ёсць немцы і другія. Яны неабыякавы да таго гора і слёз, што прынеслі нашы суродзічы на вашу зямлю. Ім сорамна. Сорамна і балюча. Помні пра гэта, малы! Помні заўсёды!..» [196, с. 340]. І хоць Ясь не дае веры словам немца, тым не менш яму хочацца спадзявацца на іх шчырасць.

Роздум пра сутнасць фашызму ў беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў непазбежна прыводзіць да з'яўлення мастацкай рэфлексіі пра чалавека, пра яго вартасці і недахопы, пра тое, ці з'яўляецца імкненне чалавека тварыць несправядлівасць у адносінах да іншых людзей яго непазбежнай сутнаснай рысай. А. Адамовіч падкрэслівае: тое, што адбываецца ў свеце жывёл, не выходзіць за межы лагічнай барацьбы за існаванне. «...Як людзі паклёпнічаюць на жывёл!.. Нават самы крыважэрны звер рэдка, хіба што выпадкова, заб'е суродзіча, ва ўсякім разе барацьба з прадстаўнікамі аднаго віду ў іх не набывае знішчальнага характару... Маўляў, прырода вінаватая, што

чалавек агрэсіўны, што жорсткі да людзей. Калі і ёсць віна маці-прыроды, дык толькі тая, што занадта далёка адпусціла яго ад сябе. І чалавек занадта вызваліўся ад яе – амаль страціў асноўны інстынкт, так, той жывельны інстынкт захавання віду!» [18, с. 135]. Як відаць, беларускі пісьменнік развівае тут прыведзеную вышэй думку Ф. М. Дастаеўскага з «Братоў Карамазавых».

У рамане «Чачара» А. Маравія нямецкі лейтэнант пытаецца ў Чэзіры: «Ці мы не такія людзі, як усе іншыя?». Аднак, на думку Чэзіры, ён ужо не належыць да чалавецтва: «Не, чалавек, сапраўдны чалавек, менавіта чалавек, а не жывёла, не знаходзіць задавальнення ў тым, што, кажучы вашымі ж словамі, ачышчае агнямётам пячору, дзе знаходзяцца жывыя салдаты» [283, р. 185]. І далей італьянскі пісьменнік развівае думку галоўнай гераіні: «Я вельмі часта думала, што з чалавекам трэба абыходзіцца па-чалавечы, а не як з жывёлай; абыходзіцца з чалавекам па-чалавечы – гэта значыць даць яму магчымасць, каб ён быў чыстым, жыў у чыстым доме, ставіцца да яго з сімпатыяй і павагай, але самае галоўнае – унушыць яму надзею на будучыню. Калі з чалавекам не абыходзіцца такім чынам, то ён ператвараецца ў жывёлу: чалавек жа ўсё можа, нават стаць жывёлай, а не чалавекам, – і тады зусім дарэмна патрабаваць ад яго чалавечых паводзінаў» [283, р. 259].

А. Адамовіч, М. Вентуры, А. Маравія і іншыя аўтары не толькі адлюстравалі такія з’явы, як дэгуманізацыя і адчужэнне, супадае таксама іх аўтарская ацэнка гэтых з’яў. Высновы А. Адамовіча наконт разбуральнага ўздзеяння вайны на чалавека, наконт мяжы, за якой страчваецца чалавечае аблічча, сугучныя творам італьянскіх пісьменнікаў, якія былі напісаны некалькі раней. Гэта значыць, што сваёй творчасцю А. Адамовіч запаўняў нішы ў беларускай літаратуры, звязваў перарваныя нацыянальныя традыцыі рэалістычнага пісьма з лепшымі набыткамі сусветнай прозы. У згаданых творах з

аднолькавай сілай раскрываюцца прыгажосць чалавека і заганнасць тых з'яў, што імкнуцца парушыць гармонію яго існавання ў свеце.

Літаратура канца 1950–1970-х гадоў адлюстравала як станоўчыя, так і адмоўныя бакі чалавечай асобы яшчэ і для таго, каб паказаць шляхі для духоўнага ачышчэння. Напрыклад, галоўны герой аповесці В. Казько «Суд у Слабадзе» Колька Лецечка нясе ў душы і любоў, і боль, якія прарываецца з яе глыбінь падчас суда над былымі паліцаямі, аднак не захінае галоўнага – не па гадах мудрага і глыбокага погляду на жыццё: «Не, нічога жудаснага, звычна бандыцкага, фашысцкага ён у іх не згледзеў. Ён адчуў дух гніласці, пах цвілі і тхла, што яўна сыходзіў ад іх. Мерцвякі, жывыя мерцвякі сядзелі перад ім... А зала была перапоўнена агнём, нянавісцю. І ў адзіным толькі чалавеку, у Лецечку, нянавісці не было, у ім была грэблівасць, нібыта ён толькі што апаганіўся чымсьці, дакрануўся да чагосьці ліпкага, брыдотнага» [113, с. 103]. Колька Лецечка не адчувае нянавісці, але не можа дараваць (думка пра немагчымасць даравання дамінантай праходзіць праз многія творы на тэму Другой сусветнай вайны), і гэты дысананс паміж светлай душой героя і цёмнымі праявамі свету прадвызначае трагічны фінал. На боль чалавека, які вымушаны жыць у нечалавечых умовах, і на магчымасць яго духоўнай перамогі над усімі нягодамі звяртае ўвагу і Б. Сачанка: «...гэта не каго-небудзь, а мяне бралі ў палон і прадавалі ў рабства; гэта... пада мною распальвалі агонь інквізітары; ...гэта не хто-небудзь, а я пух з голаду ў блакады і гарэў чорным дымам у печах Трасцянца і Асвенцыма, сцякаў крывёю і паміраў ва ўсіх, якія толькі знала чалавецтва, войнах» [196, с. 395]. І тым не менш «я не толькі ачуньваў, я яшчэ рос, мужнеў, множыўся, разумнеў... І веру – буду жыць яшчэ доўга-доўга, буду жыць вечна, датуль, пакуль будзе гэты белы свет, пакуль будзе сама зямля... Бо я – ЧАЛАВЕК!» [196, с. 396].

Вызначальнай рысай паводзін герояў аповесці «Суд у Слабадзе» становіцца адчужэнне. П. Васючэнка, напрыклад, піша, што эфект адчужэння ў В. Казько «закранае нават тыя паняцці, якія ў творчасці іншых аўтараў яшчэ маглі выглядаць незамглёнымі, – прырода, дзяцінства, гульні, каханне і г. д. Асабліва ярка гэтае адчужэнне праглядаецца ў найбольш уражлівым з дзіцячых лёсаў, апісаных празаікам, – Колькі Лецечкі» [64, с. 53]. На думку многіх мысліцеляў XX стагоддзя, адчужэнне стала галоўнай заганай часу, і менавіта памяць пра найгоршыя падзеі чалавечага існавання дапаможа яго пераадолець, у тым ліку і з дапамогай мастацкага слова. А. Маравія ў кнізе «Чалавек як мэта» (1964) адзначае: «Пісьменнік сёння не можа ігнараваць адчужэнне. Перш за ўсё трэба заўважыць, што ў адрозненне ад мас, што лёгка забываюць, пісьменнік памятае. І таму, што памятае, не можа не трымаць безупынна ў свядомасці канцэнтрацыйны нацысцкі лагер, дзе адчужэнне альбо *выкарыстанне чалавека як сродку* (курсіў. – *А. Д.*) дасягнула падчас апошняй вайны крайніх формаў» [284, p. 1329]. Разважаючы пра значэнне Другой сусветнай вайны ў культурным жыцці Еўропы, А. Маравія заўважыў наступнае: ...нацысцкі ўрок спатрэбіўся толькі, каб прымусіць знікнуць пэўныя, найбольш вострыя формы зла: нікому сёння не прыйдзе ў галаву ўзнавіць рабства, як несумненна зрабілі б гітлераўцы, калі б перамаглі» [284, p. 1329].

Неабходнасць памяці пра Другую сусветную вайну для абароны чалавека і асуджэння гвалту, асуджэння ідэалогіі фашызму як ідэалогіі жорсткасці і генацыду, сцвярджэнне асобнага чалавечага жыцця як найвышэйшай каштоўнасці і асуджэнне дэгуманізацыі асобы з'яўляюцца несумненнымі вартасцямі твораў беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў на тэму Другой сусветнай вайны і супадаюць па сваёй гуманістычнай сутнасці.

## 3.3. Чалавек сярод людзей, або Чалавецтва як супольнасць

Вялікая роля ўзаемадзеяння розных культур у інтэнсіфікацыі літаратурнага працэсу неаднаразова адзначалася беларускай крытыкай. А. Адамовіч пісаў: «Важна падкрэсліць... што якраз вопыт нашых класікаў сведчыць: сапраўды мастацкі і глыбокі погляд на свой край, свой народ пад сілу толькі таму, хто за блізкім бачыць і далёкае, сябе пазнае ў іншых, а іншых знаходзіць у сабе. Інакш не ўзнікне і адчуванне нацыянальнага характару ў літаратуры, бо толькі праз параўнанне (у думцы, у пачуцці аўтарскім) узнікае яго акрэсленасць» [8, с. 211]. І тут, безумоўна, не менш важнае значэнне маюць асабісты вопыт і асабістыя кантакты.

З канца 1950-х гадоў назіраецца павелічэнне непасрэдных кантактаў паміж прадстаўнікамі Італіі і БССР, што адбілася на змесце і вобразнай сістэме літаратуры. Так, Я. Брыль наведвае Італію і піша апавяданне «Дваццаць» (1958), у якім не толькі захапляецца прыгажосцю гэтай краіны, але і разважае над лёсам тых італьянцаў, якія апынуліся падчас вайны на тэрыторыі Беларусі: «Слухай, аміка! Гледзячы на цябе, я не мог не думаць, што такія, як ты, веселуны і рабацягі былі не толькі ў Абісініі, але і на палях маёй радзімы. Можа, твой бацька або старэйшы брат?.. Ды я тут сёння не хачу выказваць жаль і злосць» [42, с. 304].

Нечаканая сустрэча В. Быкава яшчэ ў 1945 годзе з італьянскай дзяўчынай на аўстрыйскай зямлі з’явілася штуршком для напісання праз шмат гадоў самай, напэўна, лірычнай аповесці пісьменніка – «Альпійская балада» (1964), якая стала, бадай, найбольш вядомым літаратурным творам, што злучыў Беларусь і Італію. У цэнтры ўвагі аўтара – каханне беларускага хлопца Івана Цярэшкі і італьянскай дзяўчыны Джуліі. Як пісаў сам пісьменнік ва ўступным слове да аповесці «Альпійская балада», выдадзенай на італьянскай мове ў Маскве (1983):

«Каханне як найвыдатнейшае з людскіх пачуццяў здольна ў аднолькавай меры як разбураць, так і ствараць, сацыяльнае значэнне яго ва ўмовах вайны, барацьбы і ўсеагульнай нянавісці наўрад ці магчыма перааацаніць. Нярэдка здаралася, што каханне перамагала смерць і нават у нечалавечых умовах існавання ўсяляла надзею. Асабліва, калі злучала ў адно людзей рознай сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці, людзей Захаду і Усходу, і ў сілу выключнасці сваіх пачуццяў прадухіляла многае з таго, што ў такіх выпадках іх раздзяляе» [59, с. 254].

Д. Бугаёў, даследчык творчасці В. Быкава, адзначае, што «прымерваючыся да вобраза Джуліі, ён (В. Быкаў. – *А. Д.*) прыглядаўся да манеры паводзін італьянак, іх звычак, цікавіўся італьянскай мовай, бо трэба было надаць адпаведны каларыт гаворцы дзяўчыны, словам, як і ў іншых сваіх творах, імкнуўся быць дакладным і ў цэлым, і ў дэталях» [78, с. 70]. В. Быкаў падкрэсліваў: «У аснову гэтай аповесці пакладзены праўдзівы выпадак, які меў месца на апошнім годзе вайны ў Аўстрыі, калі воляю выпадку сышліся разам палонны беларус і італьянская дзяўчына, што ўцяклі з нямецкага канцлагера. Трывожным і кароценькім быў час іх нечаканага кахання, за які адзін з іх заплаціў жыццём, а для другой гэтыя тры разам пражытыя дні засталіся назаўжды зоркавым часам, найвышэйшым узлётам яе дум і памкненняў» [59, с. 255].

У літаратуры 1960–1970-х гадоў на тэму Другой сусветнай вайны адбываецца не толькі ўжо згаданае падарожжа ў мінулае або ў часе, але і падарожжа ў прасторы з прычыны пабытавага і духоўнага хаосу, які панаваў у Еўропе ў 1940-я гады XX стагоддзя. Менавіта ў гэты час адбыліся вялікія ўзрушэнні краін, народаў, ідэй і палітычных сістэм. Часта здаралася, што людзі з адзіным памкненнем – абараніць сваю зямлю – апынаціся на супрацьлеглых пазіцыях, лёс кідаў іх па прасторах Еўропы і свету. Безумоўна, гэтыя працэсы закранулі і бела-

русаў, якія нярэдка траплялі ў самы вір гістарычных падзей. Пацверджаннем таму з'яўляюцца літаратурныя творы, створаныя на аўтабіяграфічнай аснове, якія вызначаюцца агульначалавечым гучаннем і пры гэтым застаюцца цесна звязанымі з нацыянальнай праблематыкай, нацыянальным кантэкстам, бо менавіта роздум пра лёс роднай зямлі з'яўляецца рухавіком дзеяння ў гэтых кнігах.

Кожнага чалавека можна ідэнтыфікаваць з пэўнай этнічнай агульнасцю, нацыяй, вылучыць рысы пэўнага менталітэту, якія ён імкнецца захаваць нават у самыя цяжкія часы свайго жыцця. У раманах «Птушкі і гнёзды» (1942–1944, 1962–1964) Я. Брыля і «Змагарныя дарогі» (1958–1960, надрукаваны ў Беларусі ў 1994 годзе) К. Акулы, дзе распавядаецца пра ваенныя шляхі беларускіх салдат, гэтая думка з'яўляецца дамінуючай. У чужых землях галоўныя героі не толькі не страчваюць нацыянальныя рысы і якасці, але набываюць упэўненасць у сваіх сілах дзякуючы пастаяннаму ўпартаму супраціўленню ўсім, хто спрабуе прынізіць іх чалавечую і нацыянальную годнасць.

Напісаны адначасова з творамі Я. Брыля і К. Акулы другі раман П. Леві «Передышка» (1962) таксама належыць да шэрага твораў пра пакутлівыя ваенныя дарогі і таксама мае аўтабіяграфічную аснову. Шлях галоўнага героя з польскага Катавіцэ да Італіі, з няволі да волі пасля вызвалення Асвенцыма Чырвонай арміяй самым неверагодным чынам пралягае праз Беларусь, Украіну, Малдову, Румынію, Венгрыю, Германію і Аўстрыю. Аднак у адрозненне ад папярэдняга твора, «Перадышка» мае больш апісальны, чым аналітычны характар, гэты твор адлюстроўвае, як да чалавека паступова вяртаецца чалавечае аблічча. Калі прыгадаць «Боскую камедыю» Дантэ, то раманы «Ці гэта чалавек...» і «Перадышка» суадносяцца як «Пекла» і «Чысцец». Аднак кніга, якая адпавядала б «Раю», так і не з'явілася. Не з'явілася хутчэй за ўсё таму, што пісьменнік не ўбачыў рэальнасці, якая б ёй адпавядала.

Трэба сказаць, што ў абсалютнай большасці твораў беларускай літаратуры дзеянне мае канкрэтную лакалізацыю, хутчэй за ўсё мясцовую, і ў такім разе падзеі разгортваюцца толькі ў часе, аднак у некаторых творах дзеянне мае і геаграфічны канцініум. Напрыклад, шлях героя Я. Брыля Алеся Руневіча ляжыць з захаду на ўсход, а героя К. Акулы Сымона Спарыша – з усходу на захад. Наконт прадвызначанасці шляхоў беларусаў слушна выказаўся Д. Бугаёў: «Нашым людзям у той вайне самім лёсам, поўнай трагічнасці беларускай гісторыяй было наканавана "да скону біцца за савецкую ўладу", бо яна хоць і была ў многім падобная на гітлераўскую сістэму, але ў гады Айчыннай вайны супрацьстаяла нямецкаму фашызму, Гітлеру, які замахваўся на будучыню не толькі беларусаў, але і ўсяго чалавецтва...» [43, с. 224]. Выбар Сымона Спарыша, які адыходзіць разам з нямецкай арміяй, не можа не выклікаць супярэчлівых пачуццяў, дый грунтуецца ён больш на палітычных матывах. Невыпадкова, што гэта кніга прыйшла да беларускага чытача толькі ў 1990-я гады, тым не менш і гэты бок нашай гісторыі патрабуе ўвагі.

Абодва героі жывуць з марай пра запаветную зямлю, для кожнага з іх такой зямлёй, безумоўна, з'яўляецца Беларусь. Але кожны з іх, маючы свой асабісты жыццёвы вопыт, кіруецца ўласнымі ўяўленнямі, якім чынам забяспечыць свабоду і незалежнасць роднай краіны. Адсюль вынікаюць шматлікія роздумы, назіранні, сумненні і пакуты герояў; іх імкненне асэнсаваць свет праз асэнсаванне лёсу роднай зямлі прымушае пільна ўглядацца ў акаляючае асяроддзе, рабіць вывады, часам памыляцца. І адзін герой, і другі разважаюць пра тое, што адбываецца са светам увогуле і з Беларуссю ў прыватнасці; спасцігаючы жыццё іншых народаў, Алесю Руневічу і Сымону Спарышу больш глыбока зразумеюць свой беларускі народ.

Самае галоўнае для названых пісьменнікаў і несумненная вартасць іх твораў у тым, што і падзеі, і людскія ўчынкі

вымяраюцца з гуманістычных пазіцый. Так, Я. Брыль яшчэ ў прадмове да рамана гаворыць: «Кніга напісана не па праву заслуг і пакут. Толькі па праву любасці да Чалавека – які ён ёсць, які ён будзе, бо павінен быць» [43, с. 8]. Думку Я. Брыля падхоплівае К. Акула, гаворачы: «Ён (чалавек. – *А. Д.*) пакліканы не для забойства, а для сужыцця з іншымі ў любові. Бог стварыў яго, даў розум, каб дасканаліўся й наследаваў Творцу» [25, с. 344]. На старонках, дзе Сымон успамінае пра паліцая Вытвіцкага і тое зло, што ён прыносіў людзям, у першую чаргу здзекваючыся з яўрэяў, пазіцыянуецца непрыняцце бесчалавечнасці адных людзей у адносінах да другіх.

У рамане «Перадышка» П. Леві звяртае ўвагу на два аспекты стасункаў між людзьмі. Першы – сорам, які, напрыклад, адчуваюць у лагеры чырвонаармейцы як натуральную рэакцыю на ўбачанае: «Гэта быў той самы, добра нам вядомы, сорам; той, што нас захлынаў пасля селекцый і кожны раз, калі нам даводзілася назіраць альбо самім цярпець прыніжэнні: сорам, якога немцы не ведалі, той самы, што праведны чалавек адчувае перад чужой вінsocaю, і яму прыкра, што гэта існуе, ...і, што яго добрая воля была недастатковай ці ўвогуле непатрэбнай, і не змагла абараніць» [276, p. 158]. Сорам – вось што лічыць П. Леві неабходнай якасцю для таго, каб быць чалавекам. Развіваючы далей гэтую тэму, пісьменнік вернецца ізноў да працытаванага ўрыўка ў кнізе «Тапельцы і ўратаваныя» (1987). Другі аспект закранае стасункі героя з былым вязнем па мянушцы Грэк. Філасофія Грэка – заўсёды вайна, чалавек чалавеку – воўк, падаецца пісьменніку непрымальнай. Аднак нават пасля заканчэння вайны некаторыя былыя вязні заставаліся ў палоне звыклых канонаў лагернага жыцця і працягвалі змагацца за існаванне з ранейшай няўхільнасцю.

Назва твора мае пэўную сэнсавую нагрузку. «La tregua» можа перакладацца з італьянскай мовы і як «перадышка», і як «перамір’е», і як «перапынак». Скончылася вайна, здавалася,

што горшае ўжо ў мінулым, аднак пасля вяртання на радзіму герой разумее, што яго падарожжа – гэта толькі перапынак, падараваны яму лёсам. Для нас гэтая кніга цікавая яшчэ і тым, што палова яе дзеяння адбываецца на тэрыторыі Беларусі, у Старых Дарогах, дзе знаходзіўся лагер для «перамешчаных асобаў», і адпаведна адлюстроўвае мясцовыя рэаліі. Пісьменнік трапіў туды разам з іншымі былымі вязнямі дзякуючы не заўсёды паслядоўным рашэнням савецкага камандавання, якое займалася іх вяртаннем у Італію, і быў вымушаны правесці ў Старых Дарогах некалькі месяцаў. Назіранні пісьменніка за савецкімі салдатамі і ўвогуле за людзьмі самых розных жыццёвых поглядаў і лёсаў даюць падставу для рэфлексій над сутнасцю чалавека ў пазнейшых кнігах «Калі, як не зараз?..» («Se non ora, quando?», 1984) і «Тапельцы і ўратаваныя». І менавіта ў рамане «Калі, як не зараз?..» актуалізуецца тэма «запаветнай зямлі», якой для яўрэяў стала зямля Ізраіля.

У творах беларускіх і італьянскіх аўтараў гэтага перыяду гучаць не толькі матывы размежавання людзей з рознымі палітычнымі поглядамі па розныя бакі супрацьстаяння, але і пачынае гучаць тэма іх яднання ў супольнасць, бо кожны чалавек, не зважаючы на сваю нацыянальную, палітычную прыналежнасць, ёсць усяго толькі частка адзінага цэлага. Напрыклад, італьянка Чэзіра моліцца за ўсіх людзей разам, незалежна ад таго, хто за што і за каго ваюе: «за англічанаў, што прыйдуць, каб вызваліць нас, і за нас, італьянцаў, якія вынеслі столькі пакут, нават за немцаў і за фашыстаў, што сталіся прычынай нашых пакут, бо і яны таксама ўсё ж такі людзі» [170, с. 391]. І капітан Альба Пульізі, думаючы пра немцаў, таксама не аддзяляе іх ад чалавецтва: «Не... гэта не робаты, не вінцікі той непераможнай машыны, якая зруйнавала і заваявала ўсю Еўропу, а такія ж небаракі, як яны, італьянцы, ці тыя ж грэкі» [66, с. 63].

Тэма прадстаўнікоў варожага боку неаднаразова падымаецца і ў беларускай літаратуры. Так, у пачатку рамана

Я. Брыля «Птушкі і гнёзды» ёсць сцэна, калі нямецкія салдаты частуюць палоннага Алеся і яго сяброў, і ў гэты момант здаюцца хлопцам не ворагамі, а простымі, звычайнымі людзьмі: «Пажылыя немцы, прыкметна ўсцешаныя такім паваротам справы, пагаварылі штосьці паміж сабой, парасшпільвалі сумкі і дасталі для хлопцаў адзін – акрайчык хлеба, а другі – банку мясных кансерваў, пачатую і загорнутую ў паперу. Была тут і пагарда пераможцаў... аднак прасвечвала, здаецца, і простая чалавечнасць бывалых людзей» [43, с. 53]. Знаходзячыся ў Нямеччыне, Алесь Руневіч мог на ўласныя вочы пабачыць, як нацысцкая мараль і прапаганда атручвалі розум нямецкага насельніцтва, яму сустракаюцца розныя людзі – добрыя і не вельмі, але ён заўсёды спрабуе зразумець іх логіку.

З другога боку, у літаратурных творах пачынаюць адлюстроўвацца і неадназначныя паводзіны ворагаў. Такім чынам, цікавасць да ўнутранага свету чалавека ўвогуле рэалізуецца ў розных кантэкстах, значных і дробных сітуацыях. Ненавісныя ворагі, немцы, набываюць рысы звычайных людзей, і гэта можна лічыць важным крокам на шляху асэнсавання чалавека і пераадолення перадузятасці: «нашыя» – добрыя, станоўчыя, «тыя» – абавязкова дрэнныя, адмоўныя. Так, напрыклад, Аляксей Карпюк («Пушчанская адысея», 1964) надзяляе чалавечнасцю, здольнасцю да спачування не толькі палонных і партызан, але і немцаў. Янка Брыль («Птушкі і гнёзды») таксама ідзе па гэтым шляху. Аднак калі ў Я. Брыля немцы-канваіры спачатку праяўляюць чалавечнасць і дзеляцца з палоннымі ежай, то пасля праявы дабрыні некуды знікаюць: «І не было цяпер, у страі на вачах у начальства, нават ценю бывалае чалавечнасці. Наадварот, было нават самадзейнае зверства» [43, с. 53]. У А. Карпюка чалавечнасць жонкі начальніка лагера смерці, якая дапамагала параненаму вязню, абсалютная, па-за кантэкстам часу, гэтая чалавечнасць узвышаецца над вайной, над мужам-катам, які пасля збівае жанчы-

ну: «Дагэтуль у Валодзькі была нейкая адчужанасць да рыжых. Цяпер ён бачыць добрую і простую кабеціну. Яе валасы здаюцца залатымі» [126, с. 12]. Асэнсаванне ўнутранага стану ворага і спроба зразумець матывацыю ягоных учынкаў надалей атрымае шырокае адлюстраванне ў творах як беларускіх, так і італьянскіх аўтараў.

Для Я. Брыля важна паказаць свайго героя не адарваным ад нармальных чалавечых стасункаў нават у Германіі. І ўжо пасля вяртання дадому Алесь Руневіч будзе думаць зноў і зноў пра народ, сярод якога яму давялося правесці доўгі час, і ў яго думках захаваюцца спакой, мудрасць і беларуская памяркоўнасць: «А што ж гэта я думаю так многа пра цябе, Нямеччына? Нават ужо тут, на роднай зямлі?.. Немцы – я не пакіну вас там, за дратамі граніцы! У агонь нашых новых сустрэч я панясу і воблікі людзей, і вобразы пачвар, паднятых або народжаных фашызмам!..» [43, с. 293].

Герой К. Акулы («Змагарныя дарогі») таксама разважае пра нямецкі народ, і гэты роздум ахоплівае праблемы ўсіх простых людзей, што апынуліся нейкім чынам уцягнутымі ў вайну: «А пры гэным змаганні не маглі стаяць побач бяздзейна й самыя звычайныя немцы – сяляне й работнікі, якія б з гэтай вайны, калі б яна й была выйграна, мала, а мо й нічога не скарысталі б. То была не іхняя вайна. Гэта была бойня раз'юшаных нацыстаў, функцыянераў-партыйцаў і вялікіх фабрыкантаў, высокае вайсковае клікі й найбольш і перадусім вайна няпоўнага розуму капрала-фюрэра... Жахлівасць татальных войнаў ляжыць у тым, што ў іх найбольш церпяць найменш вінаватыя й найбольш пакрыўджаныя, найбольш пераносяць і гаруюць самыя бедныя і з прычыны гэнай беднасці найменш развітыя» [25, с. 97]. Ні ў Я. Брыля, ні ў К. Акулы няма абвінавачвання нямецкай нацыі, а наадварот ёсць спроба зразумець, дзе пачынаецца і завяршаецца чалавечнасць асобы.

Дзіна Буцаці (Dino Buzzati, 1906–1972) у апавяданні «Беднае дзіця» («Povero bambino!», 1966) стварае вобраз нямецкага дзіцяці, распавядаючы пра слабога, непрыгожага хлопчыка (будучага фюрэра), над якім здзекуюцца аднагодкі, гуляючы ў вайну, і якога ніхто не любіць, нават уласная маці ставіцца да яго са знявагай: «Бог мой, Дольфі, што ты зрабіў?», – ...было ў гэтым таксама і прыніжэнне маці: што за няшчасны чалавек атрымаецца з гэтага беднага дзіцяці? Які нікчэмны лёс яго чакае?» [48, с. 104]. Атрымаўшы нечаканую ласку ад незнаёмай сіньёры, «на імгненне – і гэта было апошні раз – ён стаў рахманым, пяшчотным і змучаным дзіцём, якое не разумела прычыны сваёй пакуты і прасіла ў акаляючага свету крыху любові <...> "Якая пакута гэтыя дзеці! – усклікнула незнаёмая сіньёра на развітанне. – Да пабачэння, сіньёра Гітлер!"» [48, с. 105].

Д. Буцаці закранае праблему выхавання чалавека і акаляючага асяроддзя, знешніх абставін, якія трагічным чынам могуць уплываць на лёс чалавека. Погляд італьянскага пісьменніка на Гітлера-дзіця (або на дзіця, якое можа стаць Гітлерам) у многім для нас нечаканы, і ў той жа час псіхалагічна апраўданы, гэта папярэджанне для кожнага: нельга бясконца прыніжаць чалавека, гэта можа кепска скончыцца, і не толькі для тых, хто знаходзіцца побач. Наяўнасць комплексаў у Гітлера падкрэслівае і А. Адамовіч у «Карніках». У святле далейшай гісторыі «беднага дзіцяці» можна сказаць, што яно адпомсціла чалавецтву за свае пакуты.

В. Казько ў аповесці «Суд у Слабадзе» падводзіць чытача да высновы, што і тыя, хто апынуўся за мяжой чалавечнасці, жадаем мы таго ці не, з'яўляюцца неад'емнай часткай чалавечай супольнасці. «Так... людзі ішлі сюды, несучы сваю нянавісць. Магчыма, яны і чакалі ўбачыць штосьці неверагоднае, нечалавечае, чаго ніколі нельга ахапіць ні розумам, ні сэрцам. А перад імі было нешта надзвычай будзённае, шэрае, вартае

жалю, але ж *чалавечае* (курсіў. – *А. Д.*). Ды толькі такое чалавечае, якога ім ніколі не спасцігнуць» [113, с. 109]. Вось яна, тая самая банальнасць, нават будзённасць зла Ханны Арэндт, адлюстраваная ў мастацкім творы беларускага аўтара.

У літаратуры, аднак, паказана не толькі падзенне чалавека, але і яго духоўнае ўратаванне, якое адбывалася нават цаной уласнага жыцця. Пра гэта распавядае Я. Брыль у апавяданні «Дваццаць», калі згадвае эпізод з жыцця, калі палонныя італьянскія салдаты (нагадаем, што ўвосень 1943 года Італія заключыла пагадненне з саюзнікамі, і італьянскія салдаты сталі для немцаў ворагамі) адмовіліся забіваць мірных беларускіх жыхароў, за што былі расстраляныя: «Цяпер над той магілай шумяць і іграюць у сонцы лісцем беларускія пальмы – бярозы... А ў вёсках, якія разам з пяццю азёрамі відаць з высокай гары, простыя, шчырыя людзі гавораць пра тых безыменных Дваццаць, што не змаглі страляць – не захацелі цаной нявіннай крыві вяртацца нават сюды, у сваю непаўторна прыгожую краіну» [42, с. 306].

Узнікае заканамернае пытанне: чаму адзін чалавек можа знайсці ў сабе сілы і адмовіцца забіваць тых, хто належыць да іншай нацыі, а другі забівае нават сваіх безабаронных суайчыннікаў? Пытанне, якое ў глабальным сэнсе вяртае нас да быкаўскага «Сотнікава» і да праблемы выбару. З гэтага пункту гледжання сама вайна выклікае жорсткі пратэст, як, напрыклад, у рамане Л. Менегела «Маленькія майстры»: «Вайна прыгожая толькі ў нямым кіно: людзі тоўпяцца то тут, то там, а то бягуць; усе здзяйсняюць гераічныя ўчынкі; фартэп'яна грае «Монтэ Грапа – ты мая радзіма...»; штыкі блішчаць; людзі працягваюць падаць: гэта Паўшыя. Усё гэта не шумна і не балюча. Але там... з сапраўднай куляй у руцэ... я зразумеў, што калі гэтая куля праходзіць праз тваё цела і нясе табе боль, ты паміраеш» [280, р. 25], і ў рамане «Апошнія і першыя» (1966) Б. Сачанкі: «Хто, хто выдумаў цябе, вайна?.. І чаму ты такая

крыважэрная, ненасытная?.. Мала таго, што ты разлучаеш дзяцей з бацькамі і бацькоў з дзецьмі... на гэтым свеце, дык ты яшчэ разлучаеш і на тым – рассейваеш, раскідаеш... іхнія магілы... па ўсіх абшарах, па ўсёй Зямлі! Дык будзь жа назаўсёды праклятая ты, вайна! І хай да канца дзён сваіх будзе пракляты той, хто цябе выдумаў!..» [196, с. 366]. Аўтары падводзяць чытача да думкі, што, каб разабрацца ў складаных абставінах і зрабіць сумленны выбар, чалавеку неабходна мець крытычнае мысленне, імкнуцца самому разабрацца, якая горкая праўда хаваецца за фасадам прыгожых словаў.

Такім чынам, у творах беларускай і італьянскай літаратур побач з глыбінным асэнсаваннем негатыўных праяў чалавечых паводзін, пачынае знікаць размежаванне на «людзей» і «нелюдзей», саступаючы месца чалавеку ва ўсёй складанасці яго характару, натуры, з акцэнтам на разнастайнасць пачуццяў і эмоцый. Менавіта антыгуманная, анамальная сітуацыя, у якой апынуліся мільёны людзей падчас вайны, адмоўна адбіваецца на чалавечых стасунках, часта перашкаджае ўзаемапаразуменню. Тым не менш эвалюцыя адносін паміж прадстаўнікамі розных народаў дамагае ўспрымаць чалавецтва як непарушную еднасць, што складаецца са шматлікіх самакаштоўных элементаў.

### 3.4. Канцэпцыя героя-змагара ў ваеннай прозе

У свой час крытык Д. Бугаёў заўважыў бясспрэчную пераклічку паміж фіналам аповесці В. Быкава «Жураўліны крык» (1959) і заключнай сцэнай рамана Э. Хемінгуэя «Па кім звоніць звон» (1940). Ён адзначыў, што «супадзенне хутчэй за ўсё выпадковае. Але нечаканым яно не выглядае» [44, с. 11]. Сапраўды, гаварыць пра прамы ўплыў не даводзіцца, бо твор Э. Хемінгуэя з'явіўся ў рускім перакладзе ўжо пасля таго, як была напісана аповесць «Жураўліны крык» (у 1963 г. перакладзены ўрывак з апошняй часткі, у 1968 г. – уся кніга, аднак

творчасць амерыканскага аўтара была добра вядома ў савецкай краіне і раней [127]. Цікавыя звесткі пра раман «Па кім звоніць звон» прыводзіць адзін з найбольш вядомых даследчыкаў творчасці Э. Хемінгуэя І. Кашкін: «Кнігу гэтую “ўзялі на ўзбраенне”. Так, летам 1941 года раман або выдзеленую з яго аповесць аб іспанскіх партызанах прасілі спускаць на парашутах у мінскія і наўгародскія лясы...» [127, с. 205]. Аднак больш дакладнай інфармацыі пра распаўсюджванне рамана амерыканскага пісьменніка на тэрыторыі Беларусі ў гады вайны не сустракаецца. Кніга Э. Вітарыні выйшла на рускай мове ў 1969 годзе, таму і ў гэтым выпадку мы можам весці размову толькі пра тыпалагічнае супадзенне з творам В. Быкава.

У пабудове фінальнай сцэны і ў паводзінах герояў В. Быкава і Э. Хемінгуэя прасочваецца пэўнае падабенства, абумоўленае іх псіхалагічным станам: «Глечык, зажмурыўшыся, усім нямытым, запэцканым слязьмі тварам, паглядзеў угору на сонца – яно было яшчэ высока... У той жа момант да яго слыху даляцелі дзіўныя журботныя гукі, ад якіх ён яшчэ вышэй задраў галаву і ўгледзеўся ў паднябессе. Ён заўсміхаўся і тужліва, з незразумелым, нечакана салодкім болем у душы доўга глядзеў у неба» [50, с. 102].

Герой Э. Хемінгуэя Роберт Джордан, як і Глечык, аглядае наваколле, пазірае ў неба не толькі для таго, каб развітацца, але і каб знайсці пэўную падтрымку, умацаваць сваю духоўную сілу: «Роберт Джордан бачыў іх на палове схілу, недалёка ад сябе... Ён цяпер цалкам валодаў сабою і доўгім, уважлівым поглядам абвёў усё навокал. Потым ён паглядзеў на неба. На небе былі вялікія белыя аблокі. Ён дакрануўся даланёй да сасновых голак на зямлі і дакрануўся да кары дрэва, за якім ляжаў» [229, с. 102].

Прынцыповая розніца паміж фіналам В. Быкава і Э. Хемінгуэя заключаецца ў эмацыянальнай афарбоўцы. Роберт

Джордан прымае сітуацыю са спакойнай упэўненасцю ў недарэмнасці сваёй смерці, уся яго ўвага сканцэнтравана на чаканні ворага. Для Глечыка апошнія хвіліны жыцця напаўняюцца адчуваннем трагічнасці і безвыходнасці: «Ён схапіў адзіную сваю гранату, прыціснуўся спіною да дрыготкай сцяны траншэі і чакаў. Ён разумеў, што гэта канец, з усяе сілы зацяў у сабе нясцерпную журботу душы, у якой вялікай прагай да жыцця ўсё біўся далёкі жураўліны крык» [50, с. 103].

Як бачым, у заключных радках твораў Э. Хемінгуэя і В. Быкава паўстае вобраз-сімвал чакання. Чаканне Глечыка і Роберта Джордана – гэта канцэнтрацыя чалавечага духу перад неабходнасцю прыняць свой лёс: «Роберт Джордан ляжаў за дрэвам, стрымліваючы сябе, вельмі беражна, вельмі асцярожна, каб не ўздрыганулася рука. Ён чакаў, калі афіцэр выедзе на асветленае сонцам месца, дзе першыя сосны леса выступалі на зялёны схіл. Ён адчуваў, як яго сэрца б’ецца аб усланую сасновымі голкамі зямлю» [229, с. 397].

Працытаваныя радкі В. Быкава і Э. Хемінгуэя з’яўляюцца заключнымі радкамі твораў. Абодва аўтары спыняюць на гэтым апавяданне, пакідаючы чытачу магчымасць самастойна ўявіць далейшы ход падзей. Дарэчы, калі параўноўваюць гэтыя ўрыўкі, нельга не звярнуць увагу на наяўнасць у апошніх сказах дзеяслова «б’ецца»: жураўліны крык б’ецца ў такт з чалавечым сэрцам, якое не жадае развітвацца з жыццём.

У рамане «Людзі і нелюдзі» італьянскага пісьменніка Э. Вітарыні, як і ў творы В. Быкава, таксама адбываецца сустрэча галоўнага героя з пераўзыходзячым яго па колькасці ворагам. Апынуўшыся ў пастцы, Эн-2 павінен прыняць рашэнне. Герой Э. Вітарыні мае магчымасць выбіраць: застацца і сваёй смерцю дапамагчы сябрам па зброі альбо пайсці і далей працягваць барацьбу: «Ён рабіў тое самае, што зрабілі Сын Божы ды Іспанец. Ён гінуў, але гінуў у змаганні. Хіба ж ён не змагаўся зараз? Хіба ж справа толькі ў тым, каб змагацца

ды выжыць? Можна змагацца і загінуць. Ён рабіў тое ж, што столькі людзей рабілі перад ім» [304, p. 186].

Лёс галоўнага героя ў творы Э. Вітарыні інтэртэкстуальна зближаны з лёсам Роберта Джордана. Трэба адзначыць, што, як і для героя Э. Хемінгуэя, для героя Э. Вітарыні вораг (фашызм) увасабляецца ў канкрэтнай асобе, якую неабходна знішчыць. Для Джордана гэта лейтэнант Берэнда, для Эн-2 – Чорны Пёс. У «Жураўліным крыку» В. Быкава вораг не мае індывідуальнага аблічча, Глечык супрацьстаіць нямецкім танкам. Гэта дэталь з'яўляецца важнай для тлумачэння яго псіхалагічнага стану – Глечык змагаецца супраць безасабовага ворага, што ўзмацняе адчай ад безнадзейнасці сітуацыі, якую герой, тым не менш прымае.

Э. Вітарыні заўсёды выяўляў вялікую цікавасць да амерыканскай літаратуры, шмат перакладаў. Пад яго рэдакцыяй у 1941 годзе была падрыхтавана анталогія амерыканскай літаратуры «Americana», у хуткім часе канфіскавана фашысцкай цэнзурай, сярод твораў быў і раман Э. Хемінгуэя «Па кім звоніць звон». Такім чынам, кніга амерыканскага аўтара стала вядома ў Італіі амаль адразу пасля напісання. Галоўную ролю ў папулярызацыі твора адыграў Э. Вітарыні, што дае падставу весці размову пра непасрэдны ўплыў Э. Хемінгуэя на творчасць італьянскага аўтара. Трэба таксама адзначыць, што падзеі ў Іспаніі мелі вялікае значэнне для светапогляду Э. Вітарыні – менавіта яны спрыялі таму, што ён заняў цвёрдую пазіцыю антыфашыста і зблізіўся з рухам Супраціўлення.

Ход думак Эн-2 пераклікаецца з разважаннямі Роберта Джордана: «Але калі ты дачакаешся і затрымаеш іх хаця б ненадоўга ці калі табе ўдасца хаця б забіць афіцэра, гэта можа многае вырашыць, адна рэч, зробленая своечасова» [229, с. 537].

Дзеянні Эн-2 прадыктаваны не столькі безвыходнасцю яго становішча (як у Роберта Джордана і Глечыка), колькі яго

расчараванасцю ў адносінах з каханай жанчынай. Ён адмаўляецца ад выратавання і вырашае забіць Чорнага Пса – нямецкага афіцэра, вядомага сваёй жорсткасцю ў дачыненні да байцоў Супраціўлення: «У руках яго быў рэвальвер рабочага; цяпер ён выцягнуў і свой з-пад падушкі <...>

– Яна не прыйдзе, – сказаў ён.

І апусціў засцерагальнікі на абодвух рэвальверах» [304, р. 186].

У адрозненне ад твораў Э. Хемінгуэя і В. Быкава гэта сцэна з'яўляецца фінальнай толькі для гісторыі Эн-2. На апошніх старонках твора падаецца ўяўная размова аўтара з галоўным героем і сустрэча двух таварышаў Эн-2 па супраціўленні з сумным немцам як своеасаблівы пастскрыптум.

Як вынікае з разгледжаных урыўкаў, фінал аповесці В. Быкава «Жураўліны крык» тыпалагічна суадносіцца з фіналамі раманаў Э. Хемінгуэя «Па кім звоніць звон» і «Людзі і нелюдзі» Э. Вітарыні. Трэба таксама адзначыць, што падобная сітуацыя ў рэальным ваенным жыцці была частай, таму падаецца натуральным яе ўвасабленне рознымі па мастацкай стылістыцы пісьменнікамі. Супрацьстаянне героя значна большаму па колькасці ворагу з'яўляецца вельмі эфектыўным прыёмам, які дазваляе аўтару раскрыць душэўны стан і духоўны патэнцыял чалавека ў вырашальны момант яго жыцця.

* * *

Канец 1950–1970-х гадоў, які адкрыў новую старонку ў мастацкім асэнсаванні чалавека на вайне. Гэта адбылося дзякуючы тым аб'ектыўным зменам, што мелі месца ў беларускім і італьянскім грамадстве, а таксама дзякуючы эвалюцыйным працэсам у ваеннай прозе папярэдняга дзесяцігоддзя. У сувязі з новай сацыяльнай і эканамічнай сітуацыяй італьянская літаратура пачынае аддаваць перавагу праблемам сучаснасці, скіроўвае ўвагу да неаавангардных і постмадэрнісцкіх плы-

ней. Таму самае, бадай, значнае адрозненне паміж італьянскай і беларускай ваеннай прозай заключаецца ў тым, якое месца яна займае сярод апублікаваных кніг, а таксама якія праблемы раскрывае пры апісанні ўнутранага стану героя. Калі для італьянскай літаратуры тэма вайны ў лёсе народа і чалавека, безумоўна, важная, але адна са шматлікіх тэматык, то ў беларускай літаратуры 1960–1970-х гадоў у прозе яна займае галоўнае месца, прынамсі па колькасці напісаных твораў, што тлумачыцца дзвюма асноўнымі прычынамі: атрыманай пасля XX з'езда магчымасцю нарэшце сказаць праўду пра вайну і пра чалавека на вайне і павышанай цікавасцю і аўтара, і чытача да індывідуальнага вопыту. Між тым, асабліва ў 1970-я гады пачынаецца і пэўнае спекуляванне ваеннай тэмай, нежаданне многіх пісьменнікаў крытычна асэнсоўваць праблемы сучаснай рэчаіснасці.

Галоўнымі тэндэнцыямі беларускай літаратуры можна назваць адыход ад схематызму ў адлюстраванні ваенных падзей і чалавечых характараў, а таксама асаблівая ўвага да праблем чалавека на вайне і яго маральнасці (творы В. Быкава, А. Адамовіча, І. Шамякіна, І. Чыгрынава, Б. Сачанкі і інш.). Ідэалагічныя моманты прыглушаюцца, на першы план выходзяць экзістэнцыяльная праблематыка і пытанне выбару, яскрава выяўляецца прынцып аўтабіяграфізму. Беларускія пісьменнікі пачынаюць звяртацца і да жанру прыпавесці (В. Быкаў, Б. Сачанка, В. Казько і інш.).

У абедзвюх літаратурах адбываецца (хоць і абумоўлены рознымі прычынамі) акцэнтаванне складанасці псіхалагічнага стану чалавека, відавочна імкненне даследаваць самыя тонкія душэўныя рухі (Я. Брыль, У. Караткевіч, І. Навуменка, К. Касола, Б. Фенольё), у беларускай літаратуры гэты працэс атрымаў назву «лірызацыя прозы». У выніку асноўным героем і беларускай, і італьянскай літаратур 1960–1970-х гадоў становіцца чалавек з багатым унутраным светам, часцей малады.

І. Навуменка падкрэслівае: «У пяцідзесятыя гады для некаторых празаікаў і крытыкаў, безумоўна, станоўчым быў герой дзейсны, рашучы, валявы. За гэтыя, бясспрэчна, добрыя якасці характару герою прабачаліся часам некаторыя хібы <...> Сёння ... валявых якасцей герою яўна мала, трэба, каб ён яшчэ ўмеў думаць, каб навучыўся паважаць думкі, пачуцці другіх людзей» [173, с. 123].

У італьянскай літаратуры працягваецца асэнсаванне наступстваў уздзеяння вайны на чалавека і яго існаванне (К. Касола, П. Леві, А. Маравія, Л. Менегела і інш.), а таксама на яго маральна-этычныя прынцыпы. І беларускія, і італьянскія аўтары часта выкарыстоўваюць прыём рэтраспекцыі і падарожжа ў мінулае, спалучаюць мінулае і сучаснасць.

Паглыбляецца аналіз станоўчых і адмоўных якасцей у чалавеку; А. Адамовіч, М. Вентуры, А. Маравія, Б. Сачанка і іншыя пісьменнікі звяртаюцца да вобразаў фашыстаў і на іх прыкладзе разглядаюць негатыўныя праявы чалавечай асобы. Пісьменнікі прыходзяць да высновы, што нельга ставіць чалавека ў нечалавечыя ўмовы, якімі з’яўляецца вайна. У той жа час развіваецца тэма нацыянальнага і інтэрнацыянальнага стасункаў паміж народамі (Я. Брыль, К. Акула, П. Леві і інш.).

Такім чынам, канец 1950–1970-х гадоў – важны этап у распрацоўцы канцэпцыі сучаснага чалавека. Менавіта ў гэты перыяд былі закладзены асновы для пераадолення адчужанасці і адбываўся пошук шляхоў для паразумення паміж прадстаўнікамі розных культур.

# 4. ЭВАЛЮЦЫЯ КАНЦЭПЦЫІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСКАЙ І ІТАЛЬЯНСКАЙ ВАЕННАЙ ПРОЗЕ 1980–1990-х ГАДОЎ

## 4.1. Асаблівасці ваеннай прозы канца XX стагоддзя

Беларуская ваенная проза пачатку 1980-х гадоў працягвала развіваць узнятыя раней тэмы, аднак перыяд застою даваў пра сябе знаць і тут: літаратурны працэс стаў нагадваць таптанне на адным месцы. У гэты перыяд з'яўляецца шмат кан'юнктурнай прозы на тэму Другой сусветнай вайны з ідэалізаванымі героямі і калізіямі. Ваенная тэматыка вельмі эксплуатуецца, што не можа не адбівацца на якасці напісаных кніг – нярэдка сюжэты ў іх паўстаюць павярхоўнымі, рамантычна-прыгодніцкімі, схематычнымі. І хоць крытыка працягвала адзначаць, што найбольшыя поспехі нашай прозы па-ранейшаму назіраюцца ў асэнсаванні і ўзнаўленні ваенных падзей, насамрэч многія творы ствараліся са спекулятыўных меркаванняў. Адпаведна на іх старонках адлюстроўваліся прымітызаваныя характары і стасункі паміж людзьмі. Так, А. Адамовіч называе прыкладамі поўнага выраджэння эпапеі «партызанскія раманы» Алеся Савіцкага і «Вялікі лес» Б. Сачанкі [10, с. 64].

Але прыкладна з сярэдзіны 1980-х гадоў у выніку крызісу савецкай ідэалогіі літаратура атрымлівае новы імпульс для свайго развіцця, які быў выкліканы ў першую чаргу ўздымам цікавасці да гістарычнага мінулага краіны; змены ў сацыяльным жыцці падштурхнулі пераўтварэнні і ў жыцці літаратурным. Гэтаму спадарожнічала з'яўленне ў друку шматлікіх гістарычных матэрыялаў і літаратурных твораў, якія раней не публікаваліся, часцей за ўсё з палітычных меркаванняў, назіраецца новая хваля цікавасці да падзей 1930-х гадоў і Другой сусветнай вайны, якія нярэдка падаюцца ў лагічнай сувязі з перадваенным перыядам («Знак бяды» (1982), «Сцюжа»

(1993) В. Быкава) і набываюць праекцыю ў гады наступныя («Бежанцы» (1990) В. Карамазава). Распачынаецца пераасэнсаванне як гісторыі самой па сабе, так і яе літаратурнага адлюстравання («Не ўсе мы згінем» (1996) І. Чыгрынава).

У беларускай літаратуры змяшчаецца фокус з паняцця «агульнасавецкае» на нацыянальнае, чалавек у першую чаргу выяўляецца як прадстаўнік нацыі, носьбіт не толькі агульначалавечых, але і нацыянальных каштоўнасцей. М. Тычына адзначыў, што «...са звыклага абазначэння “беларуская савецкая літаратура” выпаў чужы самой яе прыродзе эпітэт “савецкая” як прыкмета ідэалагічнай добранадзейнасці і партыйнай ангажаванасці» [223, с. 19]. Такім чынам, не зважаючы на пэўную інерцыйнасць, змяняюцца прыярытэты і мастацкія арыентацыі пісьменнікаў і адпаведна сістэма вобразаў, што найбольш выразна прасочваецца ў цыкле аповесцей І. Чыгрынава.

У гэтым мастацка-творчым напрамку стала натуральным з’яўленне шматлікіх крытычных прац па асэнсаванні як сучаснай літаратуры, так і літаратуры папярэдняга перыяду, у якіх адлюстроўваліся змены, што адбываліся ў мастацкім працэсе. І тое, што ў канцы 1970-х – пачатку 1980-х гадоў пошукі новых зместу і формы ў літаратуры адчувальна замарудзіліся, у рознай ступені адзначала і крытыка (В. Івашын, П. Дзюбайла, С. Андраюк, М. Тычына і інш.). Напрыклад, П. Дзюбайла пісаў: «Вызначаючы галоўную тэндэнцыю сучаснай прозы як імкненне да паглыбленага, філасофскага асэнсавання жыцця, да мастацкага ўвасаблення важных канцэптуальных ідэй, мы не можам сказаць, што гэта тэндэнцыя ўсёй без выключэння літаратуры. Часам яшчэ з’яўляюцца ілюстрацыйныя творы, якія не нясуць значнай арыгінальнай ідэі» [89, с. 81]. У кнізе М. Мушынскага «І нічога, апроч праўды: якой быць “Гісторыі беларускай літаратуры” (1990) разглядаюцца з новых пазіцый як само развіццё літаратурнага працэсу, так і яго адлюстраванне ў літаратуразнаўчых даследаваннях.

Між тым, у лепшых творах беларускай прозы пашыраны зварот да псіхалагізму як спосабу інтэрпрэтацыі матывацыі ўчынкаў персанажаў. Змяненне погляду на ролю і дзейнасць тых ці іншых удзельнікаў вайны, адлюстраваную перш за ўсё ў кнігах В. Быкава, усведамленне неадназначнасці сітуацый на фронце, і асабліва на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, зафіксавана ў змяненні светапогляду герояў. Яскравы прыклад – развіццё вобраза Дзяніса Зазыбы, героя твораў Івана Чыгрынава. У апошнім рамане пенталогіі «Не ўсе мы згінем», напісаным у 1990-я гады, Дзяніс ужо інакш ставіцца да людзей: «Зазыбу цяпер усё роўна як шкада было нават паліцэйскіх, таго ж Рамана Сёмачкіна, якога забілі партызаны, Брава-Жыватоўскага» [240, с. 61].

Увогуле ў творах беларускай літаратуры ў параўнанні з папярэднімі перыядамі назіраецца большая ашчаднасць да чалавечага жыцця і чалавечай асобы, выяўленая праз словы і думкі асобных персанажаў. Да разумення таго, што ашчадна трэба ставіцца да іншых людзей, наблізіўся ў свой час Сотнікаў, яшчэ больш выразна гэтая думка прагучала ў рамане В. Быкава «Кар'ер» (1987) у словах пападзі Бараноўскай: «Берагчы заўжды ўсіх трэба. Кожнаму адно жыццё адмерана» [52, с. 36] і ў развагах галоўнага героя твора Агеева: «Агееў ужо разумеў, што, хаця магчымасці чалавечага духу амаль бязмежныя, яны надта несуразмерныя са сціплымі сіламі цела. Цела заўжды надта слабое, асабліва для такой злыбеды, як вайна, яно больш за ўсё іншае задае чалавеку клопату і прычыняе пакут. Што ж, Кіслякоў не стрываў, і ўся ягоная віна ў тым, што ён не сумеў памерці ў час» [52, с. 284].

Пісьменнікі часта не спяшаюцца выносіць прысуд сваім героям, а пакідаюць чытачу самому вырашаць, як ставіцца да таго ці іншага персанажа. Такая мастацкая пазіцыя аўтараў у многім суадносіцца з канцэпцыяй чалавека ў Ф. М. Дастаеўскага. Як адзначае М. Тычына, «раскрыць свет

“няправага чалавека” – задача няпростая, бо віноўнікі чалавечых пакут – таксама людзі... Вялікая спакуса – апраўдаць Раскольнікава! Аднак Дастаеўскі апраўдвае не Раскольнікава-забойцу, а Раскольнікава, які пакаяўся ў здзейсненым, вярнуўся ва ўлонне чалавечага» [217, с. 148]. Паказальная ў гэтым плане ў дачыненні да Ф. М. Дастаеўскага агульнавядомая фраза «Калі Бога няма, то ўсё дазволена», якую лічаць цытатай з кнігі «Браты Карамазавы», аднак якая насамрэч з’яўляецца квінтэсенцыяй разважанняў Івана Карамазава і мае розныя інтэрпрэтацыі. Напрыклад, Ж.-П. Сартр лічыць, што ў такім выпадку чалавек мае права і свабоду выбару, але не мае апраўдання [194, с. 327].

У канцы XX стагоддзя, безумоўна, літаратурай быў назапашаны багаты творчы патэнцыял для шматаспектнага раскрыцця ўнутранага свету чалавека, эвалюцыі яго ўскладнення і ўзбагачэння. «Другая палова 1980-х – 1990-я гг. у літаратурным развіцці – гэта пара творчага разняволення асобы, адкрыцця слоўным мастацтвам новых тэм, жанраў, стылёва-выяўленчых кірункаў» [38, с. 236]. У літаратуры на тэму Другой сусветнай вайны абазначыліся новыя ракурсы ў інтэрпрэтацыі падзей і вобразаў іх удзельнікаў: пераасэнсаванне гісторыі і чалавека ў гісторыі, зварот да хрысціянскіх і гуманістычных каштоўнасцей чалавечага жыцця. Першаснае значэнне набываюць асабістыя якасці чалавека, а ўжо пасля – яго палітычная прыналежнасць.

З гэтага пункту гледжання развіццё італьянскай прозы апошніх гадоў на тэму Другой сусветнай вайны з’яўляецца ў большай меры паступальным, чым беларускай, тым не менш у ёй яскрава выявіліся дзве галоўныя тэндэнцыі – праблема пераасэнсавання мінулага з сучасных пазіцый і праблема памяці. Апошняя найбольш выразна сфармулявана Ф. Камонам у першым апавяданні кнігі «Не бачаныя ніколі сонца і месяц», дзе аўтар гаворыць пра ўдзельнікаў цяпер ужо далёкіх падзей:

«Калі яны памруць, гісторыі, чыімі апошнімі сведкамі яны з'яўляюцца, не будуць больш належаць нічыёй памяці і згінуць у нябыце, змяшаюцца з іншымі гісторыямі, што ляжаць там, закранутыя тленам стагоддзяў...» [260, p. 7]. І вынікам гэтага станецца тое, што наступныя пакаленні не толькі не будуць мець уяўлення пра падзеі мінулай вайны, але і не будуць ведаць пра час, у які яна адбывалася: «Калі гістарычныя трагедыі блытаюцца адна з другой, і хлопчык, датуючы нейкую падзею падчас апытання ў школе, памыляецца на тры стагоддзі, то гэта значыць, што боль прыціх: адбываліся гэтыя падзеі ці не – ужо не мае значэння» [260, p. 8]. Праблема памяці выразна паўстае і ў беларускай («Хроніка дзетдомаўскага сада» (1987) В. Казько), і ў іншых еўрапейскіх літаратурах. На ўзаемасувязь мінулага і сучаснага звярталі ўвагу і мысліцелі XX стагоддзя, напрыклад, Х. Артэга-і-Гасэт падкрэсліваў: «Чалавек, што захаваў веру ў мінулае, не баіцца будучыні: ён цвёрда ўпэўнены, што знойдзе ў мінулым тактыку, шлях, метад, якія могуць утрымацца ў праблематычным заўтра» [182, с. 434].

Увогуле, пасля авангардных 1960-х гадоў у італьянскай прозе пачатку 1980-х гадоў лічыцца вяртаннем да «класічнага» стылю пісьма, як адзначае Дж. Спанялецi, «сучаснага гістарычнага дакумента... як у найлепшыя часы трыццатых і саракавых. Ніхто не асмеліцца гаварыць пра нейкі новы рэалізм параўнальны з тыповым рэалізмам пасляваеннага перыяду, але, безумоўна... рэалізм тэм патрабуе сам па сабе рэалістычнага пісьма» [297, p. 851]. Пры гэтым вяртаецца і значэнне аўтабіяграфічнага характару апавядання, што назіраецца і ў беларускай літаратуры, асабліва ў сувязі з публікацыямі дзённікаў і аўтабіяграфічных твораў, прысвечаных знаходжанню ў лагерах ГУЛАГу.

У выніку завастраецца праблема чалавека як носьбіта і захавальніка памяці, абаронца справядлівасці; праблема гіста-

рычнай амністыі і паразумення паміж прадстаўнікамі былых народаў-ворагаў і прадстаўнікамі розных варожых лагераў. Лёс уласнага народа і ўзаемадачыненне паміж народамі сталі галоўнымі тэмамі раманаў «Бежанцы» В. Карамазава і «Калі, як не зараз?» (1981) П. Леві. Персанажы гэтых твораў вымушаны выбірацца ў дарогу, станавіцца бежанцамі. Галоўнымі героямі рамана П. Леві «Калі, як не зараз?» з’яўляюцца савецкія і польскія яўрэі. Цікавая асаблівасць рамана ў тым, што асноўнае дзеянне адбываецца на тэрыторыі нашай краіны. Галоўны герой Мендэль праходзіць доўгі шлях, які пачынаецца з-пад Бранску і пралягае праз Беларусь, дзе Мендэль далучаецца да невялікай групы яўрэяў, удзельнікаў партызанскай барацьбы, далей вядзе яго ў Польшчу, Германію, Аўстрыю і завяршаецца ў Італіі. У рамане прысутнічаюць такія мясцовыя рэаліі, як газета «Новая Беларусь», што выходзіла на беларускай мове ў Мінску ў гады вайны, згадваецца косаўскае гета, хоць пра саміх беларусаў размова не ідзе. Гэты твор навеяны эмацыянальна балючым распаведам аднаго з сяброў пісьменніка, пра што гаворыць сам аўтар, у ім нават прысутнічаюць некаторыя рэальныя асобы, што сведчыць не толькі пра падобнасць чалавечых лёсаў у перыяд Другой сусветнай вайны, але і агульнасць чалавечых пошукаў ва ўсе часы. Міжволі ўспамінаецца біблейскі матыў пра сыход яўрэяў на чале з Майсеем з Егіпта ў зямлю Ханаанскую, якую Бог завяшчаў Абраму і Іакаву, іх доўгія саракагадовыя блуканні па Аравійскай пустыні, пакуты, сумненні і, нарэшце, завяршэнне шляху ў запаветнай зямлі. Гэта інтэртэкстуальная сувязь твора з Бібліяй выразна прасочваецца ў кнізе П. Леві. Героі італьянскага пісьменніка пакутуюць ад нацыстаў, але не толькі ад іх. Стагоддзямі гнаныя, яны ні ад каго не чакаюць падтрымкі. Некаторыя з іх выйшлі жывымі з гета, а некаторыя зведалі і сталінскі лагер. Амаль усе страцілі дом і родных, але галоўнае тое, што яны адчуваюць сябе чужымі. Менавіта гэта адчуванне і штурхае іх у дарогу.

П. Леві, сцвярджаючы роўнасць усіх нацый, гаворыць вуснамі ўзбека, якога сустрэлі напачатку блуканняў Мендэль і Леанід: «Яўрэі, праўда? Мне ўсё роўна, яўрэі, рускія, туркі, немцы... Адзін не з'ядае больш за другога, пакуль жыве, і не смярдзіць больш за іншага, калі памірае» [275, p. 15]. І вяртаецца да гэтай тэмы ў развагах сваіх герояў пра немцаў: «Немцы думаюць, што яўрэй варты меней за рускага і рускі меней за ангельца, і што немец варты больш за ўсіх; думаюць таксама, што калі адзін чалавек больш варты, чым другі, то мае права зрабіць з ім усё, што хоча, нават зрабіць рабом ці забіць» [275, p. 15]. Бежанства для герояў П. Леві – гэта магчымасць нарэшце знайсці тое месца, дзе яны маглі б адчуваць сябе ў бяспецы.

Героі В. Карамазава ўспрымаюць бежанства як трагедыю народа, які знайшоў сваю зямлю, але вымушаны яе пакідаць. Галава сям'і Падабедаў Захар «бачыў, як адна людская хваля кацілася ад мірнага берага на захад, дзе вораг, яму насустрач, у агонь, і як другая хваля ад таго самага берага рушыла на ўсход. Абедзве дарогі не новыя, пратораныя немаведама ад якіх часоў, ад варагаў ці крыжаносцаў ...А яшчэ раней быў Майсей, той самы, біблейскі, які выводзіў яўрэяў з егіпецкага палону. Зноў – бежанства. А было, можа, і да Майсея?..» [124, с. 70]. Дарэчы, вобраз Майсея – таксама адзін з самых распаўсюджаных у ваеннай прозе.

І ў беларускай, і ў італьянскай літаратурах назіраецца наступная агульная тэндэнцыя: у асноўным праблемы вайны закранаюць адны і тыя ж пісьменнікі, інакш кажучы працягваюць развіваць гэту тэму А. Адамовіч, В. Быкаў, І. Навуменка, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, П. Леві, Н. Рэвэлі, М. Спінэла і інш. Напрыклад, П. Леві вяртаецца непасрэдна да праблематыкі свайго першага рамана «Ці гэта чалавек?..» у новай кнізе «Тапельцы і ўратаваныя», як дарэчы і А. Адамовіч, што пераглядае сваё мінулае ў шырокім гістарычным кантэксце ў кні-

зе «Vixi» (1993). Абедзве гэтыя кнігі носяць аўтабіяграфічны характар і выяўляюць сучаснае стаўленне да ваенных падзей.

Вельмі рэдкія выпадкі, калі новыя аўтары пачынаюць пісаць пра вайну, як напрыклад, Фердынанда Камон (Ferdinando Camon, 1935 г. н.) «Не ўбачаныя ніколі сонца і месяц» («Mai visti sole e luna») і Дыега Навэлі (Diego Novelli, 1931 г. н.) «Скрыжаванне Сэмпьёнэ» («Il crocevia del Sempione»), абодва творы выйшлі ў 1994 годзе; Эдуарда Анжаліна (Edoardo Angelino, 1950 г. н.) стварыў сваю першую кнігу «Мангольская зіма» («L'inverno dei mongoli», 1995) таксама з выкарыстаннем інфармацыі пра вайну. Аднак часцей да 1940-х гадоў аўтары звяртаюцца або як да завязкі дзеяння твора (П. Вальпоні (Paolo Volponi, 1924–1994) «Дарога на Рым» («La strada per Roma», 1991)) альбо як да аднаго з кульмінацыйных момантаў кнігі (В. Карамазаў «Бежанцы», 1993). Маладое пакаленне пісьменнікаў цікавіцца іншай тэматыкай, у асноўным праблемамі сучаснасці ці далёкай гісторыяй. Аднак і тут ёсць выключэнне. Карла Лукарэлі (Carlo Luccarelli, 1960 г. н.) выбірае для сваіх дэтэктыўных раманаў менавіта падзеі перыяду Другой сусветнай вайны або перадваеннага часу (напрыклад, у кнізе «Трэль д'ябла» («Il trillo del diablo», 1998). Цікавы сюжэтны ход выкарыстаў Антонія Табукі (Antonio Tabucchi, 1943–2012) у апавяданні «Цягнікі, што ідуць у Мадрас» («I treni che vanno a Madras», 1985), у якім закранае праблему памяці і пакарання ахоўніка нацысцкага лагера праз шмат гадоў пасля ваенных падзей.

Не толькі для Беларусі, але і для Італіі кожная гадавіна заканчэння Другой сусветнай вайны – значная дата, якая дае падставы яшчэ раз азірнуцца назад і зноў з розных ракурсаў ацаніць наступствы мінулага, пра што сведчаць шматлікія артыкулы ў часопісах і газетах (у юбілейныя гады гэтай падзеі прысвячаліся цэлыя нумары). Варта таксама згадаць, што кожны год 25 красавіка ў Італіі адзначаецца Дзень вызва-

лення ад нямецкіх захопнікаў, які не з'яўляецца працоўным. Вялікую ўвагу ў канцы XX стагоддзя выклікалі гістарычна-дакументальныя кнігі такога шырокавядомага ў Італіі аўтара, як Джорджыа Бока (Giorgio Bocca, 1920–2011), які плённа працаваў у публіцыстыцы, пачынаючы з канца шасцідзясятых (ім створаны такія кнігі, як «Гісторыя Італіі ў фашысцкай вайне. 1940–1943» («Storia d'Italia nella guerra fascista. 1940–1943», 1969), «Рэспубліка Мусаліні» («La Repubblica di Mussolini», 1977), «Народная гісторыя Супраціўлення» («Storia popolare della Resistenza», 1978) і інш.). Так, у прадмове да перавыдання ў 1995 годзе сваёй кнігі 1966 года «Гісторыя партызанскай вайны ў Італіі. Верасень 1943 – май 1945» («Storia dell'Italia partigiana. Settembre 1943 – Maggio 1945») ён піша: «Мінула пяцьдзесят гадоў. Ці дастаткова гэта, каб вызначыць месца партызанскай вайны ў гісторыі народа?... Як факт сам па сабе яна можа быць вызначана наступным чынам: самая вялікая народная італьянская вайна як вызваліцельная... так і грамадзянская» [255, p. XI].

Той факт, што новая хваля цікавасці да падзей Другой сусветнай вайны была выклікана менавіта новымі гістарычнымі абставінамі, пацвярджалі і самі італьянскія пісьменнікі, напрыклад, Нута Рэвэлі ў кнізе «Прапаўшы без вестак з Марбурга» («Il disperso di Marburg», 1994) пісаў пра гэта так: «Тым, што выклікала маю цікавасць, была гульня памяці, кантраст паміж маёй праўдай і праўдай іншых. Вайна, перагледжаная пяцьдзесят гадоў пасля, вось якая тэма атрымлівала форму» [292, p. 15].

У творах беларускай літаратуры факты пра вайну, якія сталі вядомы толькі цяпер, але нейкім чынам уключаныя ў сюжэт твора, міжволі скажаюць погляды герояў, іх паводзіны. Гэта асабліва адчуваецца ў апошніх раманах пенталогіі І. Чыгрынава, напрыклад, у рамане «Не ўсе мы згінем»: «Ніякая ўлада не мае права заплюшчваць вочы на звярыныя ўчынкі

людзей» [231, с. 43], а таксама ў некаторых творах В. Быкава, напрыклад, у аповесці «Пакахай мяне, салдацік»: «Здаецца, аднак, толькі пасля вайны з твайго жыцця могуць зрабіць пекла. Калі не захочацца і жыць» [56, с. 61], пакольκі думкі і меркаванні, якія належаць больш позняму часу, накладаюцца на ўнутраны стан героя ў момант дзеяння твора, што парушае яго лагічную форму, фармальна не апраўдана. У выніку адбываецца тое, на што звяртае ўвагу М. Тычына: «Публіцыстычны, выкрывальны пафас літаратуры ў адносінах да тых з'яў нашага агульнага мінулага, у якіх мы сёння бачым ледзь не галоўныя прычыны духоўнага заняпаду савецкага грамадства, часта пераважае над мастацкасцю ў многіх творах на гэтую тэматыку» [217, с. 18].

Асучасненасць мастацкіх тэкстаў відавочна і ў італьянскай літаратуры, напрыклад, у кнізе Джампаола Панса (Giampaolo Pansa, 1935–2020) «Але каханне – не» («Ma l'amore no», 1995): «Гэта быў дзіўны камунізм... Бухгалтар быў супраць Гітлера і Мусаліні, і тут усё было нармальна. Аднак і тут пачыналася дзівацтва, ён быў і супраць Сталіна, які для дзядзькі Джузэпэ быў амаль што Богам. Ён патлумачыў, што Сталін быў дыктатарам і што не варта лічыць яго сапраўдным камуністам, бо сапраўдных камуністаў ён часткова пазабіваў, часткова адправіў у Сібір» [286, p. 26].

У ваеннай прозе, як ніякай іншай, узнімаецца праблема смерці і адпаведна праблема сэнсу жыцця, што само па сабе надае экзістэнцыяльную афарбоўку мастацкаму падыходу ў асэнсаванні прыроды чалавека, аднак менавіта экзістэнцыяльныя праблемы вызначаюць сутнасць творчага метаду ў раскрыцці тэмы ў апошнія гады XX стагоддзя, і не толькі ў самой мастацкай літаратуры, але і ў крытыцы яму таксама надаецца больш увагі, асабліва ў тыпалагічным плане. Беларускія аўтары, пачынаючы з канца 1950-х гадоў, выкарыстоўваюць ваенны фон для вырашэння глабальных праблем чалавечага

існавання, інакш кажучы, мэтай ваеннай літаратуры становіцца не толькі праўдзівае адлюстраванне самой вайны, але і тое, як трансфармуецца свядомасць, псіхіка чалавека ў такіх крытычных умовах. У гэтым плане ваенная проза судакранаецца з філасофіяй экзістэнцыялізму і менавіта на ваенным матэрыяле вырашае экзістэнцыяльныя пытанні. Беларускае літаратуразнаўства канца XX стагоддзя стала надаваць больш пільную ўвагу асвятленню гэтай праблемы, якую распрацоўваў у межах трохкутніка Ф.М. Дастаеўскі – экзістэнцыялізм – сучасная літаратура (культура), як, напрыклад, у артыкулах Е. Лявонавай «Творчасць В. Быкава і Ж.-П. Сартра праз прызму традыцыі Дастаеўскага: філасофска-эстэтычныя перасячэнні» [151], Н. Капшай «Чалавек за "мурам" і "сцяной": параўнальнае вывучэнне твораў Ж.-П. Сартра і В. Быкава» [123], У. Конана «Праблема дабра і зла ў творчасці Васіля Быкава: праект экзістэнцыяльнага аналізу» [132] і інш. Аднак яшчэ А. Адамовіч адзначыў: «"Стрэсавая" сітуацыя, сітуацыя выбару, філасофская праблема "свабоды волі"… усвядомлена гэтая тэма, праблема як літаратурная, мастацкая ўсёй сусветнай літаратуры пад вельмі моцным уздзеяннем генія Дастаеўскага» [14, с. 452].

У італьянскай прозе і літаратуразнаўстве другой паловы XX стагоддзя таксама назіраецца трывалая цікавасць як да асобы Ф.М. Дастаеўскага, так і да экзістэнцыяльных пытанняў яго творчасці, напрыклад, у такіх вядомых працах, як «Дастаеўскі і злачынства» («Dostoevskij e il delitto», 1946) Э. Гаспарыні (Evelino Gasparini, 1900–1982), «Крызіс чалавека: думкі Дастаеўскага» («La crisi dell'uomo: il pensiero di Dostoevskij», 1948) філосафа Рэма Кантоні і іншых. У 1970 годзе выходзіць раман Гвіда П'ёвэнэ (Guido Piovene, 1907–1974) «Халодныя зоркі» («Le stelle fredde»), дзе адным з галоўных герояў з'яўляецца сам рускі класік. Імёны Ф.М. Дастаеўскага і Ж.-П. Сартра (у шэрагу іншых, не менш значных пісьменні-

каў, чыя творчасць аказала ўплыў на еўрапейскую літаратуру XX стагоддзя) неаднаразова сустракаюцца і на старонках кнігі Джачынта Спанялеці «Гісторыя італьянскай літаратуры XX стагоддзя» (1994), пры гэтым варта адзначыць, што ў выпадку А. Маравія гаворка ідзе пра «літаратурны экзістэнцыялізм», прадвешчаны яго раманам «Абыякавыя» («Gli indifferenti», 1929) [297, p. 420].

Працягваючы ранейшыя даследаванні, А. Станюта ў доктарскай дысертацыі «Чалавек у свеце Дастаеўскага: своеасаблівасць этычнай пазіцыі пісьменніка» (1999) прысвяціў асобныя раздзелы ўплыву рускага класіка як на А. Камю, так і на беларускую літаратуру, у прыватнасці на прозу В. Быкава і на літаратуразнаўчыя працы А. Адамовіча. На іх матэрыяле аўтар паказвае, «як ідэі і вобразы вялікага рускага раманіста могуць станавіцца часткаю жыццёвага вопыту пісьменніка XX стагоддзя – і на гэтым “экзістэнцыяльным” узроўні класічная літаратура ўжо ператвараецца ў пэўную грань духоўнага вопыту сучаснай асобы» [201, с. 31]. Мае рацыю расійскі даследчык Ф. Дастаеўскага В. Дняпроў: «Героі Дастаеўскага ў нечым зусім не другасным бліжэй да людзей нашага, а не свайго стагоддзя. Яго чалавек – пераходны тып, які сёння атрымаў вялізнае распаўсюджванне. Ён блізкі нашаму часу таксама залішнім патэнцыялам складанасці. Гэты чалавек здольны ў адных стасунках рушыцца далёка наперад і ўзвысіцца, а ў другіх – заставацца ў закаснелым, мёртвым і злым мінулым» [94, с. 372].

Разважанні на тэму жыцця і смерці можна сустрэць ці не ў кожнага пісьменніка, аднак усё часцей агучваецца праблема стаўлення чалавека да жыцця і смерці і праз яе вырашэнне сцвярджаецца ўзвышэнне чалавечага духу над акалічнасцямі. Так, у Ф. Камона гэта адбываецца наступным чынам: «Існуюць моманты, калі не столькі адыходзіць само жыццё, колькі жаданне жыць: смерць заўсёды хоча прыйсці, але прыходзіць

толькі ў двух умовах: або ты яе клічаш, або адгукаешся на яе голас» [260, p. 48]. У аповесці «Пакахай мяне, салдацік» В. Быкаў гаворыць, што смерць яшчэ не самае страшнае і што вайна ў гэтым сэнсе дае вялікі вопыт: «Усё ж вайна для нас вялікая школа, я шмат што спасціг на вайне. Нават і ў яе апошнія дні. Найперш тое, што нічога не трэба баяцца. На вайне табе нічога не зробяць, апроч як заб'юць ці параняць. Тое і другое надта ўжо проста, амаль прымітыўна» [56, с. 61].

Такім чынам, у канцы XX стагоддзя ўвасабленне ваеннай тэматыкі набывае іншыя сэнсавыя вектары. Вайна разглядаецца з адлегласці мінулых гадоў, а чалавек – у святле ведання таго, што адбылося пасля. І хоць іншым разам гэта веданне шкодзіць рэалістычнай праўдзе пра вайну, цалкам пазбегнуць яго немагчыма. Як больш сталыя, так і маладзейшыя аўтары, якія звярталіся да ваенных падзей, разглядалі іх у кантэксце гістарычнага часу. Чалавек у іх творах паўстае як носьбіт памяці і вопыту, трагічным чынам уплецены ў жудасныя, незалежныя ад яго волі падзеі.

### 4.2. «Свае і чужынцы» ў літаратуры канца XX стагоддзя

Агульная тэндэнцыя беларускай і італьянскай літаратур да пераасэнсавання ваенных падзей і адлюстравання шматпланавасці светапогляду герояў выявілася ў імкненні зразумець матывацыю тых суайчыннікаў, што знаходзіліся на супрацьлеглым баку барацьбы. Ізноў узнімаецца тэма калабарацыянізму, але знікае адназначнасць у падыходзе да яе адлюстравання. Гэта выявілася ў публікацыі кніг Кастуся Акулы, Масея Сяднёва, шматлікіх матэрыялаў, звязаных з беларускай эміграцыяй. У Італіі выходзіць кніга былога салдата аднаго з батальёнаў Чорных кашуль Карла Мадзанціні (Carlo Mazzantini, 1925–2006) «У пошуках прыгожай смерці» («A cercar la bella morte», 1986), перавыдаюцца ўспаміны Джузэпэ Берта (Giuseppe Berto, 1914–1978) «Вайна ў чорнай кашулі»

(«Guerra in camicia nera», 1955, 1985) і Джозэ Рыманэлі (Giose Rimanelli, 1925–2018) «Выстрал у голуба» («Tiro al piccione», 1953, 1991). Неаднаразова паўтараецца думка, што нацыянальны калабаранцкі рух не быў адназначным, бо людзі кіраваліся рознымі памкненнямі: адны – шчырым патрыятызмам, а іншыя – адкрытым прыстасавальніцтвам. І ў беларускай, і ў італьянскай літаратурах усё часцей сустракаецца погляд на Другую сусветную вайну як на вайну грамадзянскую, так М. Тычына адзначае: «На беларускай зямлі вайна падзяліла народ на дзве часткі – партызанаў і паліцаяў, “народных мсціўцаў” і “атрады самаахловы” і, па сутнасці, ператварылася ў грамадзянскую, братазабойчую» [223, с. 18]. На такі ж самы аспект кнігі К. Мадзанціні звяртае ўвагу ў анатацыі Дж. Б. Гуэры: «У гэтых штодзённых варунках, дзе не было ні добрых, ні дрэнных, Мадзанціні дасягае такой драматычнасці і верагоднасці дакумента-сведчання, якія прызначаны пакінуць след яшчэ і ў гісторыяграфіі. Сапраўды, той гістарычны перагляд фашысцкага дваццацігоддзя, што адбываецца ў апошнія гады, нават не закранае перыяду Грамадзянскай вайны, у якой дабро і добрыя працягваюць знаходзіцца па адзін бок, а ўсё зло і ўсе дрэнныя – па другі. Магчыма, была патрэба ў жорсткай паэтычнасці гэтага рамана, каб нагадаць аб нацыянальнай гістарычнай несвядомасці» [279, р. 320]. У 1995 годзе нават выходзіць публіцыстычная кніга журналіста Масіма Рэндзіна (Massimo Rendina, 1920–2015) «Італія 1943–1945» з падзагалоўкам «Грамадзянская вайна або Супраціўленне?» («Italia 1943–45. Guerra civile o Resistenza?»).

У выніку такога падыходу ў літаратурных творах адлюстравалася ўскладненне ўзаемаадносін паміж прадстаўнікамі аднаго лагера, што асабліва заўважна ў творах В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго» (1992), І. Чыгрынава «Вяртанне да віны» (1993) і «Не ўсе мы згінем» (1996): «Зразумела, што за гады акупацыі з’явілася нямала ахвотнікаў папрацаваць на

чужынцаў і сярод мясцовых аматараў паздзеквацца з жывога чалавека, з яго годнасці і светапогляду...» [240, с. 70], але сярод герояў І. Чыгрынава, што дзейнічалі на баку немцаў, на думку аўтара, былі і сапраўдныя патрыёты Беларусі, як Алесь Астрашаб, і шчырыя служкі фашыстаў, як бургамістр Ясюк са Стоўбцаў.

Яскравым прыкладам прыстасавальніцтва становяцца паводзіны аптэкара Дэрэджыбуса з аповесці Дж. Панса «Але каханне – не». Нічым не прыкметны ў мірны час, з прыходам немцаў ён робіцца іх актыўным памагатым, сцвярджаючы такім чынам уласную значнасць. У той жа час галоўны малады герой рамана К. Мадзанціні «У пошуках прыгожай смерці», як і герой «Змагарных дарог» К. Акулы, які не валодае дастатковым жыццёвым вопытам, трапляе да немцаў у пошуках лепшай долі для сваёй Радзімы і свайго месца ў жыцці.

Безумоўна, многія з'явы і падзеі Другой сусветнай вайны, асабліва сутыкненні паміж прадстаўнікамі аднаго народа, бяруць вытокі ў перадваенныя гады. А. Адамовіч, напрыклад, падкрэслівае, што «ў галовах нашага насельніцтва панаваў дзікі кавардак ад усіх падзей. Я ў вайну не раз чуў, як заводскія паліцаі, ясна, што ворагі савецкай улады, з гарачлівасцю даваенных актывістаў лаялі "кулакоў", "куркулёў" вясковых. Дзе, як не ў падвалах НКУС, ішлі рэпетыцыі, браліся ўрокі таго, што вычваралі потым "нашы людзі" ўжо ў падвалах нямецкіх "службаў бяспекі", СД і гестапа?» [21, с. 17]. Гэтыя матывы паглыбляюцца і ў творчасці В. Быкава, напрыклад, у аповесцях і раманах «Знак бяды», «Кар'ер» (1986), «У тумане» (1987), «Сцюжа». Падзеі аповесці «Аблава» (1989) адбываюцца ў 1930-я гады і раскрываюць прычыну трагічнасці многіх чалавечых лёсаў у час вайны. Д. Бугаёў адзначае: «У "Аблаве" ў балотную твань заганяюць Роўбу свае ж аднавяскоўцы. Так нараджаецца адчуванне, што бесчалавечнасць, якую насаджала сталіншчына, – гэта той жа фашызм» [45, с. 218].

Бязлітаснасць і жорсткасць у адносінах да чалавечага жыцця як з боку ворага, так і суайчыннікаў выклікае ў літаратараў адназначна негатыўнае стаўленне. Варта падкрэсліць, што і раней звярталася ўвага на не заўсёды адпаведныя паводзіны партызан, як, напрыклад, у рамане І. Навуменкі «Сорак трэці» (1973) – у эпізодзе забойства нявіннага Ёсіпа Кавенькі: «Але вось выпадак, які разумнымі прычынамі не вытлумачыш. Ёсіп Кавенька... паехаў у дальнія сёлы мяняць соль на бульбу... Каня ў Кавенькі няма, папрасіў у чалавека, які, кажуць, быў паліцэйскім. Адтуль, з балотных сёл, Ёсіпа прывозяць мёртвага... Дык што ж, сляпыя там, у лесе? Не могуць разабрацца, хто свой, хто чужы?» [172, с. 95]. Пісьменнікі завастраюць увагу на адносінах суб'ект – суб'ект і імкнуцца абгрунтаваць вытокі супярэчлівых і не заўсёды сумленных стасункаў.

Падкрэсліваецца неадназначнасць паводзін партызан у аповесці «Сцюжа» В. Быкава: забойства дзядзькі, што выпадкова натрапіў на лагер [58, с. 16], расстрэл настаўнікаў за тое, што не давалі застрэліць немца [58, с. 85]. У рамане І. Чыгрынава «Не ўсе мы згінем» распавядаецца гісторыя пра лётчыка, які адмовіўся бамбіць лагер ваеннапалонных, каб не знішчыць нявінных людзей, і пасадзіў свой самалёт на тэрыторыі немцаў. Аднак гэты ўчынак іншымі ўспрымаецца як здрада. Генерал Зеленадольскі абгрунтоўвае сітуацыю наступным чынам: «Яму няўцям нават, што заданне, якое атрымаў ад камандавання, заключалася... Трэба было знішчыць нашых патэнцыяльных ворагаў!» [240, с. 128]. Азевіч з аповесці «Сцюжа» тлумачыць падобныя выпадкі на вайне наступным чынам: «Як зразумець цяпер, хто вінаваты. Вінаваты вайна і людская жорсткасць, нянавісць і непрымірымасць, што раздзіралі людскія душы. Стралялі, нішчылі, білі – не дужа разбіраючыся, не надта мяркуючы-судзячы – абы больш крыві – і сваёй і варожай» [58, с. 87]. Безумоўна, прага крыві была не самамэтай, а вынікам тых стасункаў, што скláліся паміж

людзьмі ў перадваенны час, таму даследчык творчасці В. Быкава І. Афанасьеў падкрэслівае: «В. Быкаў паслядоўна аддае перавагу канфліктам "сваіх" са "сваімі"... бо менавіта тут пытанне "быць ці не быць" вырашаецца ў абсалютных межах чалавечай, нацыянальнай экзістэнцыі» [34, с. 201]. Але перш чым развязаць канфлікт, трэба вызначыць, хто свой, а хто чужы, і ці існуе насамрэч гэты падзел. Тым не менш, не зважаючы на жорсткія абставіны ваенных гадоў, людзі не гублялі здольнасці быць міласэрнымі адзін да аднаго, не гублялі здольнасці дараваць, што і засведчыла літаратура. Яскравы прыклад – сітуацыя, калі Азевічу дапамагае адна з тых жанчын, у якіх ён раней у часы калектывізацыі разбіў жорны.

Такім чынам, паняцце «вораг» не адмаўляе паняцця «чалавек». Пра гэта сведчаць і развагі галоўнага героя К. Мадзанціні, маладога фашыста, калі ў размове з простай жанчынай яму адкрываецца адваротны бок таго, што адбывалася ў той час: «Хто мог падазраваць, што "падлюгі і здраднікі", тыя, што "прадаліся ворагу", маглі мець рацыю, адзіную рацыю, каб не заслугоўваць таго лёсу, што ім выпаў?» [279, p. 109]. Гэта сутыкненне людзей з супрацьлеглымі поглядамі і пазіцыямі, у выніку якога герой змяняе сваё стаўленне да антаганістаў, з'яўляецца адным з характэрных творчых падыходаў як у беларускай, так і ў італьянскай ваеннай прозе канца ХХ стагоддзя.

Працягам тэмы сваіх і чужых лагічна паўстае праблема штодзённых дачыненняў людзей, іх звычайнага жыцця ў незвычайных абставінах. Кніга Дж. Панса «Але каханне – не» мае наступны падзагаловак: «Гісторыя простых людзей у Італіі часоў грамадзянскай вайны». Аўтар услед за гісторыкамі ўзнімае пытанне: «грамадзянская вайна ці Супраціўленне?», і гэта пытанне актуальна не толькі для італьянскай літаратуры. Пошук яго вырашэння прымусіў многіх пісьменнікаў больш пільна прыглядзецца да жыцця цывільнага насельніцтва ў час вайны. Д. Бугаёў адзначае, што, напрыклад, у

«Знаку бяды» В. Быкава сама вайна паказана трохі іначай, чым у ранейшых творах пісьменніка, бо цяпер у цэнтры аўтарскай увагі знаходзяцца не салдаты ці партызаны, а мірныя жыхары, «якія па даўніх агульнапрынятых уяўленнях увогуле не павінны былі ўдзельнічаць у вайне» [44, с. 167]. Падобны зварот да лёсу мірнага насельніцтва абазначыўся яшчэ ў творах К. Чорнага і набыў шматаспектнае выяўленне ў творчасці І. Пташнікава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, І. Шамякіна і іншых аўтараў. Пісьменнікі адзначалі ў першую чаргу безабароннасць цывільных грамадзян, у сувязі з чым неаднаразова звярталася ўвага на не заўсёды абачлівую дзейнасць партызанскіх атрадаў, урэшце сам В. Быкаў падкрэсліваў адказнасць партызан перад насельніцтвам, варта згадаць гісторыю з Ляховічам і з камбрыгам Прэабражэнскім з аповесці «Круглянскі мост».

У памяці героя апавядання А. Жука «Партызан» (1996) засталіся яскравыя моманты, што не маюць непасрэднага дачынення да ваенных дзеянняў: «Калі Антось успамінае пра гора, пра вайну, успамінаюцца чамусьці тыя пялёначкі, а не катаванні ў падвалах СД. І нешта глуха і глыбока пачынала шчымець у сэрцы...» [101, с. 18]. Асабліва балюча яму згадваць адзін эпізод, пра які нагадвае былы падпалкоўнік Васіль Андрэевіч, што разам з ім партызаніў: «І маленькае дзіця, якое сядзела пасаджанае на крывую, пахілую над вадой алешыну. Яно ўжо пасінела ад холаду, трымалася счарнелымі ручкамі за дрэва і нават не ўсхліпвала... Амаль да самае блізкае вады звісала развязаная абора лапціка, да тае вады, куды ўпадзе дзіця... А яны ішлі міма, міма, толькі шорхала аб боты ледзяная шуга» [101, с. 132]. Няёмкасць ад пачуцця віны, што ўзнімаецца разам з гэтым успамінам, не знікла з цягам часу, менавіта таму прапанова падпалкоўніка ўзяць у рукі аўтамат выклікае ў Антося адмоўную рэакцыю.

Тэма жыцця мірнага насельніцтва, жанчын і дзяцей падчас вайны і раней уздымалася ў італьянскай літаратуры,

напрыклад у раманах А. Маравія «Чачара» або Э. Марантэ «Гісторыя». Мірныя людзі – гэта найпершыя ахвяры дзеянняў вайскоўцаў, на што ўсё часцей звяртаецца ўвага аўтараў. Так, адным з важных эпізодаў рамана Дж. Панса «Але каханне – не» стала пакаранне дзесяці бязвінных людзей за смерць аднаго немца, забітага партызанамі ў цэнтры паселішча. Італьянскі пісьменнік таксама закранае праблему безадказнасці партызан, бо было вядома загаддзя, што чакае мірных жыхароў.

У той жа час падкрэсліваецца, што самі простыя людзі, заклапочаныя турботамі пра хлеб надзённы, не маюць патрэбы ваяваць адзін з адным, пра гэта Ф. Камон піша наступным чынам: «Ніколі не здаралася, каб нашыя сяляне ваявалі са славенскімі ці рускімі сялянамі, вёскі трываюць адна адну, бо яны стомлены працай, у той час як гарады акамулююць лютасць, што не траціцца ў рабоце, і таму маюць патрэбу ў войнах» [260, p. 39]. І развіваючы гэтую думку, пісьменнік прыводзіць прыклад сялянскай сям'і, якая хавае англійскага лётчыка: «Сын Ландзэкі знаходзіўся ў палоне ў Афрыцы... і яны былі ўпэўнены, што калі будуць добра абыходзіцца з англійскім лётчыкам, то гэтаксама добра ангельцы будуць абыходзіцца з італьянскім хлопцам: бо вайна адбываецца на пярэдняй лініі пад наглядам афіцэраў, але ззаду, там, дзе ніхто не бачыць, усе мы браты» [260, p. 13].

Праблема паўсядзённага жыцця звязана з тэмай ваеннага дзяцінства, распачатай у беларускай літаратуры раманамі Кузьмы Чорнага і працягнута творамі В. Адамчыка «Салодкія яблыкі» (1965), І. Пташнікава «Лонва» (1966), Б. Сачанкі «Апошнія і першыя» (1968) і многімі іншымі. Дзіцячыя ўражанні пра вайну не пакідаюць у спакоі героя І. Шамякіна з аповесці «Вазьму твой боль» (1978), не зважаючы на тое, што мінула ўжо шмат гадоў. П. Васючэнка адзначаў: «У літаратуры гэтая тэма прачытваецца як адна з самых трагічных, яна – у эпіцэнтры твораў, прызначэнне якіх – не "гераізаваць" агрэ-

сіўны, “пераможны” пачатак у вайне, а выяўляць яе ахвярныя, пакутныя моманты, даводзіць бессэнсоўнасць самой вайны» [64, с. 3]. Асабліва моцна тэма ваеннага дзяцінства прагучала ў аповесці В. Казько «Суд у Слабадзе» (1978). Герой кнігі падлетак Колька Лецечка глядзіць на свет вачыма чалавека, які гэтаму свету болей не належыць, таму і ставіцца да ўсяго надзвычай мудра. Нездарма Л. Корань (Сінькова) гаворыць пра В. Казько наступнае: «Яго можна было б параўнаць з Кафкам, з нашым Чорным і ментальна нашым – тужліва-траўмаваным – Дастаеўскім» [135, с. 13], падкрэсліваючы гэтым экзістэнцыяльную роднаснасць светапоглядаў гэтых пісьменнікаў і іх разумення чалавека.

Своеасаблівым падагульненнем творчых пошукаў у распрацоўцы тэмы вайны В. Казько стаў раман «Хроніка дзетдомаўскага саду» (1987). І ў аповесці, і ў рамане прысутнічае вобраз самотнага хлопчыка, беззабароннага дзіцяці, які рухаецца то па дарозе, поўнай трупаў, то па тунэлі. І ніхто не можа яго абараніць, як не абаранілі дзіця партызаны з апавядання А. Жука.

Менавіта таму, што ў сваёй безабароннасці дзеці адчуваюць навакольны свет найбольш абвострана, а дзіцячыя ўражанні застаюцца самымі моцнымі, пісьменнікі працягваюць звяртацца да тэмы дзяцей і вайны, да ўласнага ваеннага дзяцінства. Акрамя рамана В. Казько, у 1980–1990-я гады яна адлюстравалася ў аўтабіяграфічным творы А. Адамовіча «Vixi» (1993). Пражытаму ў гады вайны пісьменнік ужо прысвяціў мастацкую дылогію «Партызаны» (частка 1 – «Вайна пад стрэхамі», 1960; частка 2 – «Сыны ідуць у бой», 1963), аднак ён ізноў адчуў патрэбу вярнуцца ў тыя далёкія часы: «Я не збіраюся распачынаць безнадзейную ў літаратуры спробу выкарыстаць адпрацаваны астылы пар. Перапісваць свае першыя раманы нанова... Не, мэта ў мяне і задача іншая. Зірнуць на многае (і на самога аўтара раманаў) з такой будучыні, дзе ўжо

бачны край жыцця. А раптам гэта здасца цікавым. Ці хоць бы карысным» [21, с. 52].

Спробу вярнуцца ў сваё дзяцінства робіць і Ф. Камон у кнізе «Не ўбачаныя ніколі сонца і месяц», якую можна назваць своеасаблівым сінтэзам «ваеннай» і «вясковай» прозы ў італьянскай літаратуры. У час вайны аўтару было 8–9 гадоў, і галоўным героем свайго рамана ён зрабіў хлопчыка, што назірае за акаляючым светам з вялікага дрэва: «Адныя іншаземцы хаваліся, другія іх шукалі, жыццё было такім, якім павінна было быць у часы першабытных ордаў, калі ўсе абараняліся ад усіх, у любую часіну дня або ночы» [260, p. 141]. Вачыма дзіцяці падзеі рамана «Але каханне – не» падае і Дж. Панса. І тут галоўны герой, сямігадовы Джавані, не зусім разумее, што адбываецца вакол яго, але страта блізкіх людзей, пакуты, што выпалі на долю яго сям'і, назаўсёды пакідаюць след у душы хлопчыка.

З тэмай ваеннага дзяцінства ў кнізе Ф. Камона звязана і праблема памяці, аднак, у адрозненне, напрыклад, ад І. Шамякіна («Вазьму твой боль»), яе ўздымае не галоўны герой, а персанаж, які з'яўляецца перш за ўсё назіральнікам. У першай частцы «Хто ён, той, што вяртаецца?» Ф. Камон распавядае, як у адну з італьянскіх вёсак прыязджае пажылы немец, каб набыць яблыкі. Усе яму лагодна ўсміхаюцца, але «там прысутнічае твой бацька, дзед твайго сына», які ўважліва слухае размову, і калі разумее, што іншаземец добра ведае іх мясціны, пытаецца, ці не быў ён тут падчас вайны. Гэта пытанне парушае ўсталяваную гармонію размовы, і кропля чырвонага віна, што падае на порткі госця, быццам кропля крыві, якую не сцерці ніякімі намаганнямі. У заключным слове выдаўца адзначаецца, што Ф. Камон стварыў гэтую кнігу, «каб расказаць пра немагчымасць справядлівасці і забыцця віны» [260, p. 142].

Такім чынам, у беларускай і італьянскай літаратурах канца XX стагоддзя адбываецца пераасэнсаванне ваенных падзей

у сувязі са зваротам да новых герояў і персанажаў, пра якіх раней не пісалі, вызначэннем ролі прадстаўнікоў розных варожых лагераў. Праблема дабра і зла патрабуе ўсё больш дэталёвага разгляду з выхадам на псіхалагічны аналіз ўнутранага свету герояў, спробы высветліць матывацыю і наступствы іх дзеянняў. Аўтары прыходзяць да высновы, што вывады наконт маральных якасцей чалавека не заўсёды можна рабіць толькі на падставе яго прыналежнасці да таго ці іншага боку; важна прымаць пад увагу і тыя матывы, якімі кіраваўся чалавек у сваім выбары.

Акрамя таго, апісанае ў творах паўсядзённае быццё дапамагае раскрываць трагедыю вайны з усіх бакоў. Трагедыю, што парушае нармальны ход падзей і натуральныя для чалавека ўмовы існавання, ставіць у сітуацыю, калі ніякі выбар, ніякі зыход не можа быць станоўчым. Беларускія і італьянскія аўтары падкрэсліваюць, што больш за ўсё драматызм ваенных падзей закрануў дзяцей, хоць дзіця нараджаецца не для жорсткасці і смерці, а для любові і жыцця. Пры гэтым у беларускай літаратуры тэма ваеннага дзяцінства распрацоўвалася больш шырока і паслядоўна на працягу ўсёй другой паловы XX ст. у параўнанні з італьянскай прозай. Канцэнтрацыя ўвагі на штодзённых стасунках, імкненні зразумець унутраны свет прадстаўнікоў супрацьлеглага боку ўзмацняе гуманістычны пафас твораў ваеннай прозы беларускіх і італьянскіх пісьменнікаў у гэты перыяд.

### 4.3. «Маліцца за ворагаў», або Тэма прымірэння ў беларускай і італьянскай ваеннай прозе

Адной з праблем літаратуры, увага да якой з часам не паслабляецца, застаецца псіхалогія і ўнутраны свет ворага і стаўленне да яго, аднак і тут адбываюцца пэўныя трансфармацыі. Яны ў першую чаргу датычацца выбару ракурсу ў асвятленні фарміравання асобы. Вораг-антыпод цікавіць пісьменні-

каў ужо не толькі як увасабленне фашысцкай ідэалогіі, вартым увагі становіцца і эвалюцыя яго светапоглядных пазіцый, нават дэталі яго жыцця: звычкі, любімыя справы, захапленні, а таксама шлях, якім ён прыйшоў да ўчынкаў, неадпаведным гуманістычным нормам суіснавання. Узнікае раман-даследаванне, мэта якога – высветліць і распавесці гісторыю чалавека, які першапачаткова не мае нават імя.

Такім творам на аснове вяртання да ваенных падзей становіцца раман «Прапаўшы без звестак з Марбурга» Нута Рэвэлі. Гэты італьянскі пісьменнік прымаў удзел у Другой сусветнай вайне, ваяваў на Доне, быў і на тэрыторыі Беларусі. Штуршком для напісання кнігі стала рэальная гісторыя забойства аднаго нямецкага афіцэра, чыё імя на працягу доўгага часу заставалася для ўсіх невядомым. Для Рэвэлі важна было высветліць, кім быў насамрэч гэты чалавек, бо пра яго хадзілі самыя розныя чуткі: «Я не адчуваю ніякай спагады ў адносінах да немцаў. Але калі існаваў хаця б адзін немец, які б адрозніваўся ад уражання, што склалася ў мяне аб іх, то я б хацеў ведаць яго гісторыю» [292, p. 35].

Пошукі «добрага немца» адлюстроўваліся і ў беларускай літаратуры. У аснове іх ляжалі рэальныя, хоць і вельмі рэдкія, эпізоды, таму яны часцей з’яўляліся ў тэкстах, створаных на дакументальнай аснове. У кнізе А. Адамовіча, У. Калесніка і Я. Брыля «Я з вогненнай вёскі...» (1975) жанчыны ўспамінаюць нешматлікія прыклады, калі немцы адмаўляліся забіваць мірных жыхароў. Вядомы расійскі перакладчык з нямецкай мовы Леў Копелеў у адным з артыкулаў, напісаным у 1989 годзе, прыводзіць такі выпадак: «Летам 44-га ў беларускай вёсцы нас сустрэў натоўп узбуджаных, гаманкіх жанчын. Яны вялі нямецкага салдата. З плачам і смехам бабы патрабавалі ставіцца да “энтага фрыца” як да сябра. “Нашу вёску ўратаваў, – лямантавалі яны. – Эсэсманы хацелі ўсіх нас на вуліцу выгнаць і хаты падпаліць, а ён не даў – крычаў на іхніх сал-

датаў, нават аўтаматам пагражаў. І ў нас застаўся – бараніць вёску ад новых падпальшчыкаў» [134, с. 229].

Думаецца, вынікам працы з дакументальным матэрыялам стала і мастацкая аповесць А. Адамовіча «Нямко» (1992) з падзагалоўкам «Нявыдуманая гісторыя». Яе галоўны герой, малады нямецкі салдат Франц, трапляе ў сітуацыю «чужога сярод сваіх»: «Няўжо і сапраўды ёсць нешта страшнейшае за смерць? Ды колькі хочаш – у гэтым жыцці, не адзін чалавек у гэтым пераконваўся. Вось і Франц вырашыў: «крывавае мяса», але толькі каб ня ўзялі яго жыўцом, не прызналі ў ім «свайго», немца! Змог бы ён ці ня змог – калі б не перашкодзіла Паліна, – хто ведае. Але што ён больш, чым смерці пужаюцца, сваіх спужаўся – гэта было. Такое бывае з людзьмі» [15, с. 214].

Немцы, не падобныя да іншых, сустракаюцца ў раманах М. Аўрамчыка «Палон» і «У падзямеллі» (1985). Гэта Карл Кольб, які спачуваў палонным і як мог дапамагаў, і шахцёр Швэрмер, зносіны з якім дапамагаюць Янку перажываць цяжкасці палону: «Цяпер Янка адчуваў, як у падзямеллі, сагрэтая Швэрмеравай цеплынёй, адтайвала ягоная настылая душа, прагна ўбіраючы ў сябе прарошчаныя зярняткі дабрыні і спагады» [32, с. 190]. Трэба адзначыць, што раней многія аўтары выказвалі свае меркаванні пра нямецкі народ, але рэдка – адносіны да немцаў-салдат і непасрэдных з імі кантактаў.

Шлях, які абірае Нута Рэвэлі, аказваецца вельмі няпростым, поўным сумненняў. Калі аўтар разглядае дзверы спаленых немцамі дамоў паселішча ў Бовес, дзе загінулі людзі, то ізноў, невядома ў які раз у яго ўзнікае пытанне: ці мае сэнс захоўваць далей ілюзію наконт існавання «добрага немца»? Сапраўды, гэта вельмі складана зрабіць, бо паводзіны немцаў у адносінах як да мірнага насельніцтва, так і тых, хто змагаўся супраць іх, вызначаліся ніяк не лагоднасцю. Пры гэтым Рэвэлі адзначае, што тут ёсць віна не толькі немцаў, але і тых прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва, якія сталі на іх

бок: «...фашысты (італьянцы. – *А. Д.*) паводзілі сябе як хеўра ландскнехтаў, пераўзыходзячы ў жорсткасці саміх немцаў» [292, р. 19]. Уласна кажучы, такая ж думка гучыць і ў рамане В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго»: «Сліж гэта. Свой. А здзекуецца горш за немцаў. Немцы гэтага не твораць, што твораць свае» [22, с. 235], і В. Быкаў, ствараючы вобразы паліцаяў Гужа і Каландзёнка ў рамане «Знак бяды»: «А Гуж? ...цяпер адно ўпіваецца дадзенай яму немалой уладай, разам з немцамі панішчыў местачковых яўрэяў, разрабаваў іхняе майно і дзень пры дні фарсіць у рудой скуранцы, што нядаўна яшчэ насіў... Яфім Кац. Вось табе і сваё кіраўніцтва» [51, с. 264].

Адносіны Рэвэлі да немцаў мяняюцца з цягам часу. Так, пісьменнік згадвае, што пасля вяртання з рускага фронту ён «...настолькі ненавідзеў немцаў, што дастаткова было глянуць на іх, як кроў стукала ў галаве. Я лічыў іх адзінымі вінаватымі ў нашай бядзе» [292, р. 75]. Аднак мінула пяцьдзясят гадоў, і вастрыня пачуццяў змяняецца памяркоўнасцю, якая тым не менш не азначае, што ўсё забыта: «Немцы... Многія былі вымушаны быць жорсткімі, павінны былі выконваць загады. Сёння ў мяне няма больш нянавісці. Але я ім не дарую» [292, р. 111].

У рэшце рэшт аўтар знаходзіць звесткі, якія датычацца забітага немца, і вобраз «самотнага конніка», што лашчыць дзяцей і ў вольны час іграе Баха, знікае, быццам дым. Тым не менш расследаванне, якое здзейсніў пісьменнік, – вельмі важны крок і для яго самога, і для італьянскай літаратуры, гэта, у сваю чаргу, падкрэсліла і крытыка. Так, напрыклад, Гафрэда Фофі адзначыў: «Магчымасць надаць Ворагу асабісты твар і акрэсліць яго індывідуальныя фізічныя і маральныя асаблівасці, што не адпавядаюць дадзенаму вобразу, робіцца фундаментальным, катарсічным крокам, каб пэўным чынам вярнуць чалавечнасць нам самім» [271, р. XIV]. І далей крытык выказвае вельмі важную думку, што знайсці падабенства ў гісторыі Ворага з нашым асабістым лёсам азначае вышэйшую пры-

ступку даросласці. У сваю чаргу нямецкі крытык Енс Петэрсэн адзначыў, што «Рэвэлі напісаў кароткую, але важную кнігу, якая чытаецца з узрушэннем. Яна ўяўляе сабой новую прыступку ў прымірэнні паміж нядаўняй нямецкай і італьянскай гісторыяй і паміж культурамі нашых краінаў» [291, p. XX].

Не толькі Н. Рэвэлі, але і П. Леві вяртаецца да вайны і да свайго ўласнага ваеннага вопыту. Да гэтага пісьменніка падштурхнула ўзнаўленне палемікі вакол падзей мінулай вайны і нацысцкага руху. У кнізе «Ці гэта чалавек?» Леві адказваў на пытанне «як?», асэнсоўваючы розныя аспекты паводзін людзей. На пытанне «чаму?» ён шукае адказ праз 40 гадоў. Тэма Асвенціма як канцэнтрацыйнага лагера паўстае са старонак мастацка-публіцыстычнай кнігі «Тапельцы і ўратаваныя», напісанай за год да смерці пісьменніка, назва якой супала з назвай аднайменнай часткі рамана «Ці гэта чалавек?».

У кнізе «Тапельцы і ўратаваныя» П. Леві звяртаецца не толькі да ўласных назіранняў за чалавечай прыродай, але і ў сваім аналізе чалавека абапіраецца на творчыя метады і інтэрпрэтацыі Ф. Дастаеўскага, Т. Мана, А. Мандзоні, А. Салжаніцына, на ўспаміны іншых былых вязняў ці былых нацыстаў, вяртаецца да старонак дзвюх першых сваіх кніг, прысвечаных вайне. Публіцыстычнасць кнігі П. Леві блізкая да публіцыстычнасці А. Адамовіча. Нельга не адзначыць, што ў творах італьянскага аўтара назіраецца інтэртэкстуальная сувязь з раманамі Дастаеўскага ў плане асэнсавання чалавека ўвогуле, а таксама чалавека зняволенага, жыццё якога было яскрава апісана ў рамане Дастаеўскага «Запіскі з мёртвага дома». У той ці іншай ступені гэтую тэму развіваюць і творы беларускіх пісьменнікаў: Л. Геніюш «Споведзь» і Ф. Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ», А. Карпюка «Пушчанская адысея», М. Аўрамчыка «Палон» і «У падзямеллі», а таксама А. Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ». Тэма адчужэння і выкарыстання чалавека чалавекам была прааналізавана ў публіцыстыцы А. Адамовіча і ў

яго рамане «Карнікі», які лічыцца мастацка-публіцыстычным творам.

Варта між тым адзначыць, што ў дадатку да школьнага выдання кнігі «Ці гэта чалавек?» 1976 года П. Леві (як і ў артыкуле «Чорная дзірка Асвенцыма», апублікаваным у 1987 г.) прыведзены адказы пісьменніка на пытанні вучняў пра канцэнтрацыйныя лагеры, і адно з іх датычылася савецкіх лагераў. У рэшце рэшт лагер як сацыяльная структурная адзінка сам па сабе быў прыналежнасцю соцыума ненармальнага, хворага, на што звяртае ўвагу і пісьменнік. Таму паралелі з кнігай «Архіпелаг ГУЛАГ» А. Салжаніцына, што прыводзіць П. Леві ў сваіх тэкстах, апісваючы метады барацьбы за выжыванне, не здзіўляюць сваім падабенствам. Але тым не менш, і гэта падкрэслівае аўтар, мэты стварэння лагераў не былі аднолькавыя, таму што, на думку пісьменніка, у ГУЛАГу ўсе былі роўныя, у ім не было падзелу на супер- і недачалавекаў; толькі ў нямецкіх лагерах выкарыстоўваўся газ, спецыяльна створаны дзеля забойства людзей, гэтаксама, як і прамысловае выкарыстанне трупаў і нават попелу, адбывалася толькі ў Германіі. Пры гэтым, на думку П. Леві, сістэма ГУЛАГу мела хоць нейкую рацыянальную мэту – працу, у той час як нямецкія лагеры былі «чорнымі дзіркамі», у якіх зніклі сотні тысяч мужчын, жанчын і дзяцей.

На гэтую нечалавечую жорсткасць гітлераўцаў у адносінах да іншых народаў звяртае ўвагу і Ф. Камон: «Тое, што для нас было вынішчэннем, у немцаў называлася аперацыямі, таму што немцы змагаюцца не супраць варожага войска, але супраць людзей: каб перамагчы ў вайне, ім недас-таткава нанесці паразу арміям, яны павінны выкрэсліць народ» [260, p. 80].

У прадмове да «Тапельцаў і ўратаваных» П. Леві аналізуе мастацкія тэксты і дакументальныя сведчанні пра канцэнтрацыйныя лагеры. Успаміны пакінулі многія з тых, чыё жыццё было ўцягнутым у гэты вір знішчэння і смерці, але наколькі

яны з’яўляюцца праўдзівымі і аб’ектыўнымі? Асабліва гэта датычыцца ўспамінаў былых катаў і іхніх спроб вытлумачыць свае дзеянні тым, што яны падпарадкоўваліся загаду. Такое тлумачэнне, на думку аўтара, не можа стаць апраўданнем і не здольнае вызваліць іх ад адказнасці. Аднак у падобных паводзінах ворагаў ёсць драматычная аснова: таталітарная дзяржава – страшная сіла, здольная аказваць магутны ціск на чалавека.

Увогуле ж, лічыць П. Леві, самыя сумленныя і аб’ектыўныя сведкі вайны загінулі. «Выжывалі горшыя, інакш кажучы, тыя, што хутчэй адаптаваліся; лепшыя памерлі ўсе» [273, p. 63]. Такую ж выснову робіць падчас пошукаў свайго «добрага немца» і Н. Рэвэлі: «Колькі разоў у тыя ліхія часы я казаў сабе, што на вайне плацілі за ўсё добрыя, а не горшыя» [292, p. 152], і В. Быкаў у развагах Агеева з «Кар’ера»: «...уся справа ў тым: хто плоціць? Плоціць, канечне ж, той, хто менш за ўсіх вінаваты, хто не разлічвае на выгаду, хто ад нараджэння схільны даваць, у адрозненне ад тых, хто навучыўся прыстойна браць ды патрабаваць з іншых» [52, с. 296]. Тыя, хто выжыў, лепшымі сябе не лічылі, што вызначыла відавочны катэгарызм падзелу на лепшых і горшых.

Адсюль – пачуццё сораму і вінаватасці ў адносінах да тых, хто загінуў на вайне. Адна з частак кнігі П. Леві «Тапельцы і ўратаваныя» так і называецца «Сорам», у канцы якой пісьменнік разважае пра падзеі, што адбыліся ў Камбоджы (інтэртэкстуальныя паралелі назіраюцца з А. Адамовічам, які згадвае пра Камбоджу ў канцы аповесці «Карнікі»), каб яшчэ раз падкрэсліць – чалавек вельмі далёкі ад дасканаласці. Пры гэтым кнігі італьянскага пісьменніка не пакідаюць пачуцця безнадзейнасці. Нельга не згадзіцца з Ц. Тодаравым: «Святло выпраменьвае не свет, апісаны і прааналізаваны Леві, але сам Леві: самое тое, што такія людзі, як Леві, існавалі, што яны сумелі супрацьстаяць заразе зла, можа па-свойму стаць крыніцай надзеі для нас» [211, с. 231].

Думкі розных пісьменнікаў наконт чалавечай прыроды часта перакрыжоўваюцца, тыпалагічна супадаюць, завастраючы аднолькавыя пытанні. Так, праблему «ўратавання» чалавечай душы, акрамя П. Леві, узнімае і В. Казько: «Мар'ян... зразумеў, што за вайна прайшлася па зямлі. Недарэмна звер бяжыць за паратункам да чалавека. А які ж пасля такой вайны будзе ўратаваны чалавек, ці чалавек ён, калі пабачыў і паспытаў такое» [114, с. 46], гэтую ж думку развівае ў сваім творы П. Леві: «Не па добрай волі, не з-за недарэчнасці сваёй або віны мы, тым не менш, пражылі месяцы і гады на ўзроўні жывёлы: нашыя дні былі запоўненыя ад світання да змяркання голадам, цяжарам, холадам, страхам, і месца для роздуму, развагаў, пачуццяў было зведзена да нуля» [273, p. 57]. Таму і шлях чалавека да нармальнага стану і нармальнага ўспрымання жыцця вельмі доўгі, а іншым разам і ўвогуле немагчымы.

Каштоўнасць твораў П. Леві не толькі ў дакументалізме, але і ў аналітычным падыходзе да пастаўленых праблем. П. Леві ўпэўнены, што кожны вопыт карысны і можа стаць суровай школай жыцця: «Лагер для мяне стаў своеасаблівым Універсітэтам; ён навучыў нас глядзець вакол і ацэньваць людзей» [273, p. 114]. Адукаванасць аўтара, валоданне нямецкай мовай, аналітычныя здольнасці дазвалялі яму прапускаць праз розум і душу трагедыю асобнага чалавека і ўсяго чалавецтва, што адбывалася на яго вачах. Прагматык і рэаліст, П. Леві прымае чалавека такім, якім ён ёсць, падзяляючы прадстаўнікоў роду чалавечага выключна па маральна-этычных якасцях. І хоць існуюць пэўныя механізмы ўздзеяння на чалавека, якія апісвае аўтар, аналізуючы розныя пераўтварэнні чалавечага ў нялюдскае, неабходна ўмець іх адрозніваць і супрацьстаяць ім. Памяць – адзін са сродкаў, які дапамагае гэтага дасягнуць. Безумоўна, ніводзін чалавек, які сутыкнуўся з жахамі Другой сусветнай вайны, а таксама з несправядлівасцю сацыяльнай сістэмы, не зможа забыць свае пакуты і

тым больш дараваць, але трэба адзначыць, што ў літаратуры канца XX стагоддзя роздум пераважае над эмоцыямі.

Немалаважна і тое, што проза гэтага перыяду часцей звяртаецца да хрысціянскіх каштоўнасцей. У выніку змен, што адбыліся ў грамадстве, героямі твораў становяцца святары або блізкія да іх людзі, напрыклад, Дон Віторыё з рамана Дж. Панса «Але каханне – не», Дон Гвіда з рамана Э. Анджаліна «Мангольская зіма» ці пападдзя Бараноўская з аповесці В. Быкава «Кар'ер»: «Ведаеце, мы былі абдзелены ў нашым жыцці дабрынёй, можа быць, таму так даражылі яе малаю рэштаю, якая нам дасталася. І якой мы стараліся надзяляць іншых. Што ж яшчэ магло быць даражэй? Золата? Багацце? Іх у нас не было ніколі, а дабрыня была, да яе мяне далучыў муж... Для сябе ўжо не трэба, мне што... Для іншых. Тым больш, для харошых людзей. Каторым яна патрэбна» [52, с. 97]. Эпізод з Донам Віторыё з кнігі Дж. Панса, святаром, які ахвяруе сваім жыццём, каб уратаваць хоць аднаго з дзесяці заложнікаў, – яскравае таму сведчанне. Ужо ў пачатку XXI стагоддзя (2004) выйшла кніга Ірыны Жарнасек «Будзь воля твая», у аснову якой пакладзены рэальныя падзеі, якія адбыліся ў беларускай вёсцы Росіца, калі айцы марыяне Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра (героі кнігі) ахвяравалі сабой і загінулі разам з вернікамі. Гэта сведчыць як пра эвалюцыю дадзенай тэмы ў беларускай літаратуры, так і пра тыпалагічнае сыходжанне ў літаратурах розных краін як вынік адлюстравання падобных сітуацый.

Увогуле ж, нягледзячы на тое, што ў 1929 годзе каталіцкім касцёлам было падпісана пагадненне з ўрадам фашысцкай Італіі, а ў 1933 годзе – з Трэцім рэйхам, многія святары як маглі дапамагалі Супраціўленню і мірнаму насельніцтву. Нездарма галоўнымі героямі славутага неарэалістычнага фільма Рабэрта Расэліні «Рым – адкрыты горад» (1947), прысвечанага барацьбе Супраціўлення, сталі камуніст-падпольшчык і святар.

Такім чынам, калі ў італьянскіх творах зварот да персанажаў – прадстаўнікоў хрысціянства як носьбітаў агульначалавечых каштоўнасцей меў пэўную нацыянальную традыцыю, то ў беларускай савецкай літаратуры гэты аспект практычна адсутнічаў. Аднак у апошнія дзесяцігоддзі XX ст. сталі з'яўляцца творы з падобнымі героямі. У аповесці В. Быкава «Кар'ер» гэта ўжо згаданая пападдзя Бараноўская, на думку якой «<...> людзі дзеляцца не па саслоўнай ці класавай прыналежнасці, не па прафесіях і пасадах, а на добрых і злосных, і што на аднаго добрага ў жыцці трапляе дзесяць злосных. І што дабрата немагчымая без бога, а са злом у чалавеку абавязкова пасяляецца д'ябал, якому ўжо ніхто не дасць рады» [52, с. 93]. Трэба адзначыць, што ў «Сотнікаве» таксама прысутнічае хрысціянскі кантэкст, як адзначае В. Локун: «...маральныя пошукі пісьменніка скіраваны ... на спасціжэнне хрысціянскіх запаветаў, што адкрывае герою новыя магчымасці ўзняцца на вышыні чалавечага духу» [141, с. 278]. Хрысціянскія матывы закранаюцца і ў аповесці В. Быкава «Пакахай мяне, салдацік» (1994), але гэта адбываецца ўскосна, і ў аповесці А. Адамовіча «Нямко».

Менавіта А. Адамовіч у аповесці «Нямко» сфармуляваў важную думку твораў на ваенную тэму гэтага перыяду: «…вяртаемся, вяртаем сябе адно аднаму – мы з немцамі. Значыць, няма нічога канчатковага ў гэтым свеце. У гэтым і наша надзея» [15, с. 274].

Такім чынам, у літаратуры канца XX стагоддзя назіраюцца іншыя адносіны да прадстаўнікоў варожага лагера. Іншыя не з пункту гледжання пошукаў апраўдання іх дзеянняў, а з пункту гледжання больш глыбокага разумення тых працэсаў, што адбываліся ў тагачаснай Еўропе і адпаведным чынам уплывалі на душу і розум чалавека.

* * *

Ваенная проза адкрыла новыя магчымасці ў асэнсаванні чалавечай прыроды, В. Івашын наступным чынам акрэсліў яе ролю ў беларускай літаратуры: «Раман і аповесць аб Вялікай Айчыннай вайне як бы факусіравалі дасягненні нашага нацыянальнага эпасу ў адлюстраванні гераічнай гісторыі народа і ролі асобы ў гістарычным працэсе. Тэма вайны стала тым асялкам, на якім адточваліся аналітычныя здольнасці і магчымасці нашай прозы, яе даследчы пафас, яе псіхалагізм» [103, с. 187]. Сапраўды, менавіта ў ваеннай прозе ўздымаюцца праблемы памяці і захавання чалавечай годнасці, сэнсу жыцця і прызначэння чалавека. Кожнае пакаленне шукае адказ на гэтыя пытанні, таму канцэпцыя чалавека як у беларускай, так і ў італьянскай літаратуры ў цэлым і ў ваеннай прозе, у прыватнасці, ёсць з'ява дынамічная, яна эвалюцыяніруе і ўзбагачаецца. З. Патапава адзначае, што «...на працягу пасляваеннага саракагоддзя (напісана ў 1985 г. – *А. Д.*), калі на змену неарэалізму прыйшлі новыя мастацкія плыні, кола праблем, звязаных з падзеямі антыфашысцкай барацьбы, як і раней выконвае важную ролю ў італьянскім літаратурным працэсе і, ў сваю чаргу, набывае новыя ракурсы ў дыялектычнай сувязі з актуальнымі праблемамі сённяшняга дня» [187, с. 298].

З адлегласці часу многія рэчы бачацца ў іншым святле, і неабходнасць пераасэнсавання падзей Другой сусветнай вайны гэтым апраўдваецца. У 1991 годзе І. Шамякін заўважыў: «Прыйдуць новыя пісьменнікі, напішуць, можа, больш таленавіта, дакументаў ім больш раскрыюць, але ўсё роўна наўрад хто з іх напіша з той *праўдай*, якую неслі мы, удзельнікі. Кожны бачыў яе па-свойму – праўду вайны, гэта залежала ад таго, як быў настроены, хто яго акружаў і дзе ён ваяваў» [247, с. 292]. Аднак трэба адзначыць, што ў час вайны ці адразу пасля яе заканчэння непасрэдным удзельнікам цяжка было ўявіць поўную карціну той трагедыі, што адбывалася ў Еўропе. Іх ведан-

не датычылася ў першую чаргу непасрэдна таго, што перажылі яны самі. Многія факты сталі вядомымі ўжо пасля Перамогі, а некаторыя – толькі ў апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя, і таму патрэба асэнсавання ваенных падзей з розных ракурсаў і з новымі метадалагічнымі падыходамі не знікла. Пісьменнікі, што прыйшлі ў літаратуру праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля заканчэння вайны, і тыя, што пачалі сваю творчасць у 1940–1950-я гады і праз некаторы час зноў вярнуліся да асэнсавання праблемы чалавека на вайне (А. Адамовіч, П. Леві, Н. Рэвэлі і інш.) вельмі розныя. Змяняліся самі пісьменнікі і іх светапогляды, з'яўляліся новыя гістарычныя даследаванні вайны, і ўзнікала неабходнасць нешта пераглядзець, нешта дадаць, ад нечага, магчыма, адмовіцца.

Беларуская і італьянская ваенная проза канца XX стагоддзя мае свае нацыянальныя адметнасці, якія датычацца і разумення чалавека. У беларускай літаратуры канца 1980-х гадоў пісьменнікі прыйшлі да маштабнага асэнсавання гістарычных падзей XX стагоддзя і, як адзначае М. Тычына, «…у сярэдзіне 80-х гг. адбылася змена літаратурных цыклаў. Папярэдні перыяд, які атрымаў магутны стымул для эстэтычнага руху наперад у часы "адлігі" і ўжо прайшоў стадыі ўздымаў і спадаў, растраціў сваю першапачатковую энергію і саступіў месца новай літаратурнай эпосе. Аднак выразнай рысы паміж "старой" і "новай" літаратурамі няма» [224, с. 18]. Тым не менш літаратура канца XX стагоддзя ў звароце да ваеннай тэмы ў беларускай і італьянскай прозе вызначаецца больш шырокім хранатопам з праекцыяй у папярэднія або наступныя гады (В. Быкаў, Ф. Камон, В. Карамазаў, П. Леві). Адносіны аўтараў да персанажаў можна назваць больш міласэрным, паглыбляецца аналіз матываў паводзін, іх сувязі з жыццёвымі падзеямі таго ці іншага персанажа (В. Быкаў, Н. Рэвэлі і інш.).

І беларускія, і італьянскія пісьменнікі разглядаюць Другую сусветную вайну і як вайну грамадзянскую, бо ішла

паміж прадстаўнікамі аднаго народа (здаралася, што сем'і партызанаў і паліцыяў былі суседзямі). У гэтым кантэксце паўстае праблема «сваіх» і «чужых», якая таксама вырашаецца без ранейшай просталінейнасці (В. Адамчык, К. Мадзанціні і інш.). Немалаважнай прыкметай паглыблення гуманістычнай напоўненасці твораў стала з'яўленне герояў – носьбітаў хрысціянскіх каштоўнасцей (Э. Анжаліна, В. Быкаў, Дж. Панса).

Нельга не звярнуць увагу на тую акалічнасць, што агульная танальнасць італьянскай ваеннай прозы больш аптымістычная, светлая, жыццесцвярджальная. Думаецца, прычына не толькі ў асаблівасцях менталітэту, але яшчэ і ў тым, што ў Італіі заўсёды быў магутны ўплыў хрысціянства. Наконт беларускай літаратуры П. Абрамовіч заўважае: «Адчай, безвыходнасць, расчараванне – ці не на гэтых трох кітах трымаецца мацярык беларускай літаратуры? З часоў Багрыма і Багушэвіча і да сённяшніх дзён трымаецца ў нашай літаратуры традыцыя – костка ад косткі народнай, – якая захоўвае песімістычны светагляд... Аднак ёсць пісьменнікі, чый песімізм – светлы. Як у Васіля Быкава... Як у светлай памяці Вячаслава Адамчыка. І гэта ўжо іншая традыцыя беларускай літаратуры» [3, с. 106]. Пэўныя тыпалагічныя сыходжанні ў развіцці ваеннай тэмы ў беларускай і італьянскай літаратуры тлумачацца агульнасцю мастацкіх уплываў і падабенствам тых гістарычна-палітычных момантаў, якія датычыліся свабоды слова, свабоды творчай думкі, фарміравання рэалістычных тэндэнцый у адлюстраванні жыццёвых падзей, а таксама агульнымі варункамі сусветнага літаратурнага працэсу.

Трэба адзначыць, што калі на пачатку 1980-х ваенная проза была, бадай, у першых шэрагах беларускай літаратуры па колькасці твораў, то паступова яна пачынае саступаць месца гістарычнай праблематыцы, а таксама філасофскай, інтымна-лірычнай і авангарднай прозе. З пункту гледжання колькаснага паказчыка ў італьянскай літаратуры заўважных змен, бадай

што, не адбылося, цікавасць да Другой сусветнай вайны і чалавечага лёсу ў варунках XX стагоддзя застаецца трывалай, хоць, як адзначалася вышэй, найбольшы ўздым цікавасці да гэтай тэмы назіраўся ў сувязі з 50-годдзем заканчэння Другой сусветнай вайны.

Канцэпцыя чалавека ў прозе на тэму Другой сусветнай вайны ў апошнія гады XX стагоддзя ўскладнена падзеямі, якія адбыліся пасля яе завяршэння, што ўплываюць на інтэрпрэтацыю мінулых падзей. Чалавек, які паўстае са старонак кніг беларускіх і італьянскіх аўтараў, – асоба з трагічным адчуваннем часу і свайго лёсу ў гісторыі.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Філасофія XX стагоддзя паставіла духоўны свет чалавека і праблемы яго існавання на першае месца, з пункту гледжання вывучэння чалавека мастацкая літаратура зрабіла не менш. Пісьменнікі выказаліся супраць любога гвалту над асобай, якая б тэорыя ні ляжала ў яго аснове – палітычная ці рэлігійная, расавая ці эканамічная. Беларускія і італьянскія аўтары XX стагоддзя стварылі выдатныя творы, у якіх глыбокі мастацкі аналіз унутранага свету асобы ва ўмовах вайны спалучаецца з высокімі эстэтычнымі якасцямі тэкстаў.

У выніку праведзенага даследавання можна зрабіць наступныя вывады:

1. Беларуская і італьянская проза маюць сваіх унутраных і знешніх папярэднікаў у рэалістычным адлюстраванні ваенных падзей і чалавека на вайне. Вялікае значэнне ў развіцці мастацкай думкі XX стагоддзя мелі творчасць Ф. М. Дастаеўскага і пастаўленыя ім пытанні і ўвогуле класічная руская літаратура. Італьянскія пісьменнікі, пачынаючы з 1940-х гг., натхняліся таксама творамі амерыканскіх аўтараў (Э. Хемінгуэя, У. Фолкнера і інш.), а таксама аўтараў літаратуры страчанага пакалення, чый уплыў на беларускую ваенную прозу адчуўся пазней, у часы «адлігі». І ў беларускім, і ў італьянскім літаратуразнаўстве канца XX стагоддзя ўзмацняецца акцэнтуацыя ўвагі на экзістэнцыяльных аспектах чалавечага быцця, адлюстраваных як у літаратуры ўвогуле, так і ў літаратуры на ваенную тэму.

Важную ролю ў пастаноўцы праблем гуманістычнага зместу адыграла філасофская плынь экзістэнцыялізму. Пошукі маральных арыенціраў са спасылкай на Ф.М. Дастаеўскага («калі бога няма, то ўсё дазволена») экзістэнцыялістамі пашыраюцца межы разумення чалавечай сутнасці і маральнасці. У працах мысліцеляў-экзістэнцыялістаў часта сустракаецца

паняцце «канцэпцыя чалавека», і ў гэтым плане творы пра вайну як беларускіх, так і італьянскіх аўтараў таксама маюць на мэце аналіз чалавечай сутнасці і яе асэнсаванне (А. Адамовіч, В. Быкаў, Э. Вітарыні, П. Леві, А. Маравія, К. Чорны і інш.) [80, 83, 86].

Ваенная проза ў беларускай і італьянскай літаратурах, у якой галоўным матывам было спасціжэнне чалавека ва ўмовах вайны, прайшла ў другой палове XX стагоддзя пэўны эвалюцыйны шлях, у якім можна вызначыць тры перыяды. Кожны з іх адыгрывае важную ролю ў фарміраванні і развіцці канцэпцыі чалавека, з'яўляецца прыступкай для больш глыбокага разумення чалавечай прыроды, асвятлення яе з гуманістычна-хрысціянскіх пазіцый. Гэтыя перыяды ў многім прадвызначаны грамадска-палітычнымі працэсамі і знаходзяцца пад іх уплывам:

– 1940-я – сярэдзіна 1950-х гадоў у беларускай і ў італьянскай літаратурах знайшла шырокае адлюстраванне тэма чалавека як удзельніка барацьбы з фашызмам. На гэты час прыпадае росквіт сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры і неарэалізму ў італьянскай. Нягледзячы на розныя палітычныя пазіцыі аўтараў, кансалідуючай сілай з'яўлялася асуджэнне фашызму як злачыннай грамадскай з'явы, што прыводзіць чалавека і краіну да непазбежнага паражэння і спустошанасці;

– канец 1950–1970-х гадоў. Галоўнымі тэндэнцыямі ў беларускай літаратуры дадзенага перыяду можна назваць паступовы адыход ад схематызму ў адлюстраванні ваенных падзей і чалавечых характараў, паглыбленне псіхалагізму; у італьянскай – страта дамінуючых пазіцый неарэалізмам, адыход ваеннай тэмы на другі план.

– 1980–1990-я гады сталі перыядам перагляду і пераасэнсавання многіх папярэдніх мастацкіх падыходаў, творчых метадаў. Гэта таксама час далейшых пошукаў прымірэння ча-

лавека і гісторыі. І ў беларускай, і ў італьянскай літаратурах назіраецца трывалая цікавасць да тэмы вайны, спроба знайсці ў 1940-х гадах адказы на балючыя пытанні сучаснасці [80, 83, 84, 85]

У кожным з названых перыядаў у ваеннай прозе вылучаецца свой герой. Канцэпцыю чалавека ў беларускай і італьянскай літаратурах у 1940–1950-я гады аб'ядноўвае наступны тып героя: просты і мужны чалавек з народа, часцей за ўсё сялянскага паходжання. Галоўны герой і беларускай, і італьянскай літаратур 1960–1970-х гадоў – малады чалавек з багатым унутраным светам. Адбываецца (хоць і абумоўлены рознымі прычынамі) перанос цікавасці з вонкавых праяў, падзейных радоў да эмацыянальна-інтымнага свету. Канцэпцыя чалавека ў літаратуры канца XX стагоддзя на тэму Другой сусветнай вайны ўскладнена прагназаваннем далейшага развіцця гісторыі і неабходнасцю пераасэнсавання падзей 1940-х гадоў. І беларускія, і італьянскія пісьменнікі нярэдка разглядаюць Другую сусветную вайну на тэрыторыі сваёй краіны і як вайну грамадзянскую. Герой, які дзейнічае на старонках кніг беларускіх і італьянскіх аўтараў – асоба трагічная, і трагічнасць яе абумоўлена самім часам яе існавання [79, 80, 81, 87].

Эвалюцыя ваеннай прозы і інтэрпрэтацыя чалавека ў беларускай і італьянскай літаратурах у вызначаныя перыяды ў многім тыпалагічна супадаюць. І хоць некаторыя тыпалагічна падобныя моманты ў мастацкіх падыходах разыходзяцца па часе, тым не менш захоўваецца пэўная сістэмнасць у адлюстраванні характару героя, заснаваная на імкненні аўтараў да ўскладнення ўнутранага свету героя. Так, асабліва моцная цікавасць да лёсу простага чалавека ў італьянскай пасляваеннай прозе неарэалізму дэтэрмінавана тым фактам, што з падзеннем фашысцкага рэжыму і заканчэннем вайны літаратура атрымала новае дыханне. У беларускай літаратуры ў першыя

пасляваенныя гады тэма нядаўняй вайны лічылася неактуальнай, аддавалася перавага тэме адраджэння і сацыялістычнага будаўніцтва, аднак пасля XX з'езда камуністычнай партыі і выкрыцця «культу асобы» Сталіна ўвага да ваеннай тэмы ўзрастае.

Калі ў 1940–1950-я гады тэма Супраціўлення застаецца адной з галоўных у італьянскай прозе, то з канца 1950-х дамінуючыя пазіцыі займаюць праблемы сучаснасці. У беларускай літаратуры 1960–1970-х гадоў ваенная проза займае, бадай, галоўнае месца і застаецца прыярытэтнай у пачатку 1980-х, аднак падчас перабудовачных працэсаў на першы план выходзяць іншыя тэмы і ваенная проза ў чыстым выглядзе амаль перастае з'яўляцца. Для італьянскай літаратуры дадзены перыяд не вызначаецца рэзкім уздымам ці заняпадам ваеннай прозы, яна працягвае займаць сваё трывалае месца сярод іншых тэм, час ад часу набываючы статус актуальнай. Можна сказаць, што і ў італьянскай, і ў беларускай літаратурах у канцы XX стагоддзя наступіў перыяд адноснай стабільнасці і вызвалення ад уціску розных ідэалогій, назіраецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці твораў на ваенную тэму [83, 84, 85].

Другая сусветная вайна была самай трагічнай падзеяй XX стагоддзя для ўсёй Еўропы. Аўтары артыкула «Вайна як антрапалагічны фенамен: забарона і парушэнне забароны» адзначаюць наступнае: «У даляглядзе антрапалагічнага суб'екта падзея вайны артыкулюецца не ў рацыянальна-лагічнай схеме, чым "ёсць вайна", а ў бясконцай адкрытасці пытання аб тым, чаму чалавек зладжаны так, што кожнаму пакаленню тых, хто пражывае жыццё, дадзены досвед вайны. Маральны аптымізм (чалавецтва стала разумнейшым, талерантнейшым), роўна як і экзістэнцыяльны песімізм (трагічны выбар вайны – гэта чалавечы лёс), пераадольваецца антрапалагічным разваротам: ці здольны чалавек пераадолець нечалавечае ў сваёй прыродзе, якая мера гэтага вызвалення» [129, с. 32].

Беларускія і італьянскія пісьменнікі XX стагоддзя ў лепшых творах на тэму вайны прыклалі ўсе намаганні, каб спрыяць гэтаму пераадоленню.

Тыпалагічная блізкасць у разуменні праблем чалавека ў беларускай і італьянскай літаратурах звязана з агульнасцю мастацкіх уплываў, паступовым паглыбленнем гуманістычнага гучання прозы на тэму Другой сусветнай вайны. Зварот да гэтай гістарычнай падзеі ў беларускай і італьянскай літаратуры, безумоўна, стаў важным этапам для асэнсавання не толькі чалавека XX стагоддзя, але і чалавечай сутнасці ўвогуле (творчасць А. Адамовіча, В. Быкава, М. Вентуры, Э. Вітарыні, П. Леві, І. Навуменкі, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, К. Чорнага і іншых аўтараў). Канцэпцыя чалавека ў ваеннай прозе складаецца са спалучэння многіх чыннікаў: прыватнага ваеннага вопыту пісьменнікаў, філасофскага асэнсавання свету і асобы, псіхалагізацыі характараў персанажаў і мноства іншых фактараў, у тым ліку і пазалітаратурных, якія прама ці апасродкавана ўплываюць на светапогляд творцы і адпаведна на яго інтэрпрэтацыю праблемы чалавека на вайне. Але задача літаратуры застаецца нязменнай – дапамагчы асобнаму індывіду і чалавецтву ў цэлым усвядоміць і рэалізаваць свае лепшыя якасці, імкнуцца да паразумення паміж прадстаўнікамі розных супольнасцей і вырашаць любыя канфлікты так, каб жыццё чалавека было максімальна бяспечным.

# СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ


1. **Аббаньяно, Н.** Мудрость философии и проблемы нашей жизни / Н. Аббаньяно / пер. с итал. А. Л. Зорина. – Санкт-Петербург : Алетейя, 1998. – 512 с.

2. **Аббаньяно, Н.** Структура экзистенции. Введение в экзистенциализм. Позитивный экзистенциализм и другие работы / Н. Аббаньяно / пер. с итал. А. Л. Зорина. – Санкт-Петербург : Алетейя, 1998. – 312 с.

3. **Абрамовіч, П.** Проза для няўдачнікаў / П. Абрамовіч // ARCHE–SKARYNA, 2001. – № 4. – С. 104–106.

4. Адамовіч, А. М. Аб эстэтычнай глухаце ў крытыцы / А. М. Адамовіч // Літаратура, мы і час : літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1979. – С. 75–84.

5. **Адамович, А. М.** А если практически / А. М. Адамович // Избранные произведения в двух томах. – Минск : Маст. літ., 1977. – Т. 2. – С. 474–479.

6. **Адамовіч, А. М.** Беларускі раман: станаўленне жанра / А. М. Адамовіч. – Мінск : Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1961. – 296 с.

7. **Адамович, А. М.** Война и деревня в современной литературе / А. М. Адамович // Выбери – жизнь : лит. критика, публицистика. – Минск : Маст. літ., 1986. – С. 3–190.

8. **Адамовіч, А. М.** Зблізку і здалёк… / А. Адамовіч // Літаратура, мы і час : літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1979. – С. 205–227.

9. **Адамовіч, А.** Здалёк і зблізку : зб. літ.-крыт. арт. / А. М. Адамовіч. – Мінск : Маст. літ., 1976. – 624 с.

10. **Адамовіч, А. М.** З «Зялёнага сшытка» / А. М. Адамовіч // Крыніца. – 2000. – № 1. – С. 29–81.

11. **Адамович, А. М.** Каратели / А. М. Адамович. – Минск : Маст. літ., 1981. – 208 с.

12. **Адамовіч, А. М.** Культура творчасці : літ.-крыт. арт. / А. М. Адамовіч. – Мінск : Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1959. – 237 с.

13. **Адамовіч, А. М.** Маштабнасць прозы. Урокі творчасці Кузьмы Чорнага / А. М. Адамовіч . – Мінск : Навука і тэхніка, 1972. – 200 с.

14. **Адамовіч, А. М.** На бестэрміновай перадавой / А. М. Адамовіч // Здалёк і зблізку. Беларуская проза на літаратурнай планеце : зб. літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1976. – С. 438–558.

15. **Адамовіч, А. М.** Нямко / А. М. Адамовіч // Выбраныя творы. – Мінск : Кнігазбор, 2012. ‑ С. 193‑274.

16. **Адамович, А. М.** Становление жанра (Белорусский роман) / А. М. Адамович. – М.: Сов. пис., 1964. – 340 с.

17. **Адамовіч А. М.** Талстоўскі крок / А. М. Адамовіч // Здалёк і зблізку : зб. літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1976. – С. 3–57.

18. **Адамовіч, А. М.** Хатынская аповесць / А. М. Адамовіч. – Мінск : Нар. асвета, 1976. – 206 с.

19. **Адамовіч, А. М.** Шлях да майстэрства : станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага / А. М. Адамовіч. – Мінск : Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1958. – 180 с.

20. **Адамовіч, А. М.** Яго слова / А. Адамовіч // Літаратура, мы і час : літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1979. – С. 374‑382.

21. **Адамовіч, А. М.** Vixi / А. М. Адамовіч // Полымя. – 1993. – № 11. – С. 3–107.

22. **Адамчык, В.** Голас крыві брата твайго / В. Адамчык. – Мінск : Маст. літ., 1991. – 287 с.

23. **Адорно, Т. В.** Негативная диалектика / Теодор В. Адорно. – Москва : Научный мир, 2003. – 374 с.

24. **Акудовіч, В.** У вайны няма Айчыны / В. Акудовіч // ЛіМ. – 1998. – 16 студзеня. – С. 5–6.

25. **Акула, К.** Змагарныя дарогі / К. Акула. – Мінск : Маст. літ.,1994. – 572 с.

26. **Аліг'еры Д.** Боская камедыя / Д. Аліг'еры ; з італ. прадм. і рэд. Я. Сіпакова ; пер. тлумач., паслясл. У. Скарынкіна. – Мінск : Маст. літ., 1997. – 542 с.

27. **Андраюк, С.** Жыць чалавекам : літ.-крыт. арт. / С. Андраюк. – Мінск : Маст. літ., 1983. – 271 с.

28. **Андраюк, С.** Чалавек на зямлі : нарыс творчасці І. Пташнікава / С. Андраюк. – Мінск : Маст. літ., 1988. – 254 с.

29. **Арендт, Х.** Банальность зла: Эйхман в Иерусалиме / Х. Арендт. – Москва : Европа, 2004. – 424 с.

